**ВЕРШ НА СВАБОДУ.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.

Рэдактар *Валянціна Аксак*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Аляксандра Макавік*



ISBN 0-929849-02-7

## Салодкая зямля свабоды

У эфіры Радыё Свабода традыцыйна пераважаюць міжнародныя і мясцовыя навіны, правы чалавека, тэмы дэмакратыі і вайны з тэрарызмам, але не паэзія. Беларусь, аднак, мае свае адметнасьці — гэта адзінае месца ў Эўропе, куды мы вымушаныя вяшчаць з-за межаў, як за часам халоднай вайны. Беларусь таксама адна зь нешматлікіх краінаў, дзе за вершы можна апынуцца за кратамі. Некалькі хвілінаў паэзіі ў праграме Беларускай службы Радыё Свабода цалкам адпавядалі місіі Радыё: «шукаць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі, не зважаючы на межы».

Выдатны амэрыканскі паэт XIX стагодзьдзя Самуэль Фрэнсыс Сьміт пісаў:

Мая краіна, пра цябе,
Салодкую зямлю свабоды,
Пра цябе сьпяваю я...

Паэты зь Беларусі і ўсяго сьвету, юныя аматары і нобэлеўскія ляўрэаты прысьвяцілі свае творы свабодзе, гэтаму цудоўнаму чалавечаму стану, праву на выбар і жыцьцё без прымусу. Свабодзе для чалавека і для краіны, якую міжнародныя праваабарончыя арганізацыі з году ў год адносяць да змарнелай групы несвабодных.

Упэўнены, што і Беларусі некалі наканавана стаць «салодкай зямлёй свабоды», пра якую натхнёна, часам горка, але заўсёды з надзеяй сьпяваюць аўтары вершаў, сабраных у гэтай кнізе.

*Томас А. Дайн,*
*Прэзыдэнт*
*Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода*

## Мова свабоды

Гэтую кнігу можна чытаць пад музыку — рэкамэндуем Джузэпэ Вэрдзі, арыю з опэры «Набука», — яна гучала на хвалях беларускай «Свабоды» ўвесь 2001 год да апошняга сьнежаньскага вечара: «Ты пяеш — і з табой маё сэрца пяе, о Свабода!..»

«Freedom House» — міжнародная арганізацыя «Дом Свабоды» — у 2001 годзе аднесла Беларусь да несвабодных краінаў сьвету, адзіную з усёй Эўропы на пачатку XXI стагодзьдзя. І ўсё ж тады, прынамсі, пабольшала паэтычнай свабоды.

365 галасоў, новы верш штодня, напісаны спэцыяльна для Радыё Свабода, — неверагодная авантура, якая ня мае аналягаў і па сілах толькі паэтам. Магутныя перадатчыкі пасылалі электрамагнітны сыгнал у неба, ён адбіваўся ад іанасфэры і вяртаўся на беларускую зямлю, каб ізноў узмыць у нябёсы і з хуткасьцю сьвятла вярнуцца, і ў любым месцы — на дарозе, у хаце, ля возера, у Курапатах можна было ўключыць радыё і пачуць магічную вібрацыю — адчуваньні, здагадкі, сьцьверджаньні й пытаньні пра галоўную рэч, якая адзіная робіць чалавека годным суразмоўцам Бога. У 2001 годзе свабода гаварыла па-беларуску.

Гэта была народная перадача, варта паглядзець на геаграфію, на гарады, мястэчкі і вёскі, дзе думалі пра свабоду, марылі, шукалі рыфмы і рытмы. Самаму юнаму аўтару, Сьвятаяне, было дзесяць гадоў, найстарэйшаму, Максіму Лужаніну, амаль у дзесяць разоў болей. Верш на свабоду напісалі нобэлеўскія ляўрэаты Чэслаў Мілаш і Віслава Шымборска, пачаткоўцы і ўганараваныя нацыянальныя паэты, акадэмікі й выгнаньнікі з чатырох дзясяткаў краінаў, пяці кантынэнтаў.

Рэдактар праграмы Валянціна Аксак не прачытала ў эфіры свайго верша — невядома, ці ўвогуле яна пісала ўвесь год, пакуль рыхтавала анталёгію: перапісвалася з паэтамі, званіла, шукала, перачытвала дасланую тысячу вершаў, адмаўляла і запрашала, сустракала, прыводзіла, усаджвала перад мікрафонам. Уся праграма і гэтая кніга былі б немагчымыя без Валянціны Аксак, і калі перадача скончылася, яна нарэшце напісала свой верш — эпілёг, які можа быць эпіграфам:

Свабода  
як сэрафім з шасьцю крыламі:  
двума ён  
вочы свае захінае, каб Бога ня бачыць,  
бо ня варты небнае звышнасьці;  
яшчэ двума шчытна  
ногі свае атуляе,  
каб Бог ня бачыў  
ягонай зямное існасьці;  
трэцяю ж параю крылаў  
увесь час трапеча над намі,  
утвараючы мройлівы дым,  
празь які мы яго  
ніколі ня бачым.

Свабода — гэта мова, на якой Бог гаворыць з чалавекам, а чалавек з Богам. У кнізе, што вы трымаеце ў руках, — фрагмэнты гэтай размовы.

*Аляксандар Лукашук,*  
*Беларуская служба Радыё Свабода*  
*Прага*

* * *

«Свабодай»
назвалі газэту студэнты.
Прыдумана ў Санкт-Пецярбурзе,
адбіта ў Лябёдцы
Лідзкага павету —
на дасьвецьці стагодзьдзя.
Беларускае слова
друкаванымі літарамі
было навіной.
Алаіза, — адзіная зь іх дзяўчына, —
дала верша:
«Цяжка жыць, трудзіцца,
Калі няма долі.
Жыта не радзіцца
На мужыцкім полі...»
Хтось напісаў надзённы артыкул —
аб беларусах і аб патрэбе волі.
Душою падпольнай рэдакцыі
быў Івaноўскі Вацлаў.
Дапамагалі браты —
Тадэвуш і Юры.
Першы стаў летувісам пазьней,
другі, што ня дзіўна, — палякам.
Памёр беларусам
толькі Вацлаў.
Яго напаткала куля.

Газэты ня знойдзеш той
у архівах
і бібліятэках.
Яна
стала легендай,
ня болей.





Але пры канцы ста гадоў
у раманным 1984-м
студэнт альма матэр
закончыў вучобу
дыплёмнай работаю
аб «Свабодзе».
Гэтым студэнтам быў ты.
У новай газэце «Свабода»
агітаваў за волю.
Газэту забаранілі.
Свабода быццам застаецца на паперы.
Марай, прывідам,
усяго толькі словам.
Стагодзьдзе ж мінула.

Сілы трываць
надае вольны голас
на радыёхвалі.
З гораду Праскага,
скуль
наша кніга пайшла.
У хоры «Свабоды»
гучыць і твой голас.
Голас «Свабоды» цепліць
надзею
на волю.
Памірае надзея апошняй.
Але —
не заўжды памірае.

*Рыгор Барадулін*

* * *

Свабода —
Слабо да-
йсьці
Па асьці,
Па жарсьцьве
Да мяжы тае,
Дзе душа даўгі аддае
Звышняму,
Які ў ёй жыве.

Свабода — гэта
Душа ў таямніцы цела,
Што сябе на волі прысьніць
Захацела сама.
Без пакуты
Свабоды няма...





*Чэслаў Мілаш*

* * *

Чалавечы розум — прыўкрасны й непераможны.
Ані краты, ні дрот, ні кніг аддаваньне пад нож,
Ні выгнаньня вырок нічога яму ня ўчыняць.
Ён уводзіць у мову й агульнымі робіць ідэі,
Падае нам руку — і словы «Праўда»
і «Справядлівасьць»
Мы зь вялікай літары пішам, а «крыўду»
й «хлусьню» — з малой.
Над усім тым, што ёсьць, ён узносіць што быць
павінна,
Непрыхільнік адчаю, прыхільнік надзеі.
Ён ня знае габрэя, ні грэка, ні раба, ні гаспадара
Й нам дае ў кіравецтва супольную ўласнасьць
сьвету.
Ён з агіднага шуму зьнясіленых слоў
Выбірае суровыя, ясныя сказы.
Ён нас вучыць, што ўсё ёсьць дагэтуль новым
пад сонцам,
Размыкаючы сьцяты кулак таго, што ўжо было.
Вечна юная і прыгожая Філё-Сафія
У хаўрусе з паэзіяй служыць адно Дабру.
Толькі ўчора Прырода адзначыла іх нараджэньне,
Й гэту вестку прынесьлі гарам аднарог і рэха.
Слаўным быць іх сяброўству, іх час ня ведае
межаў.
Іхным ворагам наканавана загуба.

*Пераклад Андрэя Хадановіча*

*Ян Мацур*

* * *

Унізе холад. Цьмяны сьвет.
Астрог бэтонны. Цьвёрды камень.
Ён цягнецца за намі ўсьлед,
Каб зноў паўстаць перад вачамі.

Свой шэры колер бачым мы
Удзень і ўноч, зімой і ўлетку,
Ідзем, забыўшыся куды,
Ня чуем і ня бачым сьвету.

Жыцьцё, ты шлях усім шляхам,
Дарог асфальтавых бясконцасьць.
Мы сілы аддаем гадам,
Каб толькі раз убачыць сонца.

Наперад крок! Пагляд уверх!
І вось здабыўшы ўзнагароду,
Пераадолеўшы бар’ер,
Мы ціха рушым да свабоды!





*Лера Сом*

* * *

Тым, хто шчасьця не прасіў
ані ў лёсу, ані ў Бога,
цяжкаю была дарога,
часам не хапала сіл.
Несьмяротная зьнямога —
адпачыў, ідзі, нясі;
толькі ўласны хлеб ясі,
хай яго і не замнога.
Вечар.
Зробіў, што пасьпеў,
б’е далёка чысты сьпеў,
нехта грае-грае коду.
Тлусьценькі спытае: «Ну,
што ты меў з таго?» — «Свабоду!
Так, яе, яе адну».

*Алесь Чобат*

* * *

Чалавек выбірае сам —
ён уладца, жабрак ці хам.
Лёс ад Бога,
а выбар ягоны,
і свабода толькі ў адным —
менавіта, у выбары тым,
толькі там ніхто не скароны.
Але як прыдушыць жыцьцё,
то на волю просіцца ўсё
пагуляць тры дні ад няволі.
Колькі раз праз тыя вякі
рабавалі паноў мужыкі
і панамі ставалі паволі.
Так выходзіць у кожныя дні,
што ў спакоі, а што ў агні,
што ў далёкім, што ў нашым вяку.
Так свабоду і волю дзялю:
воля добрая халую,
а свабода жыве ў чалавеку.
А пакольկі зроблена так,
што ўладца, хам і жабрак
лёгка граюць даўнія ролі,
то няможна іх дакараць,
што ня хочуць яны выбіраць.
Бо свабода — складаней волі.





*Віктар Шніп*

* * *

Мы жылі ў велізарнай краіне
і краіны ня мелі сваёй.
І, як мошкі ў густой павуціне,
мы зьнікалі самотна ў ёй.

Мы зьнікалі, як жоўтае лісьце,
як трава на сьцяжынах людзкіх.
І мы зьніклі б, як зьнікла калісьці
Атлянтыда ў глыбінях марскіх.

Мы жылі ў азіяцкай краіне,
той краіны даўно ўжо няма,
як лістоты няма на асіне,
калі ў сьвеце ўладарыць зіма.

Я ня плачу па тым, што мінула,
як ня плачуць крыжы на кладах.
Ува мне мая цемра заснула,
ува мне разгараецца Шлях...

*Анатоль Брусэвіч*

* * *

Сон сплывае срэбнаю слотаю,
Выспы восеньскіх вокнаў вось-вось
Апякуць агнявымі агорткамі
Бесклапотную безьліч бяроз.
Одум оргіяў, ордэны, ордэры,
Дагараючы джаламі дробнымі,
Адраджэньня абвесьцяць анонс.





*Іван Драч*

* * *

Маладзюткія талейраны
паказваюць вышчар зубоў
і соль пасыпаюць на раны
і раны смыляць у рабоў
мы паднялі ўжо неба
павышэлі нябёсы мрояў
а рабы сагнутыя гнуцца

столь старая ў іх навісае
хоць сонца перарабі
хоць сонныя воды
пастаў на дыбы
пад сьцягам свабоды
на каленьках паўзуць рабы

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

* * *

Мы, беларусы, заўжды гатовы
снапамі класьці свае галовы.
Было спакон так, і гэтак будзе —
такі народ мы, такія людзі.

Наш час спыніўся між дзьвюх Нямігаў,
дзе кроў і сёньня стаіць па грудзі...
Мы, беларусы, народ ад ліха,
ад Бога — толькі сьвятыя людзі.

Яны былі ў нас, былі і будуць —
Рагнеда, Янка, Максім, Ларыса...
Мы, беларусы, народ аблудны —
сваёй радзінай не ганарымся.

У нашых душах гуляе вецер...
Каму мы служым? Чые мы дзеці?
На храмах нашых маўчаць званіцы.
Нямая вера — як нам маліцца?

Як даравання прасіць у Бога,
каб Ён вярнуў мне сябе самога.
Хрыстос калісьці хадзіў між намі...
Мы, беларусы, Яго прагналі.

З нас, беларусаў, яшчэ спытаюць —
за лёс Страціма, за сымбаль Краю.
Чаму у сэрцы з такім адчаем
нас б'е Пагоня, сячэ мячамі...

Мы — Беларусы, ці — янычары?

Чацьверты кожны з нас стаў зямлёю...
Чарнобыль чыніць над намі кару.





Мы, Беларусы, сваёй крывёю
сабе здабудзем Краіну-мару.

Краіну-мару, дзе мы ўваскрэсьнем,
як сонца з хмары, як мова зь песьні.
Краіну-мару сабе здабудзем
мы, Беларусы. Мы — ёсьць! Мы будзем!

*Васіль Зуёнак*

* * *

Перчучай — мной прысьнёнае слова,
Запаветнае рэчкі імя,
Нашай крэўнасьці балцкай аснова,
Наш пракорань, стрыжань, сям'я...

Балты: белыя — вольныя значыць,
Духам войстрыя, як мячы.
Коні белай пагоняй скачуць —
Нашай волі апора і шчыт.

Перчучай — гэту рэчку на карце
Мне Някляеў у сьне паказаў.
Лёгкай рыфмай, нібыта ў жарце,
Перчучай — вузялком завязаў...

Я ня знаю, што гэта такое,
І няма таго слова, лічу.
А прачнуся — яно мне спакою
Не дае: і шапчу, і крычу...

«Перчучай»... — як заклён, як надзея,
Як прапрашчураў-балтаў адчай,
Што растрацілі нас, праглядзелі...
Перчучай... выручай, Перчучай.





*Алесь Аркуш*

* * *

Ня думаць пра сон і паразы,
Свабоду карміць з далоні,
Раздаць немаёмым запасы
І выкінуць плэер «Sony»,
І слухаць, як гойсае вецер,
Што робіць падушны вопіс,
Сьмерць — непісьменная лэдзі —
Паставіць свой крыжык-подпіс.
Закуты ў цяжар цела,
Шукаеш таемныя дзьверы,
Здаецца, патрэбна сьмеласьць,
А досыць адной веры.
Наперадзе вечнага часу,
Дзе робяцца друзам выгоды,
З апошняга хлеба запасу
Ты корміш птушку свабоды.

*Сяргей Законьнікаў*

* * *

Вось і скончыўся век.
Пачынаецца новы.
Іх яднаю жыцьцём я,
нібы сувязны,
ды ніяк не знайсьці
цудадзейнай замовы
ад татальнай маны,
ад крывавай вайны.

Валачэ чалавек
зь веку ў век
за сабою
самазгубную хцівасьць,
няправедны гнеў.
І якім жа душу трэба выпаліць болем,
каб ён сэнс існаваньня свайго зразумеў?

Гоніць помста
натоўпы галодных і голых,
каб да шчасьця прарвацца цаною любой.
Калектыўнай нянавісьці
ўзвысіўся голас,
ну, а я ў адзіноце пішу пра любоў...

Вось і скончыўся век.
Пачынаецца новы.
Дзе дабро, там і зло,
зноў яны — спарышы...
Як раней,
не пачуты біблейскія словы,
як раней,
непрытульна пакутнай душы.





*Васіль Жуковіч*

* * *

Пасьля Вялікае Айчыннай
ваеннай цяжкае бяды
я школьнік быў. Тады краінай
вусаты правіў правадыр.

Яго скрозь ведалі усе,
кругом партрэт яго вісеў,
апроч таго, яго партрэт
на нас глядзеў з усіх газэт...

Пад вечар неяк сек я дровы,
а ноччу дзіўны ўбачыў сон,
што ўпаў партрэт правадыровы
(«Чаму мне так прысьніўся ён?»), —

сарваўся зь белае сьцяны...
Затым быў скон правадыровы.
Затым паўсталі праўды словы,
што правадыр — ад сатаны;

ён — параноік-ліхадзей,
і на рахунку на ягоным
забітых многія мільёны
сумленных, праведных людзей.

...Партрэты скрозь яго здымалі,
і з гэтай дзеяй ва ўнісон
тырана людзі праклінալі.
А я свой дзіўны ўспомніў сон.

*Зьміцер Вішнёў*

* * *

Проста ўзяць нож і адрэзаць сваю галаву
Лепш на марозе — ня так балюча
Гэта — прывітаньне чабанам
Чырвоная лава льецца на трон
Выцiснуць вочы пальцамі
І пагуляць ў спортлято
А калі да цябе прырасьце жанчына
Трэба яе таксама адрэзаць чымсьці
Гэта — не салют
Гэта — я самурай люты
Гэта — тайфун
Мець у руках тысячы ангельскіх фунтаў
Шчыліць жоўтыя зубы
Біць дыктатара правай і левай нагой
Каб і ягоныя вочы кінуць на лятатрон
Ці гэта не прыродны рэфлекс?
Ставіць на вушы чыноўнікаў кляксы
Каб з атраманту зварылася каша
Потым цудоўна глядзець на карціну Ван Гога
З марыхуанай загарнуўшыся ў тогу
Гэта — свабоды вагон
А не бабы з вадой

І потым доўга трымаць адказ перад Богам
За свой дубовы бадун і свабоду.





*Крыстофэр Леандоэр*

* * *

Гракі аблачыняць неба маёй трывогай,
дах фабрычны па той бок ракі
неўзабаве чарнее ад маіх стрыманых крыкаў.
Сылюэт гораду —
ганебная прапанова,
якая змушае празьмерна
чырванець саму атмасфэру;
трамваі, што зьнікаюць
са сьвятлом і журбой,
чалавек, што зьнікае
з самім сабой;
адно глядзець і потым магчыма
зьнікнуць самому,
з сабой забраўшы страх загусьцелы
і апошнюю стому:
мяне заўсягды турбуе
сустрэча чужых вачэй,
я хутчэй зьмяняюся,
чым хтосьці дзесьці перагортвае ліст.
Мая гадзіна шарая душыць далягляд.
Мая гадзіна шарая малюе ўсё ў чорным.
І сёньня, і ўчора,
сонца адводзіць ад Менску вока.
Да сьвітаньня далёка...

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

* * *

Свабода Беларусь у летуценьні.
У даўніне здабыўшы даўніну,
Перад красой упаўшы на калені,
Цалуе і Сафію, і Дзьвіну.

Свабода Беларусь у кніжным раньні
У Прагу кліча, у вандроўны прах,
Каб назаўсёды ў гэтым вандраваньні
Стварыўся самы беларускі шлях?

Свабода Беларусь — душа, змаганьне,
Зьнявечаная здрадаю зямля,
І на яе высокае дыханьне
Накінута лукіская пятля...

Гаспода Беларусь — гаркота ў горле,
Спавіта адвакацкаю мальбой,
І просьба застаецца: «...каб ня ўмёрлі!»
Адзінаю малітваю жывой;

Гаспода Беларусь у напаміне:
«Мне засталася спадчына...» — а ўсім
Застаўся край, дзе памяць вечна гіне,
Дзе на трасянцы можна скласьці гімн:

«Я жыву у калхозі «Свабодны пуць»
І мне у ём харашо, пакуль
Плывуць вутаўкі маі — вуць, вуць, вуць!
Ходзяць курачкі маі — пуль, пуль, пуль!»







* * *

Пара ўжо схадзіць на рэнтген —
Нутро мне спустошылі будні...
Я — хлюпік, паўінтэлігент,
Пакутнік паскудны...

Я літарай часу жыву,
Як жабрамі, дыхаю словам...
Паэтам нібыта слыву,
На справе ж — ахоўнікам схова:

Завешчаных продкамі слоў,
Іх вопыту, дзеяў, тварэньняў,
Вытокаў, вызнаньняў, высноў,
Імёнаў, найменьняў...

...І вось, апусьцела нутро...
Якім яно выдзьмута ветрам?!
І ўжо не выводзіць пяро
Клясычны радок гекзамэтрам...

Флейтыст флегматычнай тугі,
Матыль мэлянхольных масовак,
Звыкай да гугнявай чаргі,
Дзе волю даюць прымусова!

І ўсё ж паспрабуй адшукаць
Той схоў, што завешчаны родам,
Каб Бога і Сына і Маць
Вярнуць тым выродам.

Ды перш на сябе паглядзі —
Ці ёсьць ты Гасподні?..
Пасьля ўжо — хадзі і будзі
Народ свой да сходні.

Калі ж ані выйдзе ніхто,
А толькі спэцрота —
Спустошана, значыць, нутро
Дарэшты ў народа...

Тады ўжо і сам памірай,
Як матчына мова.
Хрыпі, халадзей, праклінай,
А ўсё ж да канца прамаўляй
Айчыннае слова!

Дасьць Бог, яно ўглыб працячэ
І ў Космас пральецца...
І ў вечнасьці часу яшчэ
Нашчадку гукнецца...







* * *

Ня шум сьвяточнай грамады,
ня звон узьнёслай оды,
ня стрэл гарматы грамавы
пазначаць Дзень Свабоды.

Сьцюдзёнасьцю магільных пліт
дыхнуць у твар хвіліны,
калі пачнуць па Менску плыць
чатыры дамавіны.

Ніводнага ня будзе з тых
на ложках гэтых цесных.
Ды не таму, што нехта зь іх
прачнецца ці ўваскрэсьне.

Чатыры строгія труны,
чатыры дамавіны.
Чатыры тонкія струны,
чатыры напаміны.

Не ўшанаваў іх далакоп
ні крыжам, ні пагостам.
А вы, што сеялі паклёп, —
саўдзельнікі забойства.

Адной вадой сьвянціў іх кат —
ці сьвіслацкай? Ці цнянскай?
Адной пятлёй зьвязаў вас гад —
крывёю хрысьціянскай.

*Артур Вольскі*

* * *

Вялікі Бог!
Найбольшаю з патрэб
спрадвеку быў для нас
надзённы хлеб.
Ёсьць хлеб —
і ўсё астатняе няўзнак.
Ёсьць хлеб —
і нешта знойдзецца да хлеба.
Але аднойчы
мы зазналі смак
свабоды,
што сышла нібыта зь неба.
Ды служка д’яблаў,
майстра здрадных спраў,
з-пад носу ў нас
свабоду нашу скраў.
І востры боль,
што мне працяў душу,
як рану,
я ў сабе дасюль нашу.
Свабоды зноў
хоць трошкі зьведаць мне б,
бо безь яе —
і хлеб ужо ня хлеб.
Мой Божа,
творца ладу і злагоды,
пакаяцца
мне загадзя дазволь.
Каб хоць крыху суняць
нясьцерпны боль,
я хлеб мяняю
на глыток свабоды.





*Алесь Ліпай*

* * *

Цяпер ты можаш піць нагбом уладу
і марнатравіць людзкія надзеі,
але надыдзе час, і возьме плату
зь цябе народ за ўсе ліхія дзеі.

Надыдзе час, і люд захоча праўды.
І то ня ўсёй, а толькі тое з праўдаў,
дзе не народ падманвацца быў рады,
а ты яго бязьлітасна падманваў.

Надыдзе час, і люд захоча праўды.

І нават не яе, а толькі ведаў,
што зло не абмінула пакараньне,
і першым той, хто сам з дубінкай бегаў,
якраз цябе абвінавачваць першым стане.

Надыдзе час, і люд захоча праўды.

І нават не яе, а толькі помсты,
за тыя беды і за тую беднасьць,
куды завёў ты грамадзянаў простых.
А з помстай да людзей прыходзіць еднасьць.

І мо на гэтай, зыбістай хоць, глебе
паўстане нацыя.
І нацыя паўстане.
І прага не відовішчаў ці хлеба,
а прага волі кіравацьме тым паўстаньнем.

І, гледзячы, як гмах тваёй улады
пераўтвараецца ў магільны камень,
адкрыеш ты, што жорсткі Бог расплаты
жыве з табою ў зруйнаваным храме.

* * *

Я не хачу быць пупом зямлі.
У зямлі й безь мяне хапае пупоў.
Я хачу быць пупом неба.
Паветранай ямай і чорнай дзіркай
быць я хачу.
Там болей волі,
болей свабоды
там.

Уявіце:
я,
і мае пупы,
і пупы пупоў маіх
глядзяць на вас
зь неба.
Ніхто не схаваецца
ад іхнага пільнага позірку.
Не, гэта ня я раствараюся ў аблоках —
гэта аблокі расплываюцца ўва мне!

Цяпер
кожны, хто патрапіць
пальцам у неба,
патрапіць у мяне,
і ў мае пупы,
і ў пупы пупоў маіх
трапіць ён,
а я нават не адчую.

Што?
Вы ня верыце ў маё
ўсепупейшае пупства,





у маё
найпаўнейшае
найпупоўнейшае пупейства,
у маё
архіпуповае апупенства?

Тады спытайцеся ў таго,
хто зламаў палец аб неба.

*Дзьмітры Прыгаў*

* * *

Прыехаў на Радзіму я,
А там паўсюль радзімая,
Дагэтуль несудзімая
Улада найвышэйшая
Мілуецца, як з гейшаю,
З народнасьцю тутэйшаю:
Пра рынак навучае
І, быццам вучаніцу,
Тым самым далучае
Да толькі ёй вядомай таямніцы.

*Пераклад Андрэя Хадановіча*





*Марыя Баравік*

* * *

Пусьціце Слова ў Прастору!..
Пра ісьціну пагаворым,
пра час няўмольны, пра нас,
каб — ні пагроз, ні абраз,
ні помсты злой, ні дакору...
Пусьціце Слова ў Прастору!
О, дайце Слову дыханьне,
каб стала яно пытаньнем,
каб стала яно адказам,
і памяцьцю, і паказам.
Зьбіце зь яго аковы,
ня бойцеся рэха Слова,
вечна жывога рэха.
Пусьціце!
Бойцеся грэху —
яго трымаць у няволі
ці ў нейкай халуйскай ролі.
Яму ж патрэбна дарога.
Яно было перш у Бога...
Яго ў малітве паўторым.
Пусьціце Слова ў Прастору.
Пра нашу хворасьць і сорам,
нявечнасьць, нечалавечнасьць,
дзікунства і недарэчнасьць,
пра здраду, смутак і гора.
Пусьціце Слова ў Прастору.
Мы дамаўляцца будзем,
пакуль яшчэ ў нечым — людзі,
пакуль — не з чужога бору...
Пусьціце Слова ў Прастору
пра грэх наш сёньня і ўчора,
бо зла сабралася мора,
а дзе ж дабра вымярэньне?
Пусьціце Слова ў Прастору,
імя якое — Сумленьне!

* * *

Стралялі
У нас у ворагаў у сяброў
Стралялі
Ці то мы стралялі
Ці то ворагі
Ці то сябры
Ці па нас ці па ворагах
Ці мы ці ня мы.
І калі на асклепках
Атлянтычных ільдзін
Зьнікае вобраз
Роднага краю
І калі белы стане чорным
Тады цемра стане сьвятлом.
І мы ведаем што няма
Перамогі і жыцьця
І мы бярэм апошнія кулі
Каб стрэліць у ворага
А можа ў сябе самога
Мы паміраем бо вакол
Акіян злыдняў.
Мы ведаем што не пераможам
Гэтую вайну
Мы ведаем што мы памрэм
Мы ведаем што нашыя імёны
Будуць абражаныя
У падручніках гісторыі
Мы ведаем што ў канцлягерах
Нашыя дзеці будуць праклінаць
Нашыя імёны.
Але мы ведаем што
Нашае паўстаньне ратуе
Тых хто заб’е нас
Нашае паўстаньне ратуе





Тых хто будзе зьневажаць
Нашыя імёны
Нашае паўстаньне ратуе тых
Хто будзе прывучаць
Хлусіць нашых дзяцей
І нашыя дзеці калі пройдуць этапы
Мітынгаў і канцлягераў
Скажуць дзякуй тым
Хто забіваў нас
Скажуць дзякуй тым
Хто забіваў іх
І тыя хто забівалі нас
І тыя хто гвалціў нашыя імёны
Папросяць
Прабачэньня.

* * *

Новы век
Азарыў небасхіл.
«Чый ён будзе?» —
Прарокі гамоняць.
Будзе наш —
Калі выстарчыць сіл
У цябе,
Беларуская моладзь!

Значыць,
Трэба па долю ісьці
Зь цьвёрдай верай,
Што вёрсты ня зморапь.
Дык ня страць,
Не ўступі,
Не ўпусьці
Гэты шанц,
Беларуская моладзь!

Хай за зданьню
Пачварыцца здань —
Сілу волата
Цені ня зломяць.
Час прабіў:
Уздыміся
І стань
У шыхты,
Беларуская моладзь!

Веру:
Выпаўзьні з чорнай начы
Дух твой вольны
На здраду ня змовяць.





Раздрузгоч,
Раскрышы
І зьмяці
Іх кубло,
Беларуская моладзь!

Помні:
Волю ў змаганьні бяруць,
А ня просяць,
Ня кленчаць,
Ня моляць.
Толькі ты
Зьберажэш Беларусь!
Толькі ты,
Беларуская моладзь!

Галіна Каржанеўская

* * *

О так, мы людзі на балоце,
Яго няпроста асушыць.
Здаўна ва ўціску і ў галоце,
Але затое з прагай жыць.

Цярпець вучылі чужаніцы,
Хіліцца долу безь віны.
Наш чалавек таму баіцца
Начальства, сваркі ды вайны.

Была нязломнаю надзея
Займець уласны лапік свой.
Для нас капейка — як падзея,
А воля — птах над галавой.

Лёс, што ня песьціў і ня гушкаў,
Нам так абрыдзеў, хоць ты плач!
Лунае прывідная птушка.
Дасюль пацьвельваецца, бач...





Вячаслаў Корбут

* * *

Мы дзеці свабоды, унукі тыранства,
вянок перамогі над рабствам і панствам,
мы волі надзея, Айчыны спадмога,
мы верым у сілу дабра-перамогі!

На плошчы харугвы, на сэрцы імёны,
мы краты парушым і зьнішчым праклёны,
бацькоў абаронім ад мараў халопскіх
і годнасьць адродзім у сэрцах нязломных.

Валодае намі сьвятая дарога,
наперад, сябры, хай жыве перамога!
Нам, дзецям свабоды, радзіму праслаўіць,
хай бачаць народы, як чыстаю лавай

узьнімуцца хутка высока-высока
спраў нашых пачэсных ня хмары — аблокі,
бо тчэ нам дарогу ад Бога свабода,
вялікая мара любога народа!

*Валеры Дранчук*

* * *

Нападала сьнегу. Нядзеля.
Шулы платоў надзелі
белыя шапкі — Надзея

на тое, што мы — беларусы,
і з гэтай зямлі нас ня зрушыць,
ня вымесьціць, не абрусіць,

ня вымаскаліць, не абразаніць,
ня здаць і не атаясаміць
з вусатымі пацукамі,
з сарцірамі і мацюкамі,

на тое — што нас не абголіць,
ня вымачыць, не ачухоніць,
не аблавушыць наш род.

Жыве Беларусь і народ!





*Сімон Мол*

* * *

Штосьці мацнейшае, чымся зброя, штораз
набліжаецца, каб патрабаваць
месца сваё між нас.
Мы шлях яму расчышчаем зь вітальнымі
песьнямі.
Яно за нас змагаецца… па часе перамагаючы,
праўды плашчом ахінутае…
Яно безаблічнае, як колер некранутага сьнегу.
Дыханьне ягонае — віхор, які перакульвае
троны,
абяцаньне ягонае — наша прычына
глядзець ім у твар, думаючы, што яны высокія…
Што стаяць там, спаміж намі й нашай
перамогай,
вырачанай быць пахаванай перагортлівымі
лістамі
незапісанай гісторыі.
Мы разьлічваем на ягоныя абяцаньні зьмесьці
павучыньне, марныя намаганьні зацыраваць
разбуральную філязофію паўсюль пахаваную
апроч нас.

Гэта безаблічнае, што набліжаецца, завецца
Свабодай…
Яна тут як перамога ў апошняй бітве
заключнага фільма, у якім мы… акторы —
пераможцы!

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

Віктар Шалкевіч

* * *

Хачу сказаць пра тое, што мяне найболей
зараз цешыць...

Мой малы сусед, сын п'яніцаў вясковых,
здольны хлопчык,
пры газьніцы, бо электрычнасьці ня маем,
штовечар піша вершы на свабоду.
Ён не Разанаў і не Барадулін, тым больш ня
Дудараў,
але зь яго, я бачу, будзе толк!

І вось такім аптымістычным словам
хачу я скончыць гэты змрочны дзень
на нашай неабсяжнай Беларусі...



# ЛЮТЫ

* * *

Ці памяць жабруе
Па котлішчах колішніх дзён,
Ці сум пералётны
Мне вочы запарушыў... —
Пра што ў пераходзе падземным
Пяе саксафон?
Пра што яму рэха адказвае
Зь нетраў душы?
Віно і самота
Дапітыя сёньня да дна...
Аднак не ратуюць,
Калі па сьлядах наўздагон
За мной неназваная,
Чую, ступае віна,
Ды шанцам апошнім
Хай музыка будзе адна.
Іграй, саксафон.
Аціхнуць няхай
І гаворка, і грукат, і звон... —
Іграй, саксафон.
Іграй, мой адзіны
Па смутку няпэўнаму брат.
Дарадцаў хапае,
Але разуменьня наўрад.
Ня сьвятасьць —
Аблуда цяпер узышла на амбон, —
Іграй, саксафон.
І цягнецца кожны
Да скіпэтраў, ляўраў, карон...
Іграй, саксафон.
Няўжо сапраўды
Мы аплочваем нейкі праклён?
Няўжо наша воля
адно толькі мроя ды сон?





Скажы, саксафон.
Ня карта —
Жыцьцё выстаўляецца сёньня на кон,
Бо сьвет, як цягнік,
Што вось-вось паляціць пад адхон...
Ратуй, саксафон.
Іграй, музыкант, —
Не змаўкай, не змані, не зграшы...
Даруй нам, што музыка
Сёньня каштуе грашы.
Даруй, што грашыў
Супраць музыкі і цішыні,
Што мала кахаў іх
У кожным падораным дні.
Даруй, цішыня, мне
І, музыка, — чуеш? — даруй.
Хай некаму глупствам
Усё, што я вам гавару,
Ды, як ні было б там,
Цяпер разумею аднак,
Хто музыку мае каханаю,
Той не жабрак.
Няхай ён апошні
У славе, пашане, грашах...
Ды музыку чуючы,
Госпада чуе душа.
І ў гэтым ёй воля,
І права, і шлях, і закон...
Іграй, саксафон.

*Вольга Гапеева*

* * *

Я бяздомныя рухі цела свайго
я бяздомныя рухі цела свайго напаткаю
у завані між караблёў п’яных
дзе павуціньнем разьвесілі кашаль
на дрэвах
аглохлых ад вачэй безьлічы
дзе шкарлупіньне на шкло налепла
мне — не адшкрэбсьці
і белая вусьцішнасьць
матыльком сядае
на голую сьпіну
вольную ад крылаў ад крыкаў ад пацалункаў
мая свабода навыварат
пляце сабе кокан
і кожны з нас вусьцішнасьць
і кожны з нас паасобку





*Сяргей Красьнятка*

* * *

Чорны Война блукае па ночы,
Чорны Война блукае па снах,
У душу заглядае, бы ў вочы,
Кліча волатаў мужных у шлях.
Вой апошні. У бітве даўнішняй
Як Радзіму чужынец забраў,
На яго ўласнаручна Ўсявышні
Запавет нерухомы наклаў:
Не знайсьці на зямлі яму сьмерці,
Не загляне ў душу яму жах,
Ні спакою, ні жалю на сэрцы,
Покуль вораг топча абсяг...
Стуль заўсёды на белым сьвеце
Ён блукае па розных краях
Неўміручы, няўлоўны, як вецер,
Бо вандруе па душах і снах.
А калі прыйдзе гора дахаты,
І пакоцяцца сьлёзы з вачэй —
Чорны Война ламае ўсе краты
І выводзіць на волю людзей.
І ніколі ня быць паднявольным
Ні народу, ні краю ў бядзе,
Дзе зьяўляецца Чорны Война
Уначы, у душы, у сьне.

* * *

Дождж усю ноч ішоў. Як раніца з-за хмар
Прагледзела, сумуючы па нечым,
Ізноў апанаваў мяне кашмар,
І пеклам здаўся сьвет мне чалавечы.

І, злосна лямантуючы, вы ўсе
Сабраліся, каб больш балюча ўдарыць.
Пачаўся дзень. І быў ён у расе
Ад сьлёз маіх, пралітых між пачвараў.

Здавалася б, прачнуцца, акрыяць,
Пачаць сьпяваць і радавацца, марыць,
Але, відаць, пакінуў паміраць
Мяне Бог «тэт-а-тэт» з маім кашмарам.

А я крычу, а я прашу, малю:
«Пусьці мяне, Ісусе, на Свабоду!»
Аднак чамусьці тое, што люблю,
Нямілае, на жаль, майму народу.

О, колькі часу біцца шчэ са злом,
Ня ведаю. Ды толькі нечакана
Убачыш: ну нашто ісьці на злом?
І паміраць яшчэ хіба зарана.

Ператварыцца ў яшчарку? Паўзьці,
Каб не заўважыў аніхто? Шарэю,
Нікога не прашу ўжо: «Адпусьці»,
Бо ўсьведамляю: я жыву ў Карэі.

Ён побач з намі, правадыр,
Яго мы выбіралі.





Падасьць нам мір, падасьць нам сыр,
Якіх даўно чакалі.

Баюся я, што толькі жвір
Ён дасьць, той правадыр...

* * *

іржой
пераела
ключ у дзьвярах замкнутых знадворку і таму
хата здаецца пакінутай але гэта ня так:
праз разьбітыя шыбіны
асядае пыл з далёкіх гасьцінцаў вецер страсае
на падлогу падзяўбаны птушкамі чарнасьліў
у паштовай скрыні ляжыць сатлелы ліст
ад мяне — некалькі літар мурашы
ужо сьцягнулі

помніш —
некалі я крэсьліў на вадзе: НІЧОГА НЯ БУДЗЕ
а ты
прыціскала да грудзей (бліжэй да шыі)
маленькія тонкія рукі быццам баялася
што я табе
нешта зраблю?

так яно і цяпер:
у пукатыя вочы статуй кідаецца гурма
груганоў і дні ня хочуць пакінуць самому сабе
таго чыё семя так і не прарасло
каму
мы маўчым?
ноч прынесла цемру як чорнае гольле
чырвоныя рукі
пабачаць цела
так мы толькі рукі якімі нехта
трымае вуглі!

будзе сьвяціцца ў куце абраз





...і мучыцца парастку й зерню пакуль
мы праваленым ротам шапялявім «каханьне»
але
чуеш: гудзе
у кроснах чарэшняў?
гэта

Бог ідзе з посахам
пчалінага рою
Бог хоча
разьвязаць нам
языкі

*Славамір Адамовіч*

* * *

Не для гномікаў партыі —
для сябе здабываю свабоду.
Жыву, як заўсёды, упарта я,
зьнішчаю плябейства пароду.

Свабода мая ня кніжная,
ня тая, калі ўсё, што хочацца
можна рабіць і пыжыцца,
і лярвай у ложку варочацца.

Свабода мая вызвольная
ваўчыцай цяжка параненай
выходзіць з лагва падпольнага
і ўецца незаарканенай.

Свабода мая беларуская
крывёю чыстай крывавіцца
і стужкай вузенька-вузкаю
сьцякае па белай правіцы...





*Югет дэ Броквіль*

* * *

Свабоду люблю я, люблю
яе панавітасьць і сьветласьць,
абсяг неабсяжны яе
і ў лёгкіх маіх паветра.

І птушку ў палёце люблю
і рыбу, што ад вады хмялее.
Забавы жывога ўсяго,
сьпеў лесу, што сьмеліць надзею.

Каханага набліжэньне люблю,
ягонае богаснае дыханьне,
ягонае гулкае сэрца, яго
люблю ўсяго да астаньня.

У турме маёй
я ня бачу дня,
ня дыхаю, не адчуваю.
Нямыя сьцены,
каханага болей няма,
гарластая цішыня,
халоднае ўзложжа.
Ды свабоду думаць,
так, думаць свабоду
забараніць аніхто ня зможа.

Нават закрачаная,
нават замучаная
перад абліччам катаў сваіх
мацнейшая я за іх.
Праўду маю пракрычыць
думка мая нямая.
Вольная я сканаю.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

* * *

Залатая шляхецкая вольнасьць —
Дар нябёсаў над нашым краем!
Два стагодзьдзі, як згублена стольнасьць,
Як блукаем за страчаным раем.
Пакаленьнямі гінулі продкі,
Каб зьдзяйсьняўся зарок няўмольна:
Каб нам марыўся «дым салодкі» —
Бэз айчыны сьвятой і вольнай,
Каб нам сьніліся тыя ўцехі,
Што народы спрадвеку маюць.
Як мы сьцерплі, што Край пасеклі,
Залілі атрутаю памяць?
Залатая шляхецкая вольнасьць!
Што ж вы думалі, «паны-рада»,
Зноў талдычачы нам пра «супольнасьць»
Там, дзе назва дакладная — здрада?
Так айчыну прыўлашчылі іншыя,
І сталіцу, й назовы суседзям
Раздалі і памяць панішчылі,
Цудам вось не сканалі ледзьве,
Забыўшыся ўсіх сваіх мітаў,
Апрача, што мы ад сярмягі, —
Атожылкі Рэч Паспалітай,
Сармацкай крыві і адвагі!
Тут ня гнулі шляхецкія сьпіны,
Кожны рыцарам быў ад роду.
Мы — нашчадкі вялікай краіны,
Дзе заўсёды любілі свабоду.
І Айчына адбудуецца ў душах,
А там яе сьцяць немагчыма.
Зьзяе на нашых кунтушах:
«Нацыя! Вольнасьць! Айчына!»





І Гісторыя зьменіць ракурс,
Не па суседзкім рэцэпце:
Magnam fortunam magnus
Etiam animus decet!*

* Вялікаму духам пасуе вялікі лёс. (лац.)

*Серж Мінскевіч*

* * *

тупік
перад вачыма
гладкі
          квадратны
тупы тупік
і зьлева
          і справа
і зьверху
і са сьпінаў
мы — птушаняты цаглінаў
і хіба ж палова
глупотных
          нямоглых
згадуе
          дзюбы і думы
для праклёну
тупіковай
          скарупы





*Алесь Шатэрнік*

* * *

На белым фоне замерзлага акна
чырванью зьзяе Ярань
у прыцемках. Лістапад.
Нязвыклыя маразы ахапілі ўсю
Беларусь...
Запаволілі Волю...
Засьцюжылі Душы і Сэрцы людзей.
Краіна страціла свае
адвечныя сымбалі —
Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і Пагоню.
Ды толькі кветка Ярань,
што назапасіла ў сабе
ўсё хараство ды цяпло
сонечнага сьвятла,
не дае згаснуць надзеі —
быццам бы цьвердзіць:
вернуцца, вернуцца нашыя сымбалі —
Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і Пагоня...
Вернецца Сакавіцкае Цяпло ды Сьвятло,
растопіць лёд у Душах і Сэрцах людзей,
залунаюць
адвечныя нашыя сымбалі —
Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і Пагоня...
Бо на Белым, Белым фоне замерзлага акна
чырванью зьзяе
кветка Ярань...

Уладзімер Паўлаў

* * *

Каваным ботам быў раструшчан мір.
Крывёй заліты на стале абрус.
Знайшоўся для народу канваір.
Вампір зьляцеў, і распладзіўся гнюс.

Ён, Адольф Гітлер, — той самы вампір.
Яго парадак — рабства і прымус.
Агонь крычаў, і варушыўся жвір.
Загінуў кожны трэці беларус.

Мінуўся час. Цяпер да ўлады падкі
На Гітлеравы моляцца парадкі.
Ніхто ня скажа: Божа, пакарай!

Ня чуюць. Нібы падаліся ўпрочкі
Ці выракліся роднае сарочкі.
Няўжо спачатку ўсё, мой бедны край?!





Адам Глёбус

* * *

Нарэшце маю свабодны вечар.
Усходзіць поўня над небакраем.
У ціхім парку, ля сьветлай рэчкі
З бутэлькай віскі
Адпачываю.

*Улдыс Бэрзыньш*

* * *

Нельга зь лірыка вырабіць трупа
рамантыку бач падлу вальней: чырвон-бел-
чырвоны палотнішчам вее бел-чырвон-белы
ў паперы жывей.

Шыхт наш у сьненьнях на пляцы бравее:
хвата муштруе хват Бог-дабрадзей... Алесь гэткі
сон на хаўтуры ці грошы? тлумач жа Разанаў
крывіч ты крывейт.

Тое ня воля наогул нічога ліўні льюць
восень галее а ты дранцьвей з пануранай глюгай
уверсе птах вольны з пануранымносам мне
ўнізе вальней.

Левай дзе скрэбсьці правай ня вызнаць
бажыцца: падох ужо! — не, падла жывога жывей!
Шукаюць мянты мяне ўдома ў гушчары пад
жвірам вальней мне вальней.

*Пераклад Андрэя Гуцава*





*Вольга Іпатава*

* * *

Я абрус памінальны паслала на сьветлым
тым полі,
Дзе жаўнеры Касьцюшкі лягалі на вечны спачын.
Шалатнула трава, і вятрыска пацьвердзіў —
«За волю!»
І прарос скрозь тканіну спакойны і мудры палын.

Засьцяліла я стольнікам слуцкую тую дарогу,
Дзе у сэрцаў пялёсткі ўгрызаліся кулі-чмялі.
«За свабоду!» — пранесьліся словы паўстанцаў
над логам,
І пакутніцкім цернам скрозь цяжкі абрус
прарасьлі.

Я пайшла ў Курапаты,
Дзе шэрымі клубамі болю
Вочы выеў туман у бярозы пахіла-крывой.
Там на крохкай бяросьце нязгасныя словы —
«За волю!»
Набрынялі гарачай —
Яшчэ ўсё гарачай — крывёй.

Я хацела ручнік завязаць
На крыжы ацалелым,
Ды расстрэльныя чэргі яго, як ланцуг, абвілі.
«За свабоду!» — і вырваўся голубам белым,
Каб ня згніць за нішто ў нялюбай зямлі.

Над дамамі, заціхлымі ў сонных турботах,
Над вірамі ў глыбокай таемнай вадзе,
Над палямі, салёным залітымі потам,
Кружыць вольная птушка — і крылаў яна
не складзе...

* * *

На маёй дарозе — толькі сьнег,
Над маёй дарогай — толькі Бог.
Пакідаю свой самотны сьлед.
Кожны крок — нібы цераз парог.
А вакол — краіна ціха сьпіць,
Ціха замятае сьлед зіма.
І на прыдарожныя слупы
Нават ліхтароў у нас няма.
Цёмна — толькі ветаха сьвятло
Беднае, як бедны гэты край.
І сьляды Пагоні замяло
Па дарозе ў пекла — альбо ў рай.







* * *

Мы покуль не народжаны народ,
мы вязьні скамянелых яйцаклетак,
мысьленча запаволены чарот;
хтось падла, хтось зусім яшчэ падлетак,

хтось піша, і рыторыкай старой
уводзіць юнакоў у заблужджэньне:
змагар, руплівец, ходыньнік, герой,
тытан, а мо й тытанік адраджэньня...

Стаміліся й губляем лік гадам:
гады ў турме паўзучыя, як гады!
Дзе ж тая паўнагрудая мадам,
што ўсіх нас павядзе на барыкады?

Што маем, ёй бы кінулі да ног!
І вартавыя чуюць нашы енкі,
калі начамі ў каляровых снох
мы бачым гэту даму без сукенкі.

Мы валім дрэвы, чэшам камяні,
капаем катлаваны і каналы,
чакаем на спатканьні, лічым дні
й абагаўляем сьвет наш дасканалы.

Бо верым: навакольнае лайно
цудоўным гноем станецца ў гасподзе.
Праз закратаванае акно
гартуем дых, каб дыхаць на свабодзе.

Таццяна Хмарка

* * *

Мы ня лічым дзён.
І складаем вершы.
Беларусь будзе жыць
І жыве.
Бы ў першы
Дзень свайго існаваньня
На нашай крывіцкай зямлі.

Мы ўздымаем сьцяг
Бел-чырвона-белы.
Мы адшукваем волю
Ў сівых залевах.
Нам яна падаецца
Далёкай і блізкай такой.

Дапаможа нам
Успамінаў вэлюм.
Мы вадою купальскае
Ночы здалеем
Урэшце з пылу сабранага
Ідала перамагчы.





Ільля Сін

* * *

зялёныя вочы яе гэта рухі ў нябесную
несьвядомасьць. Мы ішлі па блакітнай даліне
ламаючы цені шкляных зорак і трушчачы
чыгуновых карлікаў. Дождж які падае
зьнізу ўверх пераўтвараўся ў фаервэрк
на Дзень Салодкае волі. Потым усё зьнікла
і катафальк з кавалачкамі мяне рушыў назад
раскалоўшы твой сон.

* * *

Стагодзьдзі запавольваюць хаду,
як воблакі на горным перавале.
Млынарскім колам чэрпае ваду
маўклівы час. Бягуць хвіліны-хвалі.

Самотна кленчыць маладому дню
перад цыганскім сонцам у паўзмроку.
Як недарэчна вечнаму агню
гарэць на плошчы ў чэрвеньскую сьпёку!

Нас клікалі на Бальтазараў пір,
дзе бубен біў штоноч бесьперастанку.
Каго — у змрок зацягвала, бы ў вір,
хто — трызьніў прыйсьцем сонечнага ранку.

Пясьняр хадзіў па лёзах басанож.
Скрыпач задумна вандраваў па гамах.
Дудар хаваў у кайстру юдаў грош,
што ўдзячна ўзяў як ласку з рук паганых.

Пякельніку няхай прысьніцца рай,
аглухламу — каленцы пасьвісьцёла.
Страла дарогі ўпрэцца ў небакрай
і ўзброіцца навершнікам касьцёла.

Вяроўка тарганецца на зване
й тут, на зямлі, што зь небам у лагодзе,
нас вольная Айчына назаве
паэтамі дваццатага стагодзьдзя.





* * *

Я пад бязьлітаснай лямпаю плакаў
Маскіруючы сьлёзы пад соўс
Я не адсюль
Я з дарожных знакаў
Пыл дзьмухаўцы міжгародні аўтобус —
Вось дзе я нарадзіўся й вырас
Няўлоўны нібыта кампутарны вірус
І тым ня менш жы-
Вы памыліліся
Саныч Міхалыч Васіліч
Гэтак інфаркт схапіць можна!
Я не адсюль
Я на знаках дарожных жыву
— Маладый чалавек, мы, здаецца, вас бачылі...
— Так, вуліца Н.
«Бутэрброды гарачыя», крама «Смак»...
Там ля апошняга дрэва алеі
Сохне дарожны знак.
І калі вы прыладжваеце свой чвякальнік
Я сумую па ім абвітым вужакамі
Па ягонай пыльнай кайме...
Ён — дом для мяне

Сайман Леві

* * *

Устаньце, Паэты!
Варта Начы!
Ахавачы Душы
Долу Праху
і Песьняў Неба.

Уважайце Закліку Баявому
Музы й абмежаванага часам
Чалавецтва, напору ўпартаму
Дэкартавых сьветаў, напоўненых эмоцыямі
і пазачасовых уяваў ветахамі.

Жыцьцё — гэта дзіва,
пра якое Сьпяваем.

Бо мы — Шукальнікі
Песьняра Сьвятла.

Сябры-Паэты!
Шануйце жыцьцё вокала вас
выключнае і дзівоснае.
Узносьце свае алтары й прыносьце дары,
і пазнавайце чалавека такім,
які ён ёсьць, ягамосьць.

І ў падарожжы гэтым прыйдзіце да адкрыцьця,
хто мы ёсьць: Вяртальнікі жыцьцю жыцьця,
Прапаведнікі Праўды, Карнавальныя
Выкрыўлякі,
Гукалы гледачоў,
Валацужныя Ваяры Невіноўнасьці а Віны,
Падтрымоўцы Шляху Сьляпога Прарока.





Бо Мы — Хадакі,
Працаўнікі, што шукаюць няспынна
ў ручаінах чыстых і гарадзкіх канавах,

што нараджаюць Заклік, Плач,
Сьмех Жыцьця.

Уставайце, Паэты!
Вачэйце, Позіркамі сьвітаньне ратуючы,
лямантуючы Песьні Захапленьня свае.

Пераклад Рыгора Барадуліна

* * *

Вялізнае
чырвонае
вока
Хоча
у мяне
залезьці
І прачытаць
усе думкі
І пазбавіць мяне
зроку
Каб застацца ў мяне
адзіным
Самым
каштоўным
вокам.
Але я яго
асьляплю
І нават прадзіраўлю
чырвань.
І зь яго
пацячэ
вонкі
Нешта глеістае.
Мабыць то —
ягоныя мазгі.

Хай цяпер
усе
глядзяць
Што было знутры
ў той пачвары





Хай цяпер
тое вока
зыркатае

Расплюшчвае сябе
дзеля натоўпу!

* * *

Пакрысе стваралі сьвет прыстойны,
Білі ў бомы дзесьці вечарамі,
Ходарам хадзіў дарожны камень
Ад скачкоў драбінаў неспакойных.
Пелі мы паўсюдна хорам зычным,
Паглыналі той напеў дубровы,
Людзі адхілялі нашы словы,
Людзі кпілі з нас гурмою звычнай.
А калёсы гулка беглі, порстка,
І гальлё сьцябала без разбору
Нашы твары, чорныя ад гора,
Нашы плечы выцінала хвостка.
Паабапал рагаталі ведзьмы,
Лес змрачнеў, і без таго цямравы,
Кажаны шалёныя забавы
Ладзілі ў вершалінах недзе.
Але беглі да зары сьвітальнай
Коні змардаваныя, і людзі
Пацеры ў вусьцішнай атруце
Паўтаралі няўхільна дбайна.
І нарэшце змоўклі гукі разам,
Вокамгненна кажаны здранцьвелі —
То на ўсходзе хмаркі ружавелі,
Дабрыня ўзьнімалася тым часам.







* * *

Нельга жыць бяз волі чалавеку,
воля — варта нашай барацьбы.
Але на зямлі жывуць спрадвеку —
каб жа толькі Божыя — рабы.

Берагуць майно, а час марнуюць.
Прадаюць за грош душу і дар.
Рабства сёмы год сваё сьвяткуюць,
хоць спусьцеў дарэшты каляндар.

Гонару й сьвятыняў не бароняць.
Дзецям не ладкуюць родны кут.
Прамянялі вольную Пагоню
на абвіты стужкамі хамут.

І дэкрэты ў іх вышэй закону,
і ў культуры — кожны культурыст,
нат у храме Божым ім з амбону
мовіць праваслаўны атэіст.

Дзень зьмяняе ноч, а сонца — цемру.
Змрочны час, дасьць Бог, перажывем,
грамадой, нарэшце, зможам хеўру
і Айчыну вольнай назавем.

* * *

«Не прислоняться!» —
Я — дзьверы ў вагонах мэтро.
«Не прислоняться!»
Моцна трымайце ў ахапках
і думкі, і справы.
Я на наступным вазьму
й адчынюся направа.
Стоп! Вам далей!
А на гэтым сыходзіць Варава!
Я за шчакой яго позірк насіла бяз кпінаў.
Я па вушных лябірынтах Вараву вадзіла.
Ён жа складаў кубік-рубік з маіх
успамінаў,
і я галавой упіралася ў безвыходнасьць.
А я ўпіраюся ў безвыходнасьць,
нібыта
ў дзявочую цноту, пляву і іду па тым лёдзе.
І прагну зваліцца ў ваду, гучна крыкнуўшы:
«Годзе!»
І зноўку заўсёды знаходжу ўваход у
безвыходнасьць.
Так — «Не прислоняться!»
Я — дзьверы ў вагонах.
Я — дзе вы?
Заенчылі і застагналі прагаліны моваў.
Я разразаю жывот вамі згубленых словаў,
І потым вымаю адтуль
пацукоў і пачуцьці.







* * *

Ява — сон.
Вакол мяне — пустэча.
Мёртвы горад.
Сярод тлену — я.
Замест звыклых і патрэбных рэчаў —
Толькі сьмецьце, друз і цішыня.
Столькі сьмецьця?
І нямыя вусны
Зблытала сутоньне і сьвятло,
У смуродзе ўсюдышнім і гнюсным
Цешыцца уедлівае тло.
Болей за мяне ніхто ня вінны,
І за гэта — сёньняшні адказ.
Прагнуць долу ценькія галіны,
Ўсё зрабіла ўласная рука.
Вырвемся?
Ці цёпленька сатлеем
Ва улоньні сьметніка і сну?
Несвабода ува мне шалее
У пажадзе спляжыць ды сагнуць.

*Міхаіл Рэнджаў*

* * *

«Глядзі, — кажа Алесь, —
па небе плывуць вершы:
кожнае
воблака
аркуш.

На возеры напісаныя вершы:
кожная
хваля
аркуш».

«Глядзі, — кажу яму я, —
неба, возера і манастыр —
усё ў нас сьпісанае вершамі:
кожны
выдых
верш».

Ў гэты міг праляцелі анёлы,
ціхім голасам сьпяваючы вершы...

Алесь і я слухаем,
маўчым
і
плачам.

*Пераклад Людкі Сільновай*





*Арцём Кавалеўскі*

* * *

На вуліцах хлопцы шукалі свабоду,
Як бабкі шукаюць бутэлькі ў смецьці
На плошчы зь вядомаю назвай Свабода,
Шукалі, блукалі па сьвеце, як дзеці.

Свабоду, як штучную танную каву,
Мы спажываем з ахвотай штодня,
З прысмакам прыкра-салёным, крывавым...
Іншага, мусіць, чакаем дарма.

* * *

Волю скручваюць страхам сьмерці.
Долю высьпеліць страта страху.
Хто здалее пятлю разьдзерці,
Уратуе душу ад краху.

Страх накідваюць, як аркан,
Бессаромна рабуюць людзтва,
Антынацыянальны экран
Палівае народ паскудзтвам.

Быдла стала людзей судзіць,
Не збыдлеў — глядзяць, як на дзіва.
Ды вачыма дзяцей глядзіць
Абязьвечаная радзіма.

Ці адчуе пякельны жар,
Хто чужынкай гвалтуе мову,
Хто аплёўвае Божы дар
І калечыць жывое слова?

З гэтым словам нас Бог пусьціў
У сусьветы сваіх абшараў.
Хто пачвар на зямлі пладзіў,
Ці пазьбегне суда і кары?

Варта людзка пражыць свой век,
Не падлізваць, ня поўзаць ракам,
Каб сказалі: «Памёр чалавек»,
А то скажуць: «Падох сабака».







* * *

Адэса называла маму — літвачка.
Дык хай як маму
Ўся Адэса мяне кліча
І ўся Літва мяне.
Хто знае,
Дзе яго радзіма?
Хто ведае?
Не ў Літве я нарадзілася,
Не ў Літве — я.
Але Літва —
Маё то ўлоньне прадаўнае,
Але Літва —
Мая мэлёдыя сапраўдная,
Мая то мова нетуманная.
І выбрала ня я Літву,
Літва сама мяне.
Зь Літвы я.

* * *

Блакітныя цені ў сутоньнях двароў
Цягнуць чарніла з горла,
Нэонавыя ліхтары
Яшчэ не заплюшчылі сваіх вачэй,
А цяпло ў кватэрах ужо зачынілі пад ключ
У тры абароты.

Я ведаю
          пра ўтульнасьць прыступак
          і цеплыню сьценаў.

Але ня бойцеся,
          сёньня я
Ня буду стукацца ў вашыя дзьверы.

Вам не даведацца пра мае думкі,
Як мне не працікаваць за вашым
Жыцьцём празь дзьвярное вочка.

Праехала «хуткая дапамога» —
Камусьці ў горадзе гэтым
Горай, чым мне.

Бомж зазірнуў у сірочую урну —
Часовы прытулак для сьмецьця —
У пошуках шкляное тары
Выпітага ўшчэнт дня.

Бы дзіцёнак пакрыўджаны,
Кот заплакаў.
Сэрца сьціскае вецер халодны.
Але ня бойцеся,
          сёньня я





Падумаў аб тым, дзе зімуюць сэрцы
Зьдзічэлых у гэтай краіне паэтаў.

У ярка-бліскуча-асьветлена-сытых
Вітрынах мой позірк
Утопіцца раптам.

А ўсё-ткі мне добра,
Хоць хтосьці
          зь мяне пасьмяецца,
Хоць хтосьці
          мне пазайздросьціць.

А хтосьці спалохана збочыць
На край тратуару,
          на самы акрайчык,
          на бераг,
Дзе ў рэках асфальту плывуць
Жалезныя рыбы аўтамабіляў.
Чамусьці заўсёды бэнзынавы пах
Мне падаваўся вясёлым.

Але ня бойцеся,
Я не пайду за вамі
У ваш край, на ваш бераг.

Ёсьць у мяне свой Край —
Гэта мае прыдумкі.
Ёсьць у мяне свой Бераг —
Гэта мае ўспаміны.

Я магу вас паклікаць і паказаць,
Як пахне палын,
Як рыжык хрумсьціць на зубах,
Як на кастры можна запекчы

І яблык, і бульбу,
Як бражка п’янкая
Можа кроў весяліць...
Як шмат я магу паказаць,
Макаючы пэндзаль у фарбы
Трызьненьняў начных...

Але ня бойцеся,
Я не паклічу,
          можаце сьмела заставацца
          ў тым, дзе вы ёсьць.

Толькі не праганяйце мяне,
Я пасплю
          ў гэтым сквэры
          на лаўцы
          пад ліпай.
І сьвітанак сустрэну вачыма,
І прывітаю першы тралейбус,
І буду
          цярпліва, спакойна
          чакаць,
Пакуль не пачнуць
Адчыняць павільёны
З халодным разьведзеным півам.







* * *

Зноў я вярнуўся ні з чым
Да гэтых згнілых варот,
Скуль празь няўрод і нішчым
Паразбрыдаўся мой род.

Я ненадоўга, але,
Божа, які гэта жаль —
Бачыць у стылай імгле
Сад абляцелы амаль.

Божа, ад пунь і ад хат
Цягне такою жальбой,
Што застаецца няшмат,
Каб не пакончыць з сабой.

Божа, калі ўжо й мяне
Перст Твой, як яблык, страсе —
Хай яшчэ раз сьлізгане
Цень мой па цёмнай страсе.

*Інэса Кур'ян*

* * *

Пасярод агарода
З буракамі і бульбай,
Там, дзе вішні зарэюць
І грушкі як мёд,
У ашмётках ды горда
Стаяла Свабода,
І ня лезьлі вароны
У наш агарод.





*Браёні Джагер*

* * *

Калі была свабодная,
я ўпарта ненавідзела заапаркі.
Бо мне не даспадобы
бачыць жывёлаў у клетках.
Мне здавалася несправядлівасьцю
мая мажлівасьць
рабіць усё, што мне
даспадобы,
калі чужое жыцьцё закрачанае
волі ня бачыла.

Цяпер, калі я ў клетцы
клопатаў хатніх,
мне заапарк прывабным здаецца.
Мне даспадобы свой боль дзяліць
з роднаснымі зьвярамі,
адчуваць, як ім няволя баліць,
бо разумеюць яны дух закуты,
які ні краты, ні кайданы
ня змогуць адужаць,
бо дух усё яшчэ тужыць
па свабодзе.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

*Мікола Віч*

* * *

Прыйдзе восень — забярэ мяне з сабою,
прыйдзе вецер — забярэ мяне з сабою,
прыйдзеш ты — і спозьнісься, як сьмерць.
Сэрца не пасьпее дагарэць,
гукі не пасьпеюць стацца словам,
не пасьпеюць словам адляцець,
стануць вокам, носам, ротам, вухам,
цень мой не пасьпее звар’яцець,
цьвелячыся з правільнасьці рухаў,
тоячыся побач, не пасьпее
кава закіпець, і попел
прызямліцца не пасьпее на падлогу,
стане кава цёплаю вадою,
цыгарэты мяккаю травою,
хата не пасьпее акалець...
Прыйдзеш ты,
і спозьнісься,
як сьмерць.





*Валянцін Тарас*

* * *

Не забівай прэзыдэнта!
　　Ня варта.
Хай сам ён штодня памірае ад страху,
ад жаху,
　　якога зіркатая варта
　　ня можа спыніць ля ягонага гмаху.

Не забівай прэзыдэнта!
　　Ня трэба.
Хай сам памірае ад страху штоночы,
што ўсё-ткі і ён не вышэйшы за Неба,
што сочаць за ім ўсёвідушчыя вочы.

Навошта табе забіваць прэзыдэнта?
Страх ліхаманкава дасьць яму рады.
Страх —
　　гэта яго пажыцьцёвая рэнта,
адзіны ягоны набытак з улады.

...Цікае страху нябачная міна —
найлепшая кара за ўсе вераломствы.
У сьне, як вулькан, уздыхае краіна,
поўніцца лавай народнае помсты.

　　Не забівай прэзыдэнта!

*Сяргей Панізьнік*

* * *

Шчакочуць шчокі маразы.
Дзе
          дзень
                    узьнёслы?
Зіма. Сьвіргочуць палазы.
Інеюць вёслы.
Прыслухаюся:
Ня я адзін
Хадок нязгоды.
Але ж пакуль вясны турботы, —
Паэтам стань, грамадзянін!
Не адкладай уздых на потым:
Плыве з раструшчаных ільдзін
Азон
          свабоды.





*Таццяна Будовіч*

* * *

Начны нядрэмны мой
          канвой

Ланцуг твой не парваць
          ня зьняць
          і я
          твая

Дай мне зрабіць хоць крок
          убок
          знарок
          у змрок

Загінеш змрок накрыў
          абрыў

І чорная трава
          як твань
          на ім
          пад ім

У сэрцы прарасьце
          ўрасьце

Тут выйсьця не знайсьці
          ісьці

Ісьці ўвесь час здалёк
          скрозь змрок

* * *

Каб жыць — і ня ведаць,
на якія вяршыні
ступаеш,
што кожны наш крок —
па-над прорвай;

не баяцца
збудзіць матылёў
бляклакрылых,
што зь безданяў
вылятаюць раямі;

не шукаць таемныя сэнсы
карункаў
іхнага танцу,
што ў адзіным:
жыць і — ня ведаць.







* * *

Калі яна прачнецца — ёй нехта ўсьміхнецца.
Мо гэта проста сонечны прамень?
Ці струмень успамінаў?
Не... сёньня, як і ўчора, у яе душа чорная:
Гэта проста ілюзія — яе сьмерць і муза.
І проста хоча вар'яцець,
Хоча забіць, ашалець, ацалець...
Не... яна ня здолее, бо скаваная
Вялізнымі мяхамі мараў з шэрых падзей.
За акном — верабей... Скок... Скок... Яшчэ разок...
І яна ведае:
Так і душа яе будзе падскокваць,
Адарваная ад прасторы і глебы...
І ёй балюча, і ёй безвыходна,
Аднак жыць і соладка, і лагодна.
Толькі часу зусім ня памятае:
Колькі гадоў, мо гадзін ці стагодзьдзяў
Яна жыве ў тым пакоі,
У якім ня ходзяць кветкі і фарбы,
Гукі і словы, людзі, жывёлы, паветра, плянэта.
Дзе гэта?
Мо толькі сон?
Які ж праклён і які Бог
Так пакараў яе, ды за што?
Што вядзьмарка?
Што проста дзяўчына?
Дзіўна, ёй вельмі дзіўна...
І самотна, і балюча,
Бо страціла, не знайшла,
Таго, у кім была, у кім расла,
Яго — Бога, і Анёла, і Сьвятога,
Ад якога
Ня сонца кожную раніцу ўсьміхаецца,
Не струмень успамінаў гайдаецца,

Ад яго
Душа яе вызваляецца,
Ад чараў сваёй прыгажосьці —
Невыноснага пакараньня
Усіх часоў, якія пражыла,
У якіх палала на вогнішчах,
У якіх шукала,
У якіх самога Яго, як Бога,
Анёла, Сьвятога
Пракляла.
І насустрач брыдзе сатана,
Ды і яму не патрэбна яна,
Нікому...
Акрамя сьвету пустога,
Дзе штораз ёй нанова
Нехта ўсьміхаецца...





*Павал Палаўскі*

* * *

Сьню я цябе, мой Яне слаўны, зь любоўю;
твар твой хлапечы мне бачыцца асабліва,
страчаны час маладосьці ўзгадаю шчымліва,
сіні бутон, які голаў узьняў тужліва
ў зорнае неба, схілёнае над табою.

Сіні бутон тугі, нязьдзейсьненых мрояў,
марны жаль тугі — трывалы надзіва;
ты мне сына, Яне, напомніў жыва,
што (з маёй віны) лёс ня даў датклівы,
ды заўсёды ў памяці ён, са мною.

Ты за ўсіх за нас ахвяраваў сабою,
як мы цьверазелі, прайшоўшы праз мліва,
з акупантам вылезьлі бруд і зьлівы
й наша су-віна, што ўжо сарамліва
твар слабым фарбуе чырванньню густою.

Яне мой наймілейшы! Ты з ганьбай такою
жыць ня мог — у агонь пайшоў жахлівы,
склаў ахвяру, келіх выпіў жарліва;
ты Сумленьнем нашым зрабіўся ймкліва —
хто забудзе цябе, не здабудзе сабе спакою.

P.S.
Для людзей ты зьвязаны з Свабодай тою,
пра якую мрояць Тыбэт і Каўказ няспынна,
Русь, Кітай, Беларусь, Косава, Украіна —
Яне, цяпер б'ецца ў нас тваё сэрца жывое,
сілы таемныя ў нас будзіць сваёй сьветлынёю.

*Пераклад Лявона Барычэўскага*

* * *

На полі белым
Стужкаю блакітнай
Кроў пульсуе,
Як дзень — быцьцё
З усходам
І зьмярканьнем,
Тусоўкамі паэтаў-наркаманаў
Пад музыку
Рытмічную, як час...
І хочацца
Зьвярка па імю
Status quo
Забіць нажом у сэрца
І зрабіць зь ягонай скуркі
Шалік для матулі —
Падарунак.
І курчыць,
І сьціскаць сэкунды,
Нібы гліну,
Ствараючы зь яе,
Напрыклад, Еву
З трыма рукамі,
Каб туліла моцна,
І закахацца ў гэтае стварэньне
Ня больш, чым на імгненьне.
Так, на некалькі начэй
З рыпучым ложкам,
А потым можна
Выставіць яе за дзьверы,
Уклаўшы ў руку
Грошы на таксі,
Пацалаваўшы напасьледак,





І — напіцца,
Жыцьця набрацца,
Быццам жаба гразі,
Каб нарадзіць чарговага дзіцёнка
На сьнежным полі
Аркуша
У сшытку.

*Віктар Скараход*

* * *

Ідуць вякі. Міналі і мінулі,
Усе суседзі збудавалі дом,
А наша падчарка бяз бацькі і матулі
Стаіць, укленчыўшы пад сестрыным акном.

А там у хаце — вэрхал і згрызота,
Чуваць і зданяў дзікі страшны сьпеў.
Там не жыла ні згода, ні даброта,
Там сад маёвым кветам не квітнеў.

Мільгалі ў небе стрэлы-бліскавіцы,
У сэрца білі громы-перуны,
Там чырванелі рэкі і крыніцы,
Там клалі ў дол бяз крыжа і труны.

Адтуль чума паўзла-плыла па сьвеце,
Зьнішчала сёлы, гоні, мурагі,
Апосталы ж крычалі ўсёй плянэце,
Што там растуць на вербах пірагі.

Дык нашай падчарцы бяз бацькі і матулі
Ці варта стукацца ў сястрын вар'яцкі дом?
Вядома: нашу большая прытуліць,
Толькі за ласку — заплаці жыцьцём.

Няхай ты лепей клікнула б талокі,
Сыноў і дочак запрасіла раць,
Каб дружна выйсьці на свае валокі
Араць і сеяць, ляда плюндраваць.

Падмурак моцны хаце збудавалі б,
Зашклілі б вокны сонечным сьвятлом
І новыя малітвы прамаўлялі б
Сьвяточным Велікодным днём.





*Антаніна Хатэнка*

* * *

Прымаю Волю Тваю, Божа, —
зьлятаю і падаю ў жыцьцё.
У беспрасьвецьце й бездарожжа
жывічна час мой пераце́к.

Тваю прымаю, Божа, Волю —
іду й пераўзнаўляю Шлях.
Свабода ў цёмным чыстым полі
мне голас падае здаля.

Мой Божа, Волю звыш прымаю —
мудрэю і мужнею тут.
Усё Свабода абдымае —
дабро і ліха, лад і суд.

Прымаю Мудрасьць Тваю, Божа, —
малю, пакутую, люблю.
Дух ахінае абярожна
Свабоду, неба і зямлю.

Любоў Тваю прымаю, Божа, —
і зь пекла вырастаю ў рай.
Хай дапаможа й пераможа
мая Свабода Выбіраць.

*Андрэй Гуцаў*

* * *

Па нюансах, як па клявішах, прайдзіся,
Дух свавольны, патаемны, незямны, —
Па аблоках, як па крыгах, скачуць рысі
Нестрыманае, драпежнае вясны!

Напляваць на прамінулыя няўдачы,
Напляваць на мной пакрыўджаных калісь —
Нестрыманая, па дрогкіх душах скача
Неўміручасьці прылашчаная рысь!

Завагайся, дасканалае Тварэньне,
Нечуванасьці дасьціпных слоў і нот —
Каб збудзіліся былыя пакаленьні,
І картавы Бог-маўчун разявіў рот!

Па жаданьнях, як па клявішах, прайдзіся,
Жах зьдзяйсьненьняў, патаемны, незямны, —
Па аблоках, як па крыгах, скачуць рысі
Неўміручае, рэальнае вясны!





*Аксана Забаштанская*

* * *

Заплюшчыць вочы і глядзець,
каб распрануць са шкла малюнак
згубленага майстра.
І твае вочы будуць грэць
жывыя фарбы
без шклянога бляску.
А потым будзе проста сон,
дзе сінь і чырвань разам.
Рэзка. Сьмешна.
І колеры ва ўнісон
гучаць з атрутай мёртвых вершаў,
з атрутай ржавага ляза,
што не пакрыўдзіць вен і пальцаў,
стракатых дзён, якім, прызнацца,
наканавана паўтарацца,
бо на іх не хапіла фарбаў
згубленага майстра.

*Зьмітрок Куніцкі*

* * *

Куды ты ідзеш, Беларусь мая родная?
Куды ты трымаеш свой шлях?
Няўжо ты такая ўжо Богу няўгодная,
Што волі ня бачыш працяг?
Няўжо ты аглухла, і кліч Каліноўскага,
І водгук Пагоні ня твой?
І нацыі роднае плачу галотнага
Ня чуеш ты сёньняшні боль?
Няўжо ты пад цемрай чужынцаў зьніцелая
Ня выклічаш Божы прамень?
Ты столькі адолела і, ацалелая,
Не ўпусьці, Беларусь, сьветлы дзень!





*Морыс Фары*

* * *

Народжаных
ненароджаных
мёртванароджаных
дзяцей

і гэта й тая дарога хістае

у гэтай цямніцы ў жудзе
дзе
мужчыны ў рыцарскай броні
не прызнаючы спачыну
зброю мацаюць
бароняць
краіну
веру
цывілізацыю

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

*Сьвятлана Ўсьпенская*

* * *

Адсутнасьць сэрца —
Як сьведчаньне болю.
Гэта —
Толькі слоўны выраз...
Дожджык салёны,
Вецер б'ецца
Мокрай, чужой далоньню.
Дзень асьлеп і вырас,
Вырас асілкам цэлым
Пустэчы сьляпуча белай.
Ціхая, ціхая справа —
Гэта тваё права.
Устань і ідзі па лёдзе
Пад рытм свайго сэрца адзіны,
Пад свой непаўторны рытм.





*Алесь Мікалайчанка*

* * *

Па-над зямлёй каханай і сьвятою
Званы трывожным гудам загулі:
Гэй, землякі, на вас ідуць з вайною
Ардою незьлічонай маскалі!
Гэй, землякі, — да Воршы, да Крапіўны!
Сам князь Астроскі прысьпяшае час...
Ударце дружна — і паганцы сьпіны
Пакажуць вам і пабягуць ад вас!

Плывуць званы з тых векавых прадоньняў,
Нясуць у нашы душы неспакой,
Каб мы з табою помнілі і сёньня
Якога племя-роду мы з табой.
Услухайся — і ўбачыш:
Каліноўскі
Нам проста ў твар з-пад вісельні крычыць:
Глядзі, народ, каб гаспадар маскоўскі
Цябе ў сарцірах не пачаў «мачыць»!..
Ня дасьць табе ні хлеба, ані солі
Матуля — Беларуская Зямля,
Калі сваёй ты не здабудзеш долі,
Калі ня скінеш з карку маскаля!

Гудуць званы, як галасы стагодзьдзя,
Зьбіраюць сілу, уздымаюць раць.
Гудуць званы — і мы гаворым:
— Годзе
Пладзіць рабоў і рабства шанаваць.
Гудуць званы ад раньня і да раньня,
І гэты звон ня сьцішыць, не забіць...
Гудуць званы і клічуць да змаганьня —
Айчыну ад чужынцаў бараніць!

*Ганна Ціханава*

* * *

Чалавек — згустак цела з душою,
Скрыжаваньне пачуцьцяў расьпятых,
Расьцякаюцца ў венах з крывёю
Мары хрусткія. Зьдзейсьніць іх — сьвята.

Нескончоная лесьвіца, крокі —
Тыя ж людзі — палёт у пустэчу,
Мы жывыя, мы вечнае вока,
Але часам здаецца, мы — рэчы.

Чалавек — зь веку ў век — быў часовасьць,
Пабудова з крупінак турботы.
Рэчаіснасьць і дух крышталёвы —
Гэта ўсё чалавек, не істота.

І паўсюль ён шукае свабоду...





*Таццяна Багарадава*

* * *

Калі абуджаецца вечнасьць
Пад шатамі велічных вежаў,
У замку сярэднявечным,
На стыку бясконцасьці й межаў,
І цені былых пакаленьняў
Па сьценах гвалтоўна расьпяты
Бязь сьлёз і гарачых маленьняў,
Людзкую спасьцігнуўшы плату,
І брудныя чорныя вокны
Удалеч глядзяць безнадзейна,
І сьцены ад дожджу прамоклі,
Ў зямлю ўрасьлі непадзельна,
І ў небе бязьлітасна-шэрым
Адны груганы ды туманы,
І вецер ў скляпеньнях замшэлых
Бязмэтна блукае, бы п’яны,
Мы дзіўныя постаці бачым
На даху, ля самай званіцы,
І нехта ў роспачы плача,
І грукаюць дзесь аканіцы.
Напэўна, былыя магнаты
Раптоўна да нас завіталі,
Мажліва, для жорсткай адплаты,
Што род іхны не захавалі.
А можа, іх вельмі цікавіць
Кошт волі і вернасьці плата.
Хто сёньня ў нас валадарыць?
Каму б’ем паклоны заўзята?
Прайшлі шлях цяжкі і складаны
І гора ўзахлёб паспыталі,
Былі і князі, і тыраны,
Ды мы сярод іх не прапалі!
І ў цёмнай бясконцасьці неба
Праменьчык гарэзьліва скача,

І сонца, нібы бохан хлеба,
І людзі з усьмешкай юначай.
Стаіць Беларусь, быццам замак,
Там варта надзейная служыць,
Шукае спрыяльны напрамак,
Каб шлях да Свабоды адужаць.







* * *

Свабода — гэта белы сьнег,
Які кладзецца на зямное,
На цьвёрды, учарнелы грэх, —
Як абяцанае, сьвятое.

Яна прыходзіць, як зіма,
Свабода: белае збавеньне.
Улёткаў круціцца гурма
Ці сьнегу белае насеньне?

Бягуць, зьнікаюць назаўжды,
Вужакамі ў спрадвечным моры,
Як восеньскія дні — гады,
Вільготныя ад сну і гора...

Свабода — гэта белы дзень
Паміж мінуўшчынай і сьветам
Наступнасьці. Туды вядзе
Мароз дзядоўскіх запаветаў.

*Ян Чыквін*

* * *

Сонца ходзіць па хаце
цёпла-сьветлаю зьявай,
мякка душу адчыняе,
сьцеле наўсьцяж надзею:
«Будзе жыць айчына
небам сваім і зямлёю!»
Ёсьць такая памклівасьць!

Ёсьць такая патоля!
Скінем няволі вярыгі,
жыць нам у сьвеце лепшым,
дзе кнігі чытаюць кнігі,
а вершы родзяць новыя вершы.

Ёсьць такая мажлівасьць!
І духу такая воля...
Будзе жыць айчына небам сваім і зямлёю.
І ўладай неаддзельнай Менску
пастромім беларускім словам зямлю
ад Бельску да Смаленску,
і Вільня стане нашым домам.





*Юры Андруховіч*

* * *

Адзін зь недабітых у дзевяноста першым
спаткаў мяне, ушчэнт дабітага, сярод начнога
Львова.
Начны Львоў збольшага належыць ім —
я, мабыць, адзіны, хто пра гэта ведае.
Ён таксама хацеў піва, як выявілася, —
п'яны марадэр, удзельнік баявых падзеяў і г.д.
«Брат! — казаў ён мне. — Брат! Піва кончілась,
ты представляеш? Піва кончілась, жена ушла!»
Я ня ведаў, што ў сьвеце бывае такая роспач.
Мне ўсё чулася нешта пра трэцюю частку вод
і палын.
Анёл у футболцы з трэцім нумарам ішоў па небе
із сваёй дурнаватаю дудкай.
Мы абняліся, нібы за хвілю апынемся перад
Судзьдзём.
Перапрашаю, арбітрам.

*Пераклад Андрэя Хадановіча*

*Галіна Тварановіч*

* * *

Ты сам пераводзіш стрэлкі гадзіньніка
бясконцых сусьветаў таемных лёсаў.
Ты сам — бэтлеемская чаканая зорка,
запаленая над прачыстай дугою
вялікаснай дамовы з чалавекам.
Ты сам — непазнавальны, усяісны,
кожнаму зычыш свае перамены,
еднасьць у сьвятле абяцаеш.
Вынайдзі ж апраўданьне і мне,
чэмернай, горкае кроплі
ў шчодрай задуме пра чалавецтва,
мне й усім, каго ў сэрцы трымаю,
і ўсім, да каго ня маю любові
ў малое сэрца ўмясьціць.
Вынайдзі, Божа, мне апраўданьне
на шляху да Твайго жніва.
І можа, не пераведзены шчэ стрэлкі...





*Сяргей Патаранскі*

* * *

Сьпяць паэты менскія, як дзеці,
У сьвяточных снах і шчасных мроях
І ня чуюць, як ідуць забойцы
Па іх душы і нясуць з сабою
Дзевяць грам каштоўнага сьвінцу
Для іх целаў, што ляжаць у ложках.

Разам зь імі у любоўных ложках,
Сьпешчаныя прагай і мілосьцю,
Побач сьпяць паэтавы жанчыны,
І ня чуюць болей анічога
Акром музыкі жаданых сэрцаў,
Што бруіцца над сусьветам быццам
Найчароўнай флейты звон для іх.

Горад сьпіць, схаваўшыся пад коўдры,
Як паэты і жанчыны-музы.
І ня сьпіцца толькі іх забойцам.

Ведаючы страшную работу,
Паляўнічыя ідуць па душы
І нясуць, як Моцарту зламысьнік,
Да аквітасьці — ліхога яду:
Дзевяць грам каштоўнага сьвінцу.

* * *

Гісторыя нам незалежнасьць падарыла,
Прынесла нам свой дар велікадушны;
Здавалася б, што незалежнасьць гэта сіла,
Вакол якой мы станем мурам непарушным.

Ды мы так доўга у няволі прабывалі,
Што палюбілі на сабе ланцуг жахлівы,
Які цары далі; яго умоцніў Сталін,
Сказаўшы, што ў няволі чалавек шчасьлівы.

І мы саромемся таго, чым трэба ганарыцца,
Сваёй душы, ў якой ірдзіцца непаўторнасьць.
Замест таго, каб за свабоду стойка біцца,
Мы рвемся ў цемру, а ня ў сонечнасьць
і зорнасьць.

Жывем мы на зямлі зь нявольніцкай пакорай
І любім той ланцуг, які хрыбты дратуе,
І з сувэрэннасьці ізноў ірвемся ў гора,
І роднага свайго зь няволі не ратуем.

Як паўсьляпыя, мы брыдзем у цемру глыбей
І не шукаем да свабоды сьветлае дарогі.
Нас фатум прыдавіў нявольніцкаю глыбай,
Забылі, што жывем на сьвеце з волі Бога.

На моладзь, на яе, уся надзея наша,
Што ўскалыхнецца і уздымецца з каленяў,
І стане, як адзін, ад Полацку аж да Падляшша,
І рынецца у бой за справу адраджэньня.





Гісторыя нам падарыла сувэрэннасьць,
Як каравай маладажонам у нас дораць.
Дык выкідайма з душ нявольніцкую беднасьць
І падымайма зрок да сонца і да зорак.

* * *

Ой прастора ты, ой ты, прастора,
Ой ты, сьвет на зыходзе зімы!
Што было невыноснага ўчора,
Сёньня быццам забыліся мы.
І ўзіраемся ў далеч збавенна,
І расчулена слухаем шыр,
Гэта ён, гэта ён, несумненна, —
Баганосны прад намі эфір.
Вось ён поўніцца ў фарбах прасьветлых,
Вось ён сьвецішца між сівізны,
У сьнягах, у лясах запаветных
Напярэдадні новай вясны.
Вось ім дыхаюць далі-абсягі,
Вось нябёсы струменяцца ім,
І зьнікаюць нядаўнія страхі
У далёкі дзесь прыцемак-дым.
Ані скрухі ўчарашняй, ні зморы,
Зноўку іх пераджыць памаглі
Звышмагутная сіла прасторы,
Звышадвечная цяга зямлі.



# красавік

*Натальля Бурдзейка*

* * *

Размокнуць засохлыя фарбы
затрымцяць у чаканьні папера
хлынуць колеры
і бязьлікі аркуш успомніць
што калісьці быў дрэвам
выпусьціць парасткі
спужаная птушка
прарве малюнак





*Ірына Дарафейчук*

* * *

Я раскажу табе казку.
Ноч за акном закалыша
Дрэвы, і птушак, і зоркі —
Я раскажу табе казку,
Слухай, зьдзіўляйся і думай.

Недзе — ня ў нас, а за сьветам,
Цень захінае прастору,
Хмары стаяць над вадою,
Хіляцца хмары над полем,
Лес затуляюць і нівы.

Недзе — ня ў нас, а за сьветам,
Дзень ад маланак чырвоны,
Жоўты ад вогнішча вецер,
Чорны дзірван ад выжарын,
Шэрыя травы ад дыму.

Недзе — ня ў нас, а за сьветам,
Громы зямлю скаланаюць,
Рэхам шпурляюцца горы,
Птушкі вясёлыя — кулі —
Звонкія песьні сьпяваюць.

Недзе — ня ў нас, а за сьветам,
Сьмелыя гордыя людзі
Гінуць за праўду і волю...
Гэта ня страшная казка?
Слухай, зьдзіўляйся і думай.

Недзе — таксама за сьветам,
Сонца ня гасьне ніколі,
Сонца над лесам і полем.

Нават — зорніце у студню —
Сонца са студні сьмяецца.

Сьветла і цёпла жывецца,
Бо між зямлёю і небам
Хмары ня кожны заўважыць,
Бо асьвятляюць абшары
Штучна сьляпучыя промні.

Недзе — ня ў нас, не турбуйся,
Дзень не ад дыму счарнелы,
Сьвет не ад вогнішча жоўты,
Зьзяе-мігціць над зямлёю
Колер адзіны — падману.

Не зварухнецца прастора.
Ціха — аж вушы займае,
Быццам адно засталіся
Здрадцы, віжы і забойцы,
Зладзіўшы ўсе свае справы.

Слухай, зьдзіўляйся і думай.
Гэта ж ня ў нас, а за сьветам
Моўчкі сядзяць у балоце
Злыя стамлёныя людзі...
Гэта — ня вечная казка?..





* * *

Я — люстэрка стваральнае,
і маё існаваньне бясспрэчна
абапіраецца на гэтыя рэчы сутна:
пацук,
рэчка,
інтэлект,
сьмерць,
адсутнасьць натоўпу;
цэльнаадзінае, зьмяшанае з часьцінамі,
вакуум, створаны самім сабою,
замкнёны журбою й самотным позіркам,
вакуум, што спрабуе ўздыхнуць разам з возерам.

Я — люстэрка стваральнае:
вобраз вялікі мудрасьці й пакуты,
ахінуты дымам
тым, які адхінае сьцяжыну
спаміж парай ды полымем,
каб сказаць табе: веру май,
будзь вольны, кахай.

*Індаміра Рэстана Дыяз*

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

Валерыя Кустава

* * *

Асьцярожна! Прыпыніце крок!
Наступілі ботам на Айчыну...
Па магутным целе цмок
Лёстка прапаўзае у багніну.

Абціраю ручніком сьвятым,
Даматканым, родным, мяккім, чыстым
Бруд і сьлёзы з абразоў тваіх,
Абмываю пенай хваляў-крыстаў.

Літургію служаць колькі год,
Лічаць зачарсьцьвелай і загнанай.
Ты ж — народжаны душой аплот,
Часам створаны і неспазнаны.

Рэжасься і колесься між веж,
Між званіц, муроў, хацін і гмахаў...
Не знайсьці нам Бацькаўшчыны лепш,
Лепш забытай, занядбанай ў жахах.

Лепш закрэсьленай пазабыцьцём.
Я малю: вярніся да народу,
Для якога станеш адкрыцьцём,
Бо ня ведае бацькоўскага ён роду.

Асьцярожна! Прыпыніце крок!
Наступілі ботам на Айчыну...





Арцём Лява

* * *

Нас многа розных — Беларусь адна.
Дзеля Радзімы будзем разам.
Шмат слоў пра еднасьць сказана здаўна,
Яшчэ больш справай зроблена абразы.
А трэба толькі словы прыгадаць,
Калі пачуцьці засьцяць розум:
«Нас многа розных — Беларусь адна.
Дзеля Радзімы будзем разам!»

*Эдзік Мазько*

* * *

У катоўні маёй пазгнівалі ўсе сьцены
І разьбегліся вязьні ў чатыры бакі,
Толькі кат — сумны комік — забыты на сцэне,
У крывавым адзеньні стаіць ля ракі.
Сьмешна ўсё:
Столькі болю, пакуты і енку
Зьнікла ў марыве мокрай, дажджлівай зімы
І сплыло ціхім вечарам ў сумную Лету,
Пакідаючы патлы іржавай травы.





*Сяргей Грахоўскі*

* * *

Чытаю замову за родную мову,
За волю маёй беларускай зямлі.
Мы зьведалі зьдзекі, зьнявагі і змовы,
А вечную мову сваю зьбераглі.

Яна — і сумленьне, яна і апора,
Яна, як паходня, у дужых руках,
Як матчына слова, каб родная мова,
Каб воля і шчасьце сьвяцілі ў вяках.

Хто з матчынай мовы і з маці сьмяецца,
Той зьбіўся з дарогі і ў багне загруз.
Калі ж хоць адзін беларус застанецца,
Шчасьліваю будзе мая Беларусь!

*Уладзімер Арлоў*

* * *

У спакоі тваіх вачэй,
у смаку тваіх сьлёз,
у таемнасьці тваіх слоў,
на дне твайго маўчаньня,
на ўзьмежках спатканьняў і ростаняў,
у плыні рэк і аўтастрадаў,
на вуліцы Ніжнепакроўскай у Полацку
і на бэрлінскай Unter den Linden,
на старонках старых фаліянтаў
і пад вокладкамі новых кніг,
у палёце птушак
і ў сьпевах марцовых катоў,
у вершах і нэкралёгах,
у водары тваёй парфумы
і ў глыбінях твайго лона —
паўсюль сачу знакі таго,
што павінна зьдзейсьніцца
ў гэтым стагодзьдзі,
паўсюль —
дзень пры дні —
сачу знакі
нашай Свабоды.





*Алег Нікулін*

* * *

Сказаў тыран, што Беларусь малая,
Як клетка для разбэшчаных зьвяроў!
Яшчэ сказаў, што беларусы — зграя,
Якой хапае пяць ілжывых слоў,
Каб атруціць свой слых паганскай мовай,
А потым забіваць братоў і тых,
Хто робіць сваю нацыю здаровай,
Хто мае крыўду на тыранаў злых.

Не, Беларусь — вялікая дзяржава!
І крочыць трэба па яе палях
Так, каб разносілася слава,
Так, каб чутно было ва ўсіх краях
І нават па-за межамі плянэты...
Жыве яна і будзе жыць далей,
Хоць топчуць яе волю прайдзісьветы,
Хоць душыць яе праўду ліхадзей!

Вэлта Сьнікерэ

* * *

Зьмяіныя агністыя вочы,
Язык праўды калюча-прарочы.

Зьзяй маімі вачыма,
Свабода;
Шлях да праўды, гартуй віры,
Сьмяціся ротам маім немаўчымым;
Свабода,
Няпраўду буры;
Сьмяціся маімі вачыма,
Свабода.
Жыцьцё запалі,
Як на алтары
Сьвечку для стода,
Гавары маім языком,
Гавары,
Свабода.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





Сьвятлана Багданкевіч

* * *

Не псуецца ніколі гадзіньнік спрадвечнага часу,
Не стамляецца ў вечнае працы спаўненьня
прырода.
На жыцьцё тут хапае цярпеньня
й пакоры запасу,
Толькі ты тут чужая, о любая сэрцу Свабода!

Калі дзееш, то плён твой найпершы — пагібель
ці страты.
Богабоязны сьвет наш праяваў тваіх
не прымае —
Улюбёнцаў тваіх ён кідае ў вязьніцы за краты,
Ім намыльвае петлі ды кулі для іх адлівае.

У аблічы тваім — нетутэйшага сьвету зіхценьне,
Бы вульканаў агні, бы дыханьне
вятроў ураганных.
Атачаюць цябе бунтароў несьмяротныя цені,
На твае алтары ахвяруюцца жыцьці абраных.

Але тут без Свабоды ня мае ніхто і Айчыны.
Не ад гэтага сьвету, ты ўсякае людзкасьці
чыньнік.
Каб ня ты, о Свабода, ня меў бы Ўсявышні
прычыны
Гэты сьвет выбудоўваць і вечны заводзіць
гадзіньнік!

Васіль Дзівашэвіч

* * *

Пачнеш ты хіба ад вясны,
ад надышоўшай раптам волі,
як кучкі гною, прывазны
ўцiскае сьнег ральлю на полі.
Свавольна выплыўшы са дна,
ты п'еш з паветра-акіяну,
вясна, ты ведаеш, — вясна!
Цяпер кахаць не перастану.
Сярод Эгіпэцкай зямлі
заўсёды йдзеш на бераг Нілу,
а гэта — Нёман,
ён разьліў
свой час
і набірае сілу.
Паўзеш ты ў краму, мчысься ў лес,
паўсюль захоплены паводкай,
кахаеш кожны позірк без —
бесьперапынна і салодка.





Вольга Драздова

* * *

Вечаровым цяжарам зморы,
Ліпкім брудам мікрараёнаў,
Я малюю зімовы горад
І халодны натоўп дублёнак.

Забываюся на прароцтвы,
І цяпер, праз шкляныя краты,
Пазіраю ў ясныя вочы
Гарадзкіх сьвядомых вар'ятаў.

Пазіраю, ціха шалею,
І шкадую пра сёньня-учора,
І гадую пакуль надзею,
Што нязьменна душыць дакорам.

Спадзяваньне — рэшткі сусьветаў
Пры шуканьні сваёй выгоды,
У вар'яцтве — безьліч сакрэтаў,
У вар'яцтве — мноства прыгодаў.
У вар'яцтве — заўжды куміры,
А куміры — заўжды вар'яты.
Толькі хто цяпер вінаваты...
Спадзяваньне — халодны вырай.

Спадзяваньне — мая атрута,
Саладжавая бездань млосьці:
Я прыму сакрамант пакуты,
Каб сябе упрыгожыць злосьцю.

А пасьля, забіўшы сумленьне,
І адкінуўшы ўласны страх,
Я дазволю пальцам згубіцца
У зусім чужых валасах.

Выбачай, мне весела й дрэнна,
Бо магу сабе дазваляць
Лашчыць здань, якую ня буду
Ні цяпер, ні пасьля кахаць.







* * *

Братка!
Ня знойдзеш багацьця
ў сьметніках, фата прамовах.
Лютая ўсходняя свацьця
хоча мець скарб твой дармова.
Братка!
Ня вырастуць дзеткі шляхетнымі
з слова чужынскага ў краі прыгнечаным.
І не пацешаць нашчадкамі крэўнымі,
бойкай суседзкай іх лёс пакалечаны.
Белагаловай ня ўбачыш дзяўчынкі
ў гаі, зь нявіннай валошкай,
бо яна просіць па сьвеце скарынкі
у закарэлых галёшах.
Братка!
Узьніміся з гародчыка,
ты не сьляпы яшчэ, братка!
Выйдзі за плот з катуха і пакойчыка,
горбіцца ў сьметніку матка.
Досыць!
Жабрацтва ня мае выгодаў.
Ты зьдзяцінеў або цёмны?
Хто заўважае адметнасьць свабоды,
мусібыць зь іншымі роўны!

*Валеры Руселік*

* * *

Чырвань восеньская зьзяе,
то — лістота,
да змаганьня заклікае
нас галота,
хтось у цемры варухнуўся,
сьвецяць вочы,
то мядзьведзь ужо прачнуўся
сярод ночы,
зоркі ў небе гаспадараць
не бясконца,
хутка, хутка ўжо зайграюць
промні сонца.





*Аля Слобан*

* * *

Праляціць херувім,
а мне скажуць:
абкурка...
Ну якое фігні
ці якога прыдурка
вам тут так не стае,
што ўстаўляеце трасцу
у манстрант на стале,
дзе гатуюць прычасьце?..

*Шыр-Алі*

* * *

Я тут пару шкарпэтак
ды колькі насовак
у машыну пральную ўкідваю,
а ты там ватную коўдру
ў халоднай вадзе арыка палошчаш —
даруй мне, Радзіма.

Я тут каву зь вяршкамі
штораніцы сёрбаю,
а ты там кіпень робіш з грунтовай вады,
атручанай пэстыцыдамі ды гербіцыдамі, —
даруй мне, Радзіма.

Я тут рэшткамі белага хлеба
кармлю на бальконе чорных варон,
а ты там з начы стаеш у чаргу
і ў бойцы бохан хлеба сабе здабываеш —
даруй мне, Радзіма.

Я тут розныя кветкі на падваконьнях
паліваю раз-пораз,
а ты росіш потам зямлю й сьлязьмі — асфальт,
што ня ўсмоктвае вільгаці й розьніцы не адчувае
паміж сікамі ды сьлязьмі —
даруй мне, Радзіма.

Я тут...
Ты там...

І табе, вядома ж, баліць душа.

А мне баліць крыху ніжэй сярэдзіны,
дзе нядаўна мяне ты выцяла ботам.

*Пераклад Лявона Барычэўскага*





*Янка Смалянчук*

* * *

Аднойчы я-такі знайду адрэсу
той пракаветнае мясьціны,
дзе ёсьць таемны склеп,
а ў ім за аднабокімі дзьвярыма
бягуць уніз тры сходкі,
зь іх адна
вядзе ў жаданы схоў.
Там на доле цьмее
сьцененая ад старэчы бочка,
на струхлай клёпцы надпіс ледзь чытэльны:
«FREE».

І брамнік Пётра кварту поўную
нацэдзіць з бочкі той.

*Алена Ігнацюк*

* * *

Дэлякруа пісаў партрэт:
яна была ўсяго... Свабода.
Каўпак фрыгійскі — макаў квет.
Мо з модай колішняй нязгода?

Яна была ўсяго... Свабода.
І што хацела — ўсё магла:
дайсьці да царскага ківота,
стаць калыханкаю арла.

Яна была ўсяго... Свабода
у інтэр'еры барыкад...
Дачка французскага народа...
Ды толькі мае мой пагляд.

І я, натхнёная Свабодай,
трымаю неба сіні сьцяг.
Не пагаджаецца зь нягодай
мой бел-чырвона-белы фрак.

Дэлякруа пісаў жанчыну,
што ведала, куды вядзе
і свой народ, сваю Айчыну...

Яна ўжо ў Край наш шпарка йдзе!





*Міхал Стэльмак*

* * *

Прадпрымальніка скруцілі
На гандлёвым пляцы:
«Здай тавар,
Аўтамабілі —
Канфіскацыя».
Трактар фэрмэра спынілі
У часе летняй працы:
«Сена й збожжа
Возьмем сілай —
Канфіскацыя».
Суд страйкоўцу вынес вырак:
«За ўдзел у акцыі
Абдзярэм цябе да дзірак —
Канфіскацыя».
Марш Свабоды.
Бард з гітарай.
Бурныя авацыі.
Пратэстуе шмат ахвяраў
Супраць канфіскацыі.

*Вольга Коваль*

* * *

Я мару пра водар вольнага краю,
Бо нездарма пралілася тут кроў.
І будзе, я веру, веліч былая
На нашай зямлі, прыйдзе шчасьце ізноў.

Я ведаю, нельга мне адшукаць
Больш любай, цудоўнай, дзівоснай краіны,
Дзе можна буслоў каля хат напаткаць,
Дзе могілкі продкаў — мае успаміны.

Дзе будзе калісьці свабодны народ,
Свабодныя думкі, шчасьлівыя людзі.
Ды стане тут Захад, а не Усход,
Я ведаю, некалі гэта тут будзе.





*Мікола Трафімчук*

* * *

Галеча — гора горшае, чым страх.
Ня страху, людзі, бойцеся — галечы!..
А страх няхай жыве ў правадырах,
Уладу хто ўзваліў сабе на плечы!

Такіх «правадыроў» гаротны лёс...
Тады ж каго баіцеся, нябогі?
Галеча працінае вас да сьлёз,
Ня бачыце перад сабой дарогі...

Усё на раздарожжы!.. Правадыр
Ужо і сам не разьбярэ дарогі...
Віруе час, і праглынае вір
І страхі ўсе, і ўсе вашы трывогі.

Хоць позна... Але Бог дае ў пару
І па грахах празрэньне, прасьвятленьне.
Паверылі сьляпцы павадыру —
І стогнуць-енчаць ў багне па калені...

І ўладзе ўжо няўлежна на плячах,
Што так дрыжаць... Ды й што ёй тыя плечы!
Галеча — гора горшае, чым страх.
У багну страх! Час брацца за галечу!

*Шукран Курдакуль*

* * *

Наш карабель зайшоў
у тэрытарыяльныя воды свабоды
насупор радару ды зброі,
лецімо на ветры нашае мроі.
Цяпер мы — тыя, што ў нашых люстэрках.
Мы — дзеці, гатовыя гуляць,
не зважаючы ні на які супын,
нам дваццаць... і дваццаць адзін.

Вочы нашыя — жаніхі.
Мы паэты. Вобразамі
ў нас мяхі поўняцца.
Мы — старыя, ды спадзеў на прышласьць маем
і думаем, каб дасягнуць жыцьця,
пазіраючы ў вочы пані Сьмерці,
на тое насупроць радару ды зброі
наш карабель і зайшоў
у тэрытарыяльныя воды свабоды,
а не патайна.
Вітаема людства.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





*Вольга Матусевіч*

* * *

Маё сьвітаньне разразаюць
Лязом усходняга нажа.
Ахвяры кроў на небакраі,
Застылы ды халодны жах
Блакіту ранішняга неба,
І енк нямы,
І крык: «Ня трэба
Зімовай раніцы ў крыжах!»

*Таццяна Козік*

* * *

Я — гэта думкі маіх сяброў.
Я — гэта позіркі маіх ворагаў.
Я — гэта здані маіх крэўных,
іх развагі,
іх вочы,
іх прысутнасьць.
Дзень за днём я жыву разам зь імі,
дзень за днём я напаўняюся іх досьведам,
дзень за днём я губляю свабоду.

Калі ты хочаш, каб я была побач,
прачніся раніцай
у садзе сярод дрэў
з залаціста-ружовымі яблыкамі,
сярод зялёнай прасторы і бязьмежнага блакіту,
прачніся нявольнікам
у нашым таемным садзе,
каб адчуць на сваіх крылах
залатую цеплыню.





*Алесь Бакач*

* * *

На сорам згубіўшы сорам,
на дзіва сьляпы да дзіва,
адным, што жывы, на гора
шчасьлівы,
зьнямоглы нявольнік сьвету
і згубных ягоных чараў,
пустых чалавечых мэтаў
ахвяра.
Аднойчы захочаш бегчы
ў лясы ад людзей, у поле,
дзе дух акрыяе вершам
і воляй.
Калі твой агонь ускрэсьне,
адзінае мецьмеш выйсьце —
згубіцца ў таемным лесе
і болей зь яго ня выйсьці
відушчым сьвятым паэтам.
Што сон, што жыцьцё — прыгода,
бо толькі адна ў іх мэта —
Свабода.

* * *

Перакуліць усё дагары нагамі — ня цяжка!
Рассыпаць павуціньне плётак, нагавораў — ядам,
А пасьля цягнуць, як павук, за нітачку — лёгка.
Прыдумаць усё, як кінасцэнар, — можна.
Мы ўсе акторы, пешкі, мятлікі — міжволі.
Ня хочацца, не падазраеш? — выбух!
Сустракаюцца каханьне і нянавісьць у келіху — бывае.
Аднак веру разьбіваць і катаваць надзею — нельга.
У сетцы з будзённых і прыгожых слоў-мятлышак
Павук сядзіць, сьмяецца зь лёгкай і прывіднай — свабоды.
Пляце і вычвараецца над пачуцьцямі — паэт.
Быць проста людзьмі? — немагчыма.
Паўсюль маскі, і гульня цікуе за вамі.
Вам выкараскацца з тэатру жыцьця — аднаму.
Цяпер і плесьці, і сьмяяцца, і гуляць буду — я.







* * *

З аднаго боку — хлеб,
з другога — неба.
Між імі — стомленае цела,
што прагне сытасьці й супакою.
А голад за акном цікуе воўкам,
і від клыкоў параліжуе волю…
Абцяжаная бяздум’ем галава
просіць падушкі,
каб сьніць аб штодзённым хлебе.
І толькі душа
імпульсам устрывожанага сэрца
імкне ў неба, дзе прастор і сьветліня.
Там далягляд надае імпэту,
разьняволенасьць спараджае адвагу,
а нябесная сінь запладняе думку,
каб душа ўсмактала ісьціну:
бязь неба ня будзе хлеба.

*Іван Лагвіновіч*

* * *

Трубадуры, дзьміце ў трубы!
Марш свабоды выдзьмувайце!
Цішыня пакоры — згуба!
Памятайце: вы — на варце!
Абуджайце край зьнямелы
Ад зямлі да паднябесься,
Хай пад бел-чырвона-белым
Акрыяе песьня
Сэрцу мілая, як бусел,
Як валошка ў сьпелым жыце!
Трубадуры Беларусі,
Дух змагарны пакажыце!





*Мікола Адам*

* * *

Калі залежыць ад чужынцаў:
Кахаць табе ці не кахаць,
Калі ты думаеш пра прынцаў
З грашыма, каб прыемней спаць,
Калі табе сяброўкі раяць,
Нібы на споведзі сьвятар,
І іх парады воўчай зграяй
Твой шкамутаюць Божы дар,
І вучаць, як сябе паводзіць
З каханым чалавекам, што
Табе ніяк не падыходзіць,
Ня з золата бо паліто,
І так далей і так бясконца,
То я б раман мог напісаць
Пра тое, што з чужым пранонсам
Жадаюць табе ўсе сказаць...
Ты слухайся ўсіх іх, дзяўчына,
Што кажуць, і рабі як сьлед,
І шкадаваць мяне, магчыма,
Ня будзеш. Бо хто я? — паэт,
Адзін з паўсотні вершаплётаў,
Якіх хапае на рагу
На кожным і пад кожным плотам,
Якія сваю думку гнуць.
Вядома, што з паэта возьмеш? —
Ён алькаголік, наркаман,
Ўзьлятае ды заўсёды — вобзем
Ці на чарговыя сто грам.
Ты слухай, слухай іх, дзяўчына.
Ім да паэтаў, як да зор.
Я памыляюся, магчыма,
Бо я ня зь лепшых, не узор.

Пагэтаму пі сваю каву
Ці з прынцам тым на грошах сьпі,
Бо для паэтаў — не забава
Прысутнасьць чыстае душы.



# травень

*Вера Карфіёці*

* * *

Пачаўшыся з болю,
здаецца, ня скончыцца ўжо ніколі
час уцекачоў.
Лягеры ў лясох, у гарадох загоны,
новыя спалучэньні словаў —
«перамешчаныя асобы»,
«замкнёная група»,
«бязь вестак прапалыя».
Атмасфэра безьбярэжнага гора,
мора зьнявер'я.
Сэрцы змаркочаныя, прысталыя,
няздатныя болей імкнуцца
да радасьці, затое
мы палюбілі раптам цішыню шэпту,
мы патанаем у хмурым настроі,
у ценях, што адступаюць з ахвотай
ад кветак зіхоткіх, і праз усё,
што акаляе нас і яўна, і ўпотай,
мы зрабіліся адзінай чалавечай істотай
не нашмат ляпейшай ад кучы
часьцінаў разлучаных.
Але трываем, і выжывем.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





*Ізяслаў Катляроў*

* * *

Ёсьць аднак у табе гэта сіла,
ад якое і ў думках бы цьма...
Ўвысь ты глянуў — уміг затужыла,
ўміг пад позіркам згасла яна.

І паветра жальліва трапеча
там, дзе кружыць апошні ўжо ліст,
дзе гальлё падабенствамі трэшчын
перакрэсьліла бляклы блакіт.

Дзе туман распаўзаецца вяла
і сабой запаўняе равок,
дзе сьцяжына прамокла, азябла,
так, што ўжо запавольваеш крок.

Ёсьць жа нейкая вышняя воля,
нават думаць ня сьмей аб якой,
ў тым, што неба, і рэчка, і поле —
ўвасабленьне свабоды тваёй.

* * *

...Радзіма мая, Беларусь,
агеньчык твой дагарае...
журбе ні канца, ні краю...
маліцца сябе прымусь...

...Айчына зямная мая,
хто прысна цябе памінае?..
як рэха забранага раю,
палынам услана Зямля...

душа мая — выклік сьляпы...
адзіны нятленны набытак...
нібы летуценьняў пабітых,
рыфмараў рассыпала пыл...

...прад Госпадам голы стаю...
дух цёмны грахоў маіх чашу
напоўніў... і я не прыўкрашу
дарогу зямную сваю...

за іншых, за сьвет — не спытае
прад Страшным Прысудам Гасподзь...
мо' скажа мне: «...сын Мой, прыходзь...
Я й зь пекла цябе чакаю...»







* * *

У цябе, Беларусь, векапомнае сьвята,
Традыцыйна якое ўшаноўваць прынята.
На жаль, восем дзясяткаў гадоў існаваньня
Аказаліся часам твайго выжываньня.
Дык жа хто, як ня Ты,
Наймілейшы наш Божа,
Адрадзіць Беларусь беларусам паможа.
Перш за ўсё за грахі Ты прымі пакаяньне,
Праяві міласэрнасьць да нас акаянных,
За дзівосную гэткую нашу цярплівасьць
Хоць нарэшце да нас праяві справядлівасьць.
Зь летаргічнага стану народ абудзі
Ды дарогай шчасьлівай яго павядзі,
У галовы ды душы людзей зазірні,
Гістарычную памяць народу вярні.
Умацуй у народзе і волю, і веру,
Прывядзі ўсё ў парадак, у норму, у меру,
Зь беларускіх плячэй атрасі ліхадзеяў
Ды двурушных уяўных усіх дабрадзеяў.
Уратуй незалежнасьць маёй Беларусі
Ды даруй ёй свабоду! За гэта малюся.

Яўген Гучок

* * *

Свабоднай быць краіна можа,
Калі там крые дах сам Божа;
Ня чымсьці крые, небам крые,
А падаюць цьвікі — свае памкненьні —
тыя,

Хто Творцу ўвесь аддаў сябе
У нешумлівай барацьбе.





Даніца Станякова-Мядзьвецка

* * *

Месца, дзе зьнікае мілосьць
і нараджаецца мосьць і гонар,
дзе баісься спытаць, чаму
ды ведаеш, што не змагчы табе перамагчы.

Хоць і ня маеш грахоў, там адчуваеш віну.
І табе не застаецца нічога іначай, як паказаць
пашпарт, каб табе дазволілі ўбачыць
краіну, што тваю хаціну туліла.

Потым з дасьвецьцем прачынаецца сподзеў
зноў сустрэць прыязныя твары сяброў,
дзе б ні было тое ў Сьвятое Зямлі,
і даткнуцца да ўсіх мясьцінаў ад успамінаў
цёплых,

дзе ты нарадзіўся, рос дагледжаны шанаю
ці з каханаю пад дажджом гуляў.
Насамрэч ты — вязень і ўчора і сёньня
прадоньня глыбокага недаверу.

Калі ласка, ступі бліжэй да краю ягонага
і напоўні прадоньне золатам шчырым мілосьці
зь бяссоннаю насалодаю.
Павер, гэта адзіны скарб, які сьвятлом валодае,
яму ў змогу растаіць лёд у трывогу закуты
кантрольна-прапускнога пункту.

Пераклад Рыгора Барадуліна

* * *

Адчынена брама гасьцiннай карчмы,
Грае катрынка ў руках маладзiцы...
Давайце, панове, на вобраз малiцца
Радзiмы, якую пакiнулi мы.

Шляхцiц багаты, бядак голы-босы,
Цi нам на чужыне гуляць навiна?!
За вочы каханых, дзявочыя косы
Давайце па карцу асушым вiна.

Сягоньня балюем, а заўтра настане, —
Цi сонца пагасьне, цi боль апячэ...
За волю, панове! За волю, хто ў стане!
Па кубку шампанi налiце яшчэ!

Не, мы не разьбiты, мы шаблi, пiстолi
Яшчэ не паклалi ў апошнiм баi.
Заўжды нагатове стаяць нашы конi,
Хапае задору ў гарачай крывi!

Хай вораг сьвяткуе сваю перамогу...
Мы раны загоiм i рынемся ў бой,
Мы ведаем добра да волi дарогу,
Унукаў, сыноў павядзем за сабой.

Ад нашай шалёнай крывiцкай Пагонi
Ня збавiцца хеўры чужынцаў-ваяк...
Памянем палеглых, запалiм паходнi,
Чакае няблiзкi, ды зьведаны шлях.







* * *

Заўсёды дбайна выглядаю
Бярно на зруб,
Каб у цябе, мой родны краю,
Сьпеў рваўся з губ.

Тады пачую цераз глiну,
Як на аблонь
Прыскочыць, выскубе травiну
Твой белы конь.

Не жарабя, а з той Пагонi,
Што празь вякi
На цэлы сьвет шамкамi звонiць
Напрасьцякi.

Напоўнiцу хай сакаўную
Скубе траву,
А заiржэ, усе пачуюць:
Я зноў жыву.

*Ала Петрушкевіч*

* * *

Мы яшчэ ўсё ў дарозе,
не закончаны шлях па пустэльні.
Дык вяртаймася
ў белыя вёсны,
дык вяртаймася
ў белыя зімы.
Бо ў пясках не ўзыходзіць надзея,
нат крыжы тут ня здольны ўстаяць.

Куст язьміну —
нявеста увесну,
дрэвы, склеп і калодзеж,
пацямнелыя сходкі-ўваходкі,
што вядуць толькі ў памяць.

Мы тут ёсьць.
І на тое ёсьць нашая воля:
ці ісьці
у бабуліну хату,
дзе да сьвята пабелена печ
і памыты нажоўта услонік,
ці да хмурных крыжоў...

Крыж на волю сваю
не пастаўлю ніколі.





*Янка Лайкоў*

* * *

Ня плач, паэт,
калі не жывеш
ні ў царкве, ні ў касьцёле, ні ў пагадзе,
глыбокім сумам народжаны верш
на сум высокі асуджаны загадзя.
Яшчэ ты бавісься ў снах,
а страх
навечна страціць душу адзіную
цябе на вогненнакрылых вятрах
з вышынь,
дзе ў захмарных лунаў вірах,
вяртае долу пуцінамі дзіўнымі.
І ты, спавіты зямным сьвятлом,
натхнёна словы ў радках высьпельваеш,
сьвітанак разгараецца за акном,
распраўляе крылы,
ясьнее верш.

*Уладзімер Пецюкевіч*

* * *

На беразе мора мы пішам з табою,
Каб сьвет падзівіўся — «Жыве Беларусь!»
А хвалі шалёна змываюць сьвятое...
На беразе мора мы пішам з табою,
Душой вышываем пясчаны абрус,
А хвалі змываюць імя дарагое...
На беразе мора мы пішам з табою,
Каб сьвет падзівіўся — «Жыве Беларусь!»





*Уладзімер Мароз*

* * *

Незаўважна ўглядаюцца ў нас
Запытальнасьцю вуснаў прымоўклых
З фотаздымкаў у профіль, анфас
На анкетах, ад часу пажоўклых.

Нехта проста — няголены зэк,
А другі — толькі выйшаў з цырульні.
Не на радасьць сябрына, на зьдзек,
Дзе сьмяротныя ладзяцца гульні.

Не змаглі ўратавацца ад куль,
Не чакалі такога зыходу.
Хто мы, што мы, куды і адкуль? —
Распавесьці хацелі народу.

Я гляджу — зразумець не магу:
Сам ці змог бы пайсьці іхным шляхам:
Поўна выпіць адчай і тугу,
Безвыходнасьць нароўні са страхам.

Ім бы жыць ды зрабіць яшчэ шмат,
У дзяды мне трываюць па ўзросьце.
Ці нарэшце пазбавімся звад,
Бо і зараз усё так ня проста.

Без адказу пытаньне стаіць:
Быць — ня быць ці Айчыне свабоднай?
А народ, як заўсёды, маўчыць
На зямлі сваёй нібы няроднай.

Лёс у кожнага свой, як і час,
Ды адзіна яднае ратая
Беларусь.

Невядома, што нас
Там наперадзе шляху чакае.

Мо таксама скананьне ў баі,
Запавет дарабіць як ня страцім,
Ці мы ўсё ж на бяздоньня краі
Устаім, як за волю заплацім.







* * *

калі б свабоднай была я магла б зарабіць
удостань працай любой застаючыся сабой
і дзеючы тое ў што веру

калі б свабоднай была
дзеці мае мелі б усё неабходнае
каб супернічаць з аднагодкамі

растала б чырвонае ў чорным стала

я страціла б тлушч і хваробы нажытыя
на дыеце беднасьці вугляводаў танных і сытных
я страціла б пятнаццаць гадоў грузу нянавісьці

не пакутавала б болей ад пагрозаў
донкіхоцкае тыраніі нэрвозаў майго каханка

вайна б перастала спаміж цёмным і сьветлым
злыдні мае расталі б у веры

я змагла б супыніць забойствы нявінных
я змагла б супыніць забойства духу майго
я змагла б уваскрэсіць майго забітага сына

неасьпярэчны доказ што мая праца
мае значэньне мог бы за сябе не змагацца

я ведала б што чакаюць мяне нецярплівасьць і парываньне
што той хто чакае заходзіцца ад хваляваньня

усе ўзнагароды нязначныя супроць міру
пазначанага задавальненьнем
голад нуда страх у дажджах бы расталі

я мовіла б толькі на мовах

Ойча Ойча я шанавала б цябе Ойча належна

прачнуўшыся ў пасьмяротнай мілосьці
да гэтага царства няшчаснага
трасянула б сваімі крыж-накрыж зьвязанымі
косьцьмі
штосілы
і парасткі б порстка пусьціла

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





*Алена Анішэўская*

* * *

У растрэсенай кузьні ледзь тлее агонь,
Ржавее кавадла, прыцiхлі мяхі,
А кузьня стаіць, хоць яна ўжо даўно
Рэлікт прамінулай эпохі.

Каваль абы-як у горн устраміў
Дэталь замаруджанай коўкі,
А вочы ўгару, у гнілыя дылі,
Гнілая і падмуроўка.

Ўсё валіцца з рук —
Ні грошай табе, ні карысьці каму,
Ды што вы плату зьнялі?
Кузьню трэба ўзьнімаць зь зямлі.

А як і за справу брацца,
З кім і за што, і на мове якой заахвочваць
да працы?
Хацелі б адны, каб з захаду што,
Другія са ўсходу чакаюць арацый.

А можа давайце, браткі кавалі,
Зьбярэмся ўраз талакою,
Растрэсену кузьню ўздымем, падымем,
раздуем мяхі
Ды станем за коўку гарою.

Усенька, што ўпала ня з нашай віны, падымем,
Наш грэх, што задоўга маўчалі,
Вядома было: цівуны кавалёў найадданых
зьнішчалі.

Ня тая пара і ня той ужо час,
Думаць па-новаму трэба —

Спакойна, разумна, у згодзе з сабой,
У кузьню ставайце на месца сваё —
Пад купал супольнага неба.







* * *

У цёмным пакоі з зачыненай форткай
Я спажываю асобнае шчасьце.
У маіх акулярах — уласная цемра,
І ўласнае сонца мне вочы засьціць.
Там, за дзьвярыма, — шлях да няволі
Агульнага кроку, агульнага сьпеву,
Тут, у пакоі, мне лёгка і проста,
Тут, у пакоі, — прыватнае неба.

* * *

Нас абрубілі на высокай ноце,
І мы цяперака знаходзімся ў цэйтноце,
Як мухі п'яныя на тлустым бэгемоце,
Ці як жарынкі на патухлым кноце.
Мы ўсё жыцьцё чакаем новых цудаў,
Жытло шыкоўнае будуем для прыблудаў,
І молімся штодня на чэрап юдаў,
Гукаючы: «Няхай жыве краіна хлудаў!»
Не дачакацца нам ніколі дабрадзея,
Калі ня ўздымемся, дык у скрусе пасівеем.
Давайце ж станем мастакамі дзеі,
Пакуль у сэрцах ёсьць нязгаслая надзея!
Гвалтаўнікі, што чыняць перашкоды,
Уласнаручна зьнішчаць свае стоды,
Пасьля патрапяць пад абцасы моды,
А мы адчуем корсткі смак свабоды.







* * *

Пераможца! Ты ўсіх перамог:
і мяне, і сябе адначасна.
Але тут, на крыжы ўсіх дарог, —
ты шчасьлівы? Ці, можа, няшчасны?

Пераможца, хоць мне не мані!
Гэта проста уцёкі ад сьмерці.
Бачыш на даляглядзе агні?
Там чакаюць анёлы (ці чэрці).

Пераможца, ты здолееў забыць,
як спакойна на ўскрайку дарогі,
попел, мары ды сны могуць быць
даражэй за твае перамогі.

Пераможца... застаўся ў журбе
невычэрпнай... А сьмерць — не адвесьці...
Збудаваў ты з мармуру сабе
пастамэнт, — і ня здолееў узьлезьці.

* * *

Разьнёсься гоман аб Ядвабным,
Аб генацыдзе, аб вайне,
Аб помсьце вырадкаў няшчадных
І аб забытай іх віне.

І прабачэньня просяць босы
Нашчадкі спаленых ахвяр,
Злуюцца сьведкі, быццам восы,
Баяцца паказаць свой твар.

Але ў ўспамінах зь нетраў часу
Не заікнецца ні адзін
Аб катах Рамуальда Райса,
Забойцах дзетак і жанчын.

І не прыпомняць словам грэшным
Яго крывавых важакоў,
Падпальшчыкаў Чыжоў, Залешан,
Збруча, і Лазьніск, і Шпакоў.

Забойцы жыхароў тых —
Сялян, дзяўчын і юнакоў,
І не ўздыхнуць над страшным лёсам
Забітых ПАСам* вазакоў.

Забілі іх у зьверскі спосаб,
Бо праваслаўнымі былі,
Каб жыхароў суседніх вёсак
Прагнаць прэч з роднай іх зямлі.

Каб страхам выгнаць іх за межы,
Аддаць супольнікам палі,
Дамы і пуні, і манэжы,
Сады і збожжа на ральлі.



в е р ш  н а  с в а б о д у

Цяпер для банды ўзносяць хвалу
І пачалі ёй гімны пець,
І паднялі на п’едэсталы
Калісь асуджаных на сьмерць.

І на пліце магілы скромнай,
Дзе сьпяць астаткі фурманоў,
Не дазваляюць для патомных
Аб ПАСе ўспомніць пару слоў.

Ня хочуць, каб іх эпалеты
Ад слова праўды на пліце
Зардзелі кроўю ў вачах сьвету,
Як асьцярога для гасьцей.

Яшчэ саратнікі бандытаў
Знаходзяцца паміж жывых,
Патынаю гадоў пакрыты —
Ніхто ўжо не асудзіць іх.

* ПАС — польскія атрады самапомачы.

* * *

Што можа вам апавесьці малец з Усходняй
Эўропы?
Што мог бы ён прыгадаць з гістарычных сваіх
успамінаў?
Пра дзіця ў апранасе, удвая за яго старэйшай?
Пра спартыўныя нагавіцы, пакрытыя шэрымі
галкамі
ад ручнога мыцьця, пра боты, скура якіх
лупіцца, нібы кара з хваравітай бярозы?
Пра тое, які гэта жах — засынаць у інтэрнаце,
і яшчэ страшней аднаму прачынацца
узімку ў неабаграваным пакоі?
Пра сваю ўлюбёную цацку?
Так — пра яе. Гэта я маю, гэта нішто сабе
захавалася:
плюшавы восьлік з крывымі вушамі.
Ці ён не палохае вас, нестандартная цацка, рудыя
і тоўстыя губы, нібы ў цяляці з фэрмы?
Той зімы ў нас у пакоях было так халодна,
так зябка,
што на пачатку лютага мае рукі ад цыпак
счырванелі, як вараны рак. Не ратавалі
ніякія лекі.
Заставалася толькі плакаць, грэць ваду ў белым
рондлі
і мачыць у ёй рукі, а потым прасіць, каб ён
цалаваў іх сваімі губамі, мяккімі, тоўстымі.
І ён мне іх вылечыў, выпесьціў, выцалаваў тую
чырвань.
Цяпер мае рукі нагадваюць рукі
актора, музыкі ці рукі лірычнага «я».





Гэта чыстая праўда, усё так напраўду й было
і вам ужо можна заплакаць, пашкадаваўшы
мяне.
Бо я не вярнуся ніколі да вашых няўцямных
паэзій.

*Пераклад Андрэя Хадановіча*

*Ніна Ярмалінская*

* * *

Мой сябра, я сказаць бяруся —
Адкуль пачатак Беларусі?
Зь сівога замка Радзівілаў,
З гары Машэкавай магілы,
З ваеннай доўгае дарогі
І з абэліска перамогі,
З набата гучнага Хатыні
І зь берагоў дняпроўскай плыні.
Адкуль пачатак Беларусі?
Ад пушчы, дзе зубры і гусі.
На Белую ўздымуся вежу
І там убачу яе межы,
І храраствам я захаплюся
Маёй радзімы — Беларусі.





*Ядвіся Кваткоўская*

* * *

Толькі чыстай вадзіцы
Набяру я у флягу
Ды вазьму і паеду
Ў трынідад і табага.

І закіну на дачы
Ў куст шыпшыны рыдлёўку,
І «Ня хутка чакайце!»
Напішу я алоўкам.

Без усіх абавязкаў,
Без падумак бянтэжных
Стану вольнаю птушкай
Я на тым узьбярэжжы.

Ціха хвалі плюскочуць,
Ківі ўсюды навалам,
Я ў шыкоўным фатэлі,
Побач хтосьці з апахалам...

Засынаю у марах,
Ды чамусьці мне сьніцца:
На тутэйшых імшарах
Я зьбіраю дурніцы.

*Тамаш Сухавей*

* * *

Кажуць,
што ў Краі ў нас
Госпад ступаў,
бачылі нават,
як сьлед ступакоў адмысловых
нібы Храм сьветлы стаў,
у які ні ўваходу,
ні выхаду
людзі ня йmуць без замовы.
Храм той ведаю дзе,
ды забыўся я
ці змыліўся
словы замовы.
Гэй, валхвец!
Дай нам код ад засоваў!
Разнасьцеж нам наш Храм!
І Край адамкні для спатолі!
Мы ж табе —
згодна Госпада словаў —
ахвяруемся ў справе свабоды!





*Галіна Булыка*

* * *

Шлях аседлай ракі
пазначае лаза,
Адгукаецца мора
на покліч замовы.
Мы — вада:
Наша семя, і кроў, і сьляза
І малочная сьпеласьць
прымроенай мовы.

Сустракаюцца думкі
ў дрымоцьці дрыгвы.
Суплятаюцца мары
карэньнем падводным.
Уздымаюцца сокі падвялай травы
У вільготнае неба
дарогай нязводнай.

Нас вяртаюць аблокі і плыні туды,
Дзе на хвалі дрыжыць
каламуць залатая.
Мы — вада, а зямля прарастае з вады...
Скрозь сукавецьці,
і крылы,
і кроў
Прарастае.

* * *

Разам з народам сваім застануся,
гору дамо мы рады.
Дайце дарогу маёй Беларусі
да Праўды.

Ні перад кім мой народ не сагнуўся,
зьведаў цяжар нядолі.
Дайце дарогу маёй Беларусі
да Волі!

Разам з народам не адступлюся,
тут крывічоў пакаленьне.
Дайце дарогу маёй Беларусі
да Адраджэньня!

Богу за ўсё на зямлі пакланюся
і папрашу міласэрнасьці.
Дайце дарогу маёй Беларусі
да Незалежнасьці!







* * *

Мучаць —
        кра́ты ці краты́,
Што за кратамі сядзяць?
Джаляць —
        ска́ты ці скаты́?
Токам б’юць, хлусьнёй сьмярдзяць!
Мы краты — і я, і ты.
Мы браты — і я, і ты.
Душаць —
        га́ды ці гады́?
Гвалцяць нас, рабуюць нас!
Разумеем я і ты:
Штось рабіць настаў нам час.
Кроч за мной і не дрыжы —
Да апошняе мяжы!

*Максім Іваноў*

* * *

Я чуў, што беларусы у Расеі
Вітаюць замяталінскі рэжым
І ўсе ў жыцьці галоўныя падзеі,
Як зь нейкім боствам, падзяляюць зь ім.

Я ж, рускі ў Беларусі, не прымаю
Ніводнае з праяў яго жыцьця,
Што йдуць зусім ня з продкаў маіх краю,
А з тупасьці, бязвольля й забыцьця.





*Клаіры Ангеліду*

* * *

Хтосьці скажа, вядома,
што ў нас не было ніколі дому свайго.
Мы, нібыта па інэрцыі,
апынуліся ў цэнтры сьвету
з разьбітымі сэрцамі,
з пальцамі, што намацваюць,
не шануючы мазалі, раструшчаныя крышталі,
з пальцамі, што шныпарыць рады ў вялізных
мяхах спагады,
шукаючы цёплае штосьці.
Мы сталіся голыя,
сьмягнучы па мілосьці.
Нашыя вочы гараць
у цямрэчы густой
і, зьнябыўшы стому,
шукаюць дах
нашага дому
і выглядаюць сьцяну,
якая ўсё яшчэ стаіць,
даўніну падпіраючы.
Нам не стае дрэваў,
што цягнуцца, як са зьнябытных сноў,
да ласкі
нашых дамоў.
Кунежыў калісьці і наш пагляд
свой дом,
двор, сад.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

Ларыса Рабцэвіч-Бранавіцкая

* * *

Ёсьць слова, у якім і аб'ём, і прастора,
І межаў калючых там гарантавана адсутнасьць.
Яно — трыюмф мудрасьці, талентаў — мора,
Яно — Божай ласкі, любові вышэйшая сутнасьць.

За зло, што пануе у грэшным сьвеце,
Шмат хто наракае ў бязбожжы на Бога:
Маўляў, хай абставіў бы так Ён усё на плянэце,
Каб не датыкалася ліха людзкога парога.

Свабода бывае сапраўднай свабодай,
Калі чалавеку, як Богу, яна бязьмежна.
Прыгнёт — крах асобы, грамадзтва, народу.
Дыктат спараджае ад грэху залежнасьць.

Інстынкты вiруюць у сьвеце жывёлаў,
Свабода сасьпеліць нам волю па-людзку,
Нам Белая Русь была б гуртам анёлаў,
Калі б не тапталі у ёй беларускасьць.

Пакуты — падмурак пякучых радочкаў,
Дзе здрада — юдавы цень пакаяньня шукае.
Зірніце на неба, сыны Беларусі і дочкі,
Адтуль нас бязьмежнаю воляй Гасподзь надзяляе,
Хай годна яе кожны з нас уздымае.





Іна Фешчанка

* * *

Я вяртаюся,
Я пачынаю любіць,
Надзвычайныя словы пачуць захацела...
Насьцярожыў спакой, зьнерухомела цела,
А скажы:
Сапраўды я працягваю жыць,
А скажы:
Гэта боль, ці даўно адбалела...
Так спакойна...
Ужо надакучыла плыць.
Безвыходнасьць сышла,
І душа пасталела,
А на небе вясновая зорка ўзышла.

Зорка Божай апекі над намі ўзышла.

*Віталь Клунейка*

* * *

Мая свабода ў думках вольных,
Калі пад зорным ліхтаром
З усьмешкай гледзячы на поўню,
Я ўспамінаю вечны сон,
Што ў сваіх вершах я свабодны
І там ствараю свой сусьвет
Свабодных думак і лагодных.
Свабода — гэта ёсьць паэт.





*Ала Кажэра*

* * *

Залунаў небакрай у ружовым сьвітаньні,
Абвяшчаючы небу, што скончана ноч,
За свабоду сваю у суровым змаганьні
Майце гонар і моц!
Майце гонар і моц!

Заірдзее паўнеба крывавым закатам,
Нагрувашчваньне хмар абяцае бяду,
На свабоды шляху пад пагрозаю кратаў
Майце гонар і моц!
Майце гонар і моц!

Намалюе зіма гэты сьвет бела-чорным,
Толькі дзівам здаўна чырвань сьпелых рабін,
Не спужаюць няхай вас дзікунскія жорны,
Майце гонар і моц!
Майце гонар і моц!

Расквітнеюць вясною сівыя аблогі,
І на вогнішчы спаляць зладзеяў сьцягі,
Хай ня зьверне са шляху сьвятло перамогі,
Майце гонар і моц!
Майце гонар і моц!

*Зьміцер Бартосік*

* * *

Мне б нарадзіцца шэрым віленскім катом
Такою ж шэрай восеньскай гадзінай,
Каб быць прыродным, паўнапраўным і адзіным
Тых пляцаў, вуліцаў, дамоў гаспадаром.

Майго сусьвету мне хапала бы штодня,
Каб і да сьмерці ім не надзівіцца
Ад Пагулянкі да далёкага Зьвярынца,
Дзе кожнае гарышча — нераскрыты скарб.

Мае няшчасныя двухногія сябры
Прыгожа і свабодна жыць не замінալі б.
Я б харчаваўся толькі у «Чырвоным Штралі»,
А ўлетку лена спаў на Замкавай гары.

У сакавіку б распачынаў такі канцэрт,
Што ўсе пародныя, дагледжаныя коткі
Зьбягаліся б ад Добрай Рады да Ліпоўкі,
Каб паспытаць мой не абы-які імпэт.

Мне невядомы быў бы чалавечы жах
Ад акупанцкіх крокаў патруля начнога,
Перабягаў бы ім апошнюю дарогу,
Бы цень зьнікаючы ў Антокальскіх дварах.

Свой вольны век пражыўшы, нібы лорд,
Я б змог аднойчы без стагнаньняў недарэчных
На могілках старых любімага Зарэчча
Залегчы, каб сустрэць апошні свой усход.

Мне б нарадзіцца шэрым віленскім катом.





*Сьвятлана Алесавец*

* * *

Эх, каб воля мая —
Сама доля маяк —
На зубах маіх не скавытала,
У прачулых краях,
У вясновых гаях
Слова маці нідзе не стагнала б!
А чаму?
Скажа верш мой таму,
Хто ніколі нідзе не сагнецца.
Пасадзі у турму:
«Разам сэрца вазьму,
хай ад шчасьця аб краты заб'ецца
той жаўронак жыцьця,
пачуцьця адкрыцьця,
непамежнага,
вальназемнага,
той зялёны пястун,
іскрамётны вястун,
заваражны і множны —
Свабода!»

Дзьмітро Паўлычка

* * *

На волі жыць цяжэй, як у няволі, —
За ўсё цярпі, за ўсё адказ трымай,
Глядзі, які бяз маскі родны край,
Без кайданоў, ды ў голадзе і ў голі

Рабы, што вянуць на чужой зямлі,
Слугуючы Эўропе-гаспадыні.
Ўчуй, як Тарас рыдае ў дамавіне,
Бо закапалі мову маскалі

Ў яго магілу, а хахлы хітрушча
Ўзялі штандары нашы ў ваяры
І ведаюць адно: дзяры, бяры,
Сваю дзяржаву, як фасолю, лушчы.

Ня плач, Тарас, ня зможа забыцьцё
На волі волю, згірдзяцца маголы.
Дзяржаўнае і новае жыцьцё,
Яно цяжкое, як журботы й болі

Прымаеш не ад ката — зь нематы
Няма каго ўпікаць, бо ўсе браты,
Усім стае пакутніцкае долі.

Ды ёсьць дзяржава! І дужэе плоць,
Што патрабуе, быццам гліна, духу.
Дык у яе ўдыхнем не пацяруху,
А той агонь, што даў людзям Гасподзь!

Пераклад Рыгора Барадуліна





Ігар Пракаповіч

* * *

У Эўропу адпраўляецца цягнік,
На пэроне праважаючых няма.
Там даўно растаяў ледавік,
А у нас — зіма, зіма, зіма.
А я так хацеў купіць білет
І шчасьлівы сесьці у вагон,
Ды паўсюдна шыльды:
«Места нет»,
Хоць пусты цягнік, пусты вагон.
Але можна хоць да Калымы
Браць білет і ехаць на усход.
Ды нашто мне Азія? Зімы
Мне і так хапае тут штогод.
Марыў я у сьвеце пабываць,
Ды, напэўна, выпаў іншы лёс:
Дома лёд душой адаграваць
І чакаць, калі спадзе мароз.
Цягніку махне мая рука
І вярнуся я у родны дом,
Там сусед з выявай мясьніка
Прыйдзе ў карты рэзаць перад сном.
А празь дзень яшчэ адзін сусед,
Пры вусах і зь велічнай пляшнёй,
Будзе праклінаць заходні сьвет,
Бо ён пагражае нам вайной.
Я ня стану слухаць балбатню,
Буду піць суседзкі самагон
І згадаю, як насустрач дню
У Эўропу мкне пусты вагон.

* * *

Мазалёвая,
з крываточынай,
і ня сынава,
і ня дочкына,
паўсядзённаю,
усеўладнаю,
як жыцьцё-быцьцё,
безагляднаю,
мова родная,
Богу годная,
уваскрэсьні, прашу,
Народнаю,
каб вясна мая
ачмурэлая,
як пялёстачак,
белым-белая,
засьвяцілася,
усьміхнулася,
жылкай кожнаю
адгукнулася:
добрым — шчырасьцю,
шчырым — шчодрасьцю,
шчодрым — міласьцю,
мілым — роднасьцю,
родным — дзейнасьцю,
дзейным — вернасьцю,
верным — мірам
і вечнай еднасьцю!







* * *

Ты паглядзі, кім стала ты цяпер,
Баісься нават глянуць у люстэрка,
Бо ў поглядзе тваім стаіўся сумны зьвер,
Якога не прагнаць,
А клічуць — паняверка.
Ты моліш усю ноч:
Сыдзі, шальбер!
Я сукню белую хачу дастаць з куфэрка
І стаць ранейшай.
Ды не сыходзіць зьвер,
Журботны зьвер зь мянушкай паняверка.
Ты кажаш:
Мне нязносны твой ашчэр!
Каб ты мне ў вочы не глядзеў,
Я разаб'ю люстэрка.
Разьбіла.
Ды сьмяецца сумны зьвер,
Найгоршая з хімэр,
Нязводны паняверка.

*Аляксей Каўка*

* * *

Я — салдат. Баявыя патроны
Прыхаваў. Прыбярог і касу.
Пад харугваю дзядзькі Мірона
Варту вернасьці пільна нясу.

Досыць хмарыцца небу і сонцу —
Веснавы загудзеў крыгаход,
Маладыя сябры-каліноўцы
Зноў вызвольны склікаюць паход.

Сьцяг узьвіўся зранёны, караны,
Гневам праведным сьцяты кулак —
На калені, зладзей-вурдалак!
Разгінайся, народзе забраны!

Судны дзень грыміць з высяў дазорных,
Пад'ярэмны руйнуецца друз —
На бальшак разьняволена-зорны
Пераможна ступіў беларус.

Нашчадзь крыўская цьвёрдай пароды
Крышыць рогі глумлівай брыдзе,
І дзівуюцца брацьця-народы:
Хто гасьцінцам свабоды ідзе!





*Ніна Сойка*

* * *

Крумкач чорны, крумкач страшны,
Прэч ад белай зямлі шчаснай,
Ты ня кліч зямлі задуху,
Хай ўваскрэснуць людзі Духам.

Крумкач, у вырай адлятай,
Стане сьветлым зноў мой край,
Соснаў гонкіх край, бяроз,
Край сумленных, шчырых сьлёз.

Бачыш ты, растуць дубы
У дубровах ля вады,
Птушкі гнёзды там будуюць,
На зямлі жыцьцё ратуюць.

* * *

Тураўскі валадар
нарадзіў некалі Вольгу,
а яе паланіў кіёвец.
Дзіця паланянкі Ўладзімер
спадкаемна стаў дзеяць
і Полацк спаліў,
а на попеле сына зачаў —
супраць волі ягонае маці Рагнеды.
Стуль пачатак пачаткаў.
Зь няволі.
Кажуць, што непадступныя самыя тыя,
хто вязьніцы зазнаў.
Ізяслаў гэта праўдзіў.
Стуль пачатак пачаткаў.
Зь няволі.
І з волі.
Ізяслававай воляю Полацк
вольным зноў стаў.
Ненадоўга.
Бо ўнук Ізяслава Ўсяслаў
спадкаемна зноў дзеяў,
наўгародзкі ўчыніўшы пагром.
Ці можа адпомсна —
за прадзедаў гвалт ён у горад ягоны хадзіў.
Стуль пачатак пачаткаў.
Зь няволі.
Усяслава няволі ў кіёўскай цямніцы.
Каб пачуць звон радзіннага звону,
трэба ў пограб чужынскі патрапіць.
Але дзе тое выйсьце на волю,
калі ў пограб,
што выкапаў ты для чужынцы,
трапіў сам?





Дзе пачатак пачаткаў
з самаробнай сучаснай няволі?
Пэўна, гэты адказ
толькі сын паланянкі ўзгадае.
Мой сын.

Флойд Салас

* * *

празь нейкі час
яны ад пальца майго адключылі провад
і да вуха майго яго далучылі
тут жа не пашкадавалі высокае дозы электрычнасьці
цела маё ліхаманкава трэслася
у гэты ж час
мае катавальцы паднесьлі люстэрка
да твару майго й сказалі:
«пабач што дзеецца з тваімі
гожымі зялёнымі вачыма
неўзабаве
ты бачыць зусім ня зможаш
ты страціш і зрок і клёк
бачыш
у цябе ўжо кроў з роту йдзе»

катаваньне большае чымся камэра
і яшчэ горшае пекла ёсьць
і ўсё ж
гнеды конь дрыжыць бакамі бліскучымі!
грывай трасе!
хвастом махае!

зірні!
я цень твой бачу!
ён зьбіраецца каля ног маіх!
рухаецца разам са мною!
падскоквае! крычыць! прыстойвае!
пахістваецца крышку!
паварочваецца са мной
быццам палец маёй нагі — вось сонца!
і ўсё добрае
і ўсё цудоўнае
абяртаецца зь ім!

Пераклад Рыгора Барадуліна





Ірына Паўловіч

* * *

Зрываюць наш дзяржаўны сьцяг,
А мы — маўчым.
Пагоню топчуць на вачах,
А мы — маўчым.
Над роднай мовай адны зьдзекі,
А мы — маўчым.
Ня дурні мы, і не калекі,
Але — маўчым.
У турмы садзяць, варанкі,
А мы — маўчым.
Дэкрэт, маўляў, у іх такі,
А мы — маўчым.
Людзей зьнішчаюць па начах,
А мы — маўчым.
У душах невядомы страх,
І мы — маўчым.
Нарэшце мушу закрычаць:
Дакуль жа будзем мы маўчаць!

*Анатоль Кірвель*

* * *

Неба ластаўкі рэжуць пад корань
Перад бурай з трывожным піскам,
Быццам мала ім стала прасторы,
Быццам неба іх так прыціснула,
Што дыхнуць ім ні кроплі нельга
У прыгожай сьпякотнай высі,
І яны, узмываючы ў неба,
Хочуць крыламі іскры высекчы.
Вось і сёньня рэжуць пад корань
Крыльлем тонкім і вострым як нож...
Неба. Ластаўкі над разорамі.
Мусіць, хутка ізноў дождж...





*Міхась Наумік*

* * *

Ты нясі, мой верны конь,
Па палях, дарогах,
Хай пачуюць збруі звон
У пасёлках многіх.
У гарадах пачуюць нас,
Беларускіх вёсках,
У зімовы позьні час
І ў час раньніх вёснаў.
Беларусь нясі, мой конь,
Восеньню і летам,
Праз ваду і праз агонь
Ты да лепшай мэты.
Многа бачыў я раней
Самых розных коней,
Спадабаўся надта мне
Белы конь з Пагоні.

* * *

Генік вярнуўся з апраметнай Расеі.
Браў там,
дзе з краніка проста ў кішэню сьцякалі грашыскі.
Колькі набраўся,
столькі пакінуў сяброўцы.
Так абдурыў ён Расею —
наняў у ахову жанчыну.
Генік вярнуўся з драпежнаю кайстрай —
вандроўнік.
Сварыцца бацька:
ня бачыць крыжоў на магілах.
Хлопцы адтуль не вяртаюцца,
нават ў трунах.
Генік вучыў там законы —
ня жыў па законах.
Там выдаюцца,
там вучаць,
там прадаюцца законы,
там па законах нялюдзкіх жывуць.
Але Генік аб гэтым маўчыць.
Брату і братавай котцы майструе кватэру,
рай у гаёчку знаходзіць,
адхланьне ў касьцёле.
Генік Жыбар. Матыль.
Дыялектнае прозьвішча дзеда
польскі праўнік запольшчыў на Żyber,
расейскі зрасеіў на Жибер.
Тут адступае Расея.
Вяртаецца Польшча,
зноў саступае Расеі,
Жыбару месца няма.
Генік — душа да нябёсаў маленькага краю —
чуе:





дзяды, бурдукі, бандары, супраны, махраі, скрагі,
бурносы, шнакі, бакасы, пінчукі, карабаны,
петрашы, самардакі, жамойды, габрушчыкі,
жыбары, жыбары, жыбары, жыбары, жыбары...

*Алесь Каско*

* * *

Адзін зь мячом, другі зь пяром, зь сякерай трэці
сядзяць, бы стоды, не падымуць цяжкіх рук —
зь мяча, зь пяра, зь сякеры пыл густы абтрэсьці,
каб Цмока біць, складаць быліну, ставіць зруб.

Галовы буйныя схілілі ў думе скрушнай:
ёсьць меч, пяро, сякера, ёсьць малойцаў раць,
ды хто ўстаць мусіць першы, плечы разьвінуўшы,
што перш — сякеру, меч, пяро — для справы
ўзьняць?

Зь мячом, зь пяром, зь сякераю сядзяць асілкі
і год, і два, — сьсівелі, мохам абрасьлі
і думу думаюць: з чые, з чые абмылкі
яны — як змылкі колісь волатнай зямлі?





*Міра Лукша*

* * *

Вылеціць слова, як голуб,
З клеткі зачыненых вуснаў,
Рэбры параніць аб краты
Шчымоты зубоў зацятых.

Пёркі пагубіць крывавыя,
І ападуць на галовы
Тлуму, што долу схіліўся,
Што неба ўбачыць ня можа.

Вылеціць голуб на волю —
Пад небам свабоднае слова.

*Гелена Мадзіёва*

* * *

Ён адпрэчваў закон любові.
Ня ведаў краіну й людзей.
«Боль чужы не баліць», —
падумаў сам сабе й хутчэй,
як віж, перакруціў крыж,
каб ня бачыў Хрыстос,
як ён палюе на душы.

Спачатку ён стаў,
потым зь лютасьцю ў паглядзе
расстраляў усе кветкі ў садзе.
Ніводная не змагла
да сьвятла вярнуцца.
Калі апошняя лісьцінка пажоўклая
зьляцела з галінкі,
ён паўстаў са сваёй душы,
як з прадоньня,
і ніколі не прызнаваў,
што кроў прыліпла
да ягоных далоняў.
Штовечар зь няўцямным страхам
ён засынаў і прачынаўся
з пахам ліпкім.

Чаму д'ябал, як нескупы ліхвяр,
пазычыў яму
гэтакі добры твар?

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





*Мар'ян Дукса*

* * *

Падчас вялікіх перамен
Трасе душу разбойны ген,
Пад дзікі лямант «Хай жыве!»
Бязбожна б'юць па галаве.

Падчас вялікіх перамен
Становяць тварамі да сьцен,
Каб кожны усьвядоміць мог:
Лічыць ня будуць і да трох.

Заўжды раптоўны землятрус
Ператварае ўсё на друз:
Дамы, люстэркі, абразы
І ўсе крышталікі сьлязы.

Чытае, скачучы як конь,
Энцыкляпэдыю агонь,
Калі навокал гвалт і плач,
Адзіны ён тады чытач.

Падчас свавольнай калатні
Не пладаносіць сьвет ані,
Душа пустая, як і склеп.
Каменьне ўсюды, а ня хлеб.

Калі ў прасторы бурапеннай
Настырнай пахне пераменай,
Не сумнявайся, так і знай,
Што трэба сьвенціць родны край.

* * *

У вёсцы пачаліся спрэчкі:
«Жывем мы над адною рэчкай,
Адна зямелька ў апрацоўцы,
І молімся ў адной царкоўцы,

Адно ў нас сонейка, нябёсы,
Адным спалучаны мы лёсам,
Адно нам толькі невядома,
І нас хвалюе гэта — хто мы?»

Азваўся Ян (тут найстарэйшы):
«Усё жыцьцё я быў тутэйшым.
Відаць, мы ад пачатку сьвету
Будзем тутэйшымі ўсе тут».

«Павінны кімсьці быць, вядома, —
Негаваркі азваўся Сёма, —
Мы ўсё-ткі людзі, мы ня гускі,
Мяне завуць заўсёды рускім».

«Можа мы родам з Украіны? —
Тут запыталася Паўліна, —
Кажуць, што з украінскай мовы
Заўсёды пазычаем словы».

Лявон дакінуў сваё слоўца:
«А можа ўсе мы тут літоўцы?
Было ж тут, пішуць летапісцы,
Княства Літоўскае калісьці».

«Жывем мы ў Польшчы. Мы — палякі, —
Запальчыва азваўся Якаў, —
Жывем мы ў прагрэсіўным сьвеце,
Ужо палякі мае дзеці».





Нэрвова ўскрыкнуў тут Кастусь:
«Дзе ж ваша, браткі, Беларусь!?
Бачу, пазбыцца вы гатовы
Нацыянальнасьці і мовы.

І быццам бы нам невядома,
Адкуль выводзімся і хто мы,
І сапраўды ўжо слухаць горка,
Што наша брыдкая гаворка,

Што быццам бы мы з горшай гліны,
Цурацца роднага павінны,
Што быццам існуе прымус,
Каб свайго зрокся беларус.

Ніхто нас не змушае, брацьця,
Каб свайго роднага цурацца,
Каб пастаянна з году ў год
Мы паміралі як народ.
Шануйма роднае, паверце, —
Каб ведаць хто мы, каб ня ўмерці».

*Галіна Дубянецкая*

* * *

ці глыбока ці далёка ці блізка
праплывае ў пераменлівых блісках
нейкі горад апавіты зарою
быццам вольная струменіцца мроя

а падасца — гаманілі званіцы
бы хацелі да кагось дазваніцца
і падобныя да сноў распавесьці
пра жыцьцё тамтэйшае весткі

можа ў сьне а можа ў яве аднойчы
хтось адплюшчыць праясьнёныя вочы
і ў азуравае ўвойдзе сьвітаньне
і званіцы залатыя застане





*Натальля Ўласава*

* * *

Шэпты лясное вады у халодным
аеры
Здані начныя па курганах спаўзаюцца
хомарам
Вільгаць травы робіць нашыя ногі
босымі
Вецер у дрэвах робіць нашыя подыхі
голасам.
Рухі галінаў бачацца менш
павольнымі
У лесе курганаў хутка надыдзе
раніца
Першыя промні зробяць нашыя вочы
вольнымі
Трызьненьне ночы зробіць нашыя целы
памяцьцю.

Юрась Сьвірка

* * *

Радок Купалы
Мужнай воляй дыхае.
Яна, жаданая,
Яму жыцьцё давала.
Свабода
Не была ніколі ціхаю —
І толькі у змаганьні паўставала...

Франты
Падоўгу не стаяць на месцы.
Не замарудзяць
Наступы разгортваць.
А зь іх прыходам —
Воля застаецца.
Пра гэта сьведчыць
Год сорак чацьверты.

Прынёс сорак чацьверты
Вызваленьне
Маёй радзіме —
Беларусі роднай.
І партызанскі фронт
Вёў наступленьне —
Чацьверты ён
У памяці народнай.

І пра народ
Радок Купалы помніцца.
Ён, як прарочы,
Адгукнецца ў вечнасьці.
А Беларусь —
Нікім не запалоніцца,
Пакуль яна пануе ў Незалежнасьці!





Лешак Энгелькінг

* * *

Вуліца Вольнасьці? —
паўтарыла яна пытаньне.
Вам у турму?
Бо гэта там, дзе турма.
Бачыце, вунь вартавыя вышкі?
Вуліца Вольнасьці — там.

Пераклад Андрэя Хадановіча

Міхаіл Рыбакоў

* * *

Калі жаданьне ёсьць у сэрцы
Служыць Айчыне кожны час,
То не хавай яго стыдліва,
Хутчэй за справу — ў добры час!

Ня трэба ганьбіць роднай мовы,
Яна свая, а не чыя,
Няхай ідуць ад сэрца словы
І ў іх гучыць душа твая!

Адчуй свой гонар прад чужбінай,
Ёсьць нам што ў сьвеце паказаць:
Сапега быў, і быў Скарына,
Імёнаў шмат — іх трэба знаць!

Не прамяняй сумленьня толькі
На солад сытага жыцьця,
Каб сьмела ўсім глядзець у вочы
Магла заўжды зямля твая.

Каб мог і ты, калі час прыйдзе,
Прамовіць — грэшны быў ў адным:
Меў гонар быць я беларусам
Свабодным ды сабой самім!





Марыя Мацюкевіч

* * *

Я веру ў шчасны лёс твой, Беларусь,
Бяз гора, перастрэлак і разборак,
Ня будзе прымусовы твой хаўрус,
Зямельку-маці не агорне морак.
Ніхто ня будзе на кавалкі рваць,
Таптаць у бруд спрадвечныя сьвятыні,
Сьцяной паўстане беларусаў раць,
Навал варожых цёмны шквал адрыне.
Сінейшы стане ў жыце васілёк,
Наладзяць белы карагод рамонкі,
Сыны і дочкі вернуцца здалёк,
Ніхто ня зможа любае старонкі.

* * *

Пад гэтым шумным шэрым небам
Мы спаць кладземся і ўстаем,
Нам на чужыне плакаць трэба,
А мы — прыцішана пяем.
Бывае часам і няўтульна
Ад хмар, ад частых навальніц,
Пяем мы ціха, неразгульна,
Ў пяскі чужыя ўпаўшы ніц.
Чаруюць нас птушыны гоман
І ночка белая, ды ўсё ж
Вытокі нашы там, дзе Нёман,
Дзе Прыпяць родная, дзе Сож.
Жыцьцё нас змусіла ў дарогу,
Нам жыць прыйшлося за мяжой,
І дзякуй Богу, дзякуй Богу,
Не ачарсьцьвелі мы душой.
Начамі нам айчына сьніцца
Зь бядой і радасьцю сваёй,
Нам роднай мовы не забыцца,
Пакуль надзея наша зь ёй.







* * *

Нямала будучыні сьветлай
Будаўнікоў навэрбаваў,
Ды рэчаіснасьць беспрасьветнай
Была, —
Шмат душ абрабаваў.

Ў палон ці змог бы ўзяць Фэміду
Партыйны жрэц, прараб рабы,
Узьняць такую піраміду
Бяз нас, нікчэмныя рабы?

Якія мы рабілі спробы,
Ці спрабавалі штось рабіць,
Каб лёс загневаны раздобрыць,
Душой нябогімі ня быць?

...Пачуўшы плач нябеснай скрыпкі,
Сьцяну глухую час прабіў:
Хоць і са скрыгатам і скрыпам,
Рабы, распростваем гарбы.

Аковы ржавых догм рвучы,
Пачуўшы плач свайго сумленьня,
Пачуўшы прашчураў маленьне,
Нашчадкаў просьбу,
Жывучы,

Не выпрабоўваць Нэмэзыду,
Больш праўду ў крыўду не даваць,
Сыстэмы жорсткай піраміду
Зьвярнуўшы,
Храм пабудаваць,

Дзе душы памяцьцю сьвітаюць,
Дзе радасьць дораць проста так.
Разьняўшы рукі, нас вітае
Хрыстос расьпяты, як Спартак.

Ці прычакаем ладу яблык,
Ці стане сьвет зноў на дыбы,
Ці аджагнаемся ад д’ябла,
Рабы, ўсе Божыя рабы?!







* * *

Я вам скажу што свабоду дзесяцікроць лягчэй
згубіць чымся аднойчы набыць
бо свабода тысячу абліччаў і сто тысячаў гаворак
мае
паглядзістая і гаманкая
ёсьць свабода ненажэрная як саранчовая зграя
ёсьць як сад багаты на шаты што засеньню ахінае
сівую галаву й немаўлятка
ёсьць і такая хаўрусьніца ціхай зьнямогі
што кладзе ў запазуху камень зь вялікай дарогі
ёсьць і такая што хлеб свой і дом свой
са шчырасьцю іншаму завяшчае
ізноў я вам скажу што свабоду дзесяцікроць
лягчэй
згубіць чымся аднойчы набыць
хто згубіць станецца гноем
хто набудзе будзе расьцінкай жывою
свабоду чалавеку можна знайсьці
як мядзяк той на аральлі
і мядзяк пазелянелы гэты будзе ўзносіцца
над усім шчырым золатам сьвету
чалавек можа выкрэсіць свабоду як ясачку
з каменя
і лес непрабудны выпаліць да каранёў
і плакаць і жаліцца спасярод недагарэлых пнёў
але дарма галасіць і наракаць на лёс
стары лес выпальваюць каб новы рос
як у п’яніцы з рук недапітую кварту
з тых рук, што карысталіся ёй паўсюдна
дарэмна і брудна
бо свабода тысячу абліччаў і сто тысячаў гаворак
мае
паглядзістая і гаманкая

кунежце яе як лазу вінаградную
у руках і галовах сваіх
будзьце гатовыя кожны міг
лавіць кожны помірг і веек замроеных ускалых
бо не нарадзіўся яшчэ той мудрэц ці знавец
які гатовы
спаміж свабодай а несвабодай пакласьці камень
мяжовы
і нарэшце свабоду закладваюць як сталіцу
грунтоўна
з шырокімі хваласьпевамі й харугвамі поўнымі
і калі вы ўжо адпяялі адгаварылі ды адгулялі
як дзеці не баючыся бяды
я пачну гаварыць тады
каб мяне не забыліся вы
я вам скажу што свабоду дзесяцікроць лягчэй
згубіць чымся аднойчы набыць
і той першы камень кінуты ў мяне мане ў дагоду
будзе першым крокам назад у несвабоду

*Пераклад Рыгора Барадуліна*







* * *

У касьцёле Сьвятое Ганны
Удыхаю ладан Свабоды —
Гэта Свабода веры

У Лёндане, на беразе Тэмзы,
Удыхаю вецер Свабоды —
Гэта Свабода чужыны

У альтанцы нясьвіскага парку
Удыхаю сьвятло Свабоды —
Гэта Свабода памяці

Зь вершамі Багдановіча
Удыхаю цяпло Свабоды —
Гэта Мая Свабода

У цемры пакою, перад аркушам,
Які ажывіў гэтыя згадкі,
Удыхаю водар Свабоды —
Гэта свабода Неба

Удыхаю Свабоду Веку...

* * *

Я збочу з натоўпу народу
і, выпіўшы добрае кавы,
у сквэры на пляцы Свабоды
свабодную выберу лаву.
Я буду глядзець на аблокі,
што мкнуцца чародамі ў высі...
І столькі свабоды навокал —
вазьмі ды хоць з кім падзяліся.

*Мікола Маляр*



# ліпень

*Зінаіда Дудзюк*

* * *

Жрацы з экрану дзень пры дні
палохаюць агнём вайны:
«Нас абстраляе НАТА
ці пойдзе брат на брата,
як апазыцыя народ
зацягне ў вір сваіх згрызот, —
хапаюцца за сэрцы, —
сьвятая кроў пральецца...»

Настала страшная пара —
і я забіла камара,
грыз без патолі ён мяне,
кроў чырванее на сьцяне.





*Аляксандар Наркевіч*

* * *

Мая салодкая пакута,
Мая заплаканая радасьць...
Зь якой пары я веру ў цуды,
У чысьціню душы, у сьвятасьць?
Хаджу і сам сабе сьмяюся,
І толькі сонца бачу ў небе,
На вобраз вабячы малюся,
І ведаю — ня будзе лепей.

На ўсе лады, як шпак, сьпяваю,
Нібыта й я здалёк вярнуўся,
І быццам неба абдымаю —
А толькі рук тваіх крануўся.

* * *

Кропля камень точыць,
зь неба кропля, з хмараў,
сонца між іх гляне —
семка волю ўбачыць
ў кропцы той маленькай,
што тачыла кропля,
ўскрэсьне семка краскай
і глыжы расколе.







* * *

Мне слова «зона» слых балюча рэжа.
Заплюшчу вочы — і гнятуць мяне
Калючы дрот вакол баракаў, вежы,
Чырвоны сьнег, вакол чырвоны сьнег,
Крывавы сьнег. Чырвоныя пагоны,
Зь вінтоўкаю на вышцы вартавы,
І трупамі запоўнены ірвы, і сьмерць.
Адно тут выйсьце з гэтай зоны.
Навісла хмара чорная над краем,
Зноў з мовы зьдзек і зноў ня лепшы час,
І статкамі у зоны заганяюць
Маскоўскія, чарнобыльскія нас.
Мне слова «зона» слых балюча рэжа.
Хачу быць вольным я — абрыд палон.
Хачу свой край пабачыць незалежным —
Без халуёў,
Бяз дурняў
І бяз зон.

* * *

Нораў такі
Праз усе вякі
У тых хто уладу трымае ў сваіх руках
Ім трэба кідаць у турмы нас
Дзе мышы ды пацукі
Нашы наведвальнікі й суседзі
Ды як той паплавок
Што ня хоча быць пахаваным недзе
У глыбінях прадоннага акіяну
Мы працягваем патрабаваць свабоды
У нашае барацьбе за самасьць
Мы абчастаколеныя спозыскамі за нязгоду
За паклёп і за падрыўную дзейнасьць
Яна не сама сталася нашым домам турма
Але мы пакутліва адчуваем пах
Свабоды й справядлівасьці
У вязьніцах
Пакрытых
Спаражненьнямі чалавечымі
Зьнявечаныя ды нязломныя
Нават перад вачыма сьмерці
Кажам рашуча
Запалохваць неастрашэлых дарма
Нас замаўчаць не прымусіць турма

*Фрэнк Макай Анім-Апія*

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





* * *

Ты хацеў ухапіць трон крамлёўскі?
Ды за гэта аддаць беларускі народ?
Каб, як некалі, быў ён халопскі?
Не! Сёньня будзе ўсё наадварот!

Ці ж ня гэты народ цябе выбраў?
Ці ж ня гэты народ табе верыў?
А ты душыш яго, зьневажаеш,
Б’еш дубінкамі, ў турмы кідаеш.

Зьнікаюць людзі, іх ніхто не шукае,
А ты ў Расеі зарабляеш ордэны,
Дзень Волі перайначыў ў дзень катаваньня.
Прыйдзе час! І ў гэту пастку пападзесься ты!

Ты адзін такі гаспадар у нас? Ты Бог?
Гэта толькі тваё уяўленьне.
Ты з пасадаю здолець ня змог,
Бо ў галаве ў цябе зацьменьне.

І парлямэнт табе без патрэбы,
Ты ўсё роўна робіш усё сам.
Безь цябе зажывем мы як трэба.
Ты яднайся з Расеяй. Толькі сам.

І будзе Бацькаўшчына незалежнай,
Як марылі Скарына, Купала ды Колас.
І так застанецца навечна,
І загавораць, засьпяваюць людзі ўголас.

Дык злазь хутчэй — зваліcься, то будзе балюча,
Ніхто саломкі тады не падкіне,
А мы ня «ўшывыя блохі», мы вельмі рашучыя.
Слухай: ніколі, ў вякі Беларусь ня згіне!

*Таісія Стаўская*

* * *

Ідзі праз шыпшыны
крывавыя кветкі,
Нястомны і сьмелы хадак!
Пякучыя драпіны —
вольнасьці знак.
Ідзі праз крывавыя кветкі...

Апасьліва цені чакаюць хады,
Счапляюць разьдзертае гольле.
І ведае той, хто трапляе сюды,
Што шлях толькі ўперад —
да волі.

Ідзі праз шыпшыны
крывавыя кветкі,
Нястомны і сьмелы хадак!
Пякучыя драпіны —
вольнасьці знак.
Ідзі праз крывавыя кветкі...

І подыхаў дзіўных вакол
насланьнё
Ад палкіх, гарачых суквецьцяў.
Калі спапяляць яны сэрца тваё,
Раскідаюць попел па сьвеце.

Ідзі праз шыпшыны
крывавыя кветкі,
Нястомны і сьмелы хадак!
Пякучыя драпіны —
вольнасьці знак.
Ідзі праз крывавыя кветкі...





І птушка пакоры,
і птушка бяды
Няўмольна расправілі крылы,
Каб тут, на самоце бясьсільнай хады
Выбранец апошні загінуў.

Ідзі праз шыпшыны
крывавыя кветкі,
Нястомны і сьмелы хадак!
Мы рушылі побач —
то вольнасьці знак.
Ідзі — праз шыпшыны крывавыя кветкі...

* * *

Бела-беднай як трываць галубцы?
Як трымаць надзею?
Паласа пунсовая на грудцы
Крывянее.
Аж дасюль страляюць і страляюць
Галубоў,
Што лётаць сьмеласьць маюць.

Гэты добры край зялёнабровы,
Што ўмывацца звык
Крынічнаю вадой,
Замятае завірухай папяловай,
Чорнаю бядой.

І галубка ў душнаце «черёмух»
Б’ецца нема
Над аглухлым краем.
Край ня чуе,
Што ў яго галубку
Ўсё страляюць.
Бо раздольле зграям.







* * *

Гледзячы на зоркі, што загадкава сьвецяцца ў начным небе, я задумваюся над пабудовай сьвету. Спрабую асэнсаваць ягоную бясконцасьць. Спрабую спасьцігнуць бязьмежжа.

Спрабую і... не магу.

Звыклыя адзінкі вымярэньняў, якія на Зямлі фізычна адчувальныя, нібы камяні ў руцэ, — кінутыя ў бяздоньне і не сустрэўшы там перашкоды — імкліва аддаляюцца. Зьнікаюць з вачэй. Робяцца космасам.

Бясконцасьць немагчыма зьмерыць тым, што мае пачатак і мае канец...

Сусьвет ня ўкладваецца ў маёй галаве да тае пары, пакуль успрымаю яго ня столькі духоўна, колькі фізычна. Пакуль адасобліваю яго ад сябе.

Але розум падказвае мне, што пяць зьнешніх пачуцьцяў: зрок, слых, нюх, смак, пачуцьцё дотыку, — памеры тае прасторы, у якую ён зьмешчаны ад пачатку.

Дух кажа мне: мяжа сусьвету існуе толькі ў табе самім.

Як шкарлупінай яйцо, сусьвет для чалавека адмежаваны ягонымі пачуцьцямі.

Шостым пачуцьцём.

Сёмым пачуцьцём — розумам.

Мікола Касьцюкевіч

* * *

Яшчэ,
асьлепленая,
на агонь плывеш
і захлынаесься
сьвятлом шалёным,
калі,
шукаючы
ключы да лона,
зьнішчае скон
твой недасьнёны
законна-
цёплая далонь:
салёным
робіцца агонь
і кропля сонца
апякае скронь
зноў
не прамоўленай
бясконцасьцю...





Віктар Ярац

* * *

Нібы ў цемры, вобмацкам шукае
Маці не пачутае на золку слова,
Так дрыготкімі рукамі
Прымяраюць нітку і іголку.
Дзе сьляды згубіліся людзкія? —
Родныя пытаюць днём і ноччу.
Ходзіць вецер па шляхах бяз кія,
Хоць стары, ён нешта чуў аднойчы.
Стоміцца і на пяньку сагрэтым
Прызямліцца неўміручым дзедам.
Доўга ён блукаў па сьвеце гэтым,
Галасамі сьнедаў і абедаў.
Доўга ён хадзіў, а на пытаньні
Не адкажа маці адзінокай,
Толькі ліст пашле аднойчы ўраньні,
Ліст зь бярозы ды зьнямелых вокан.
Недзе неба папярхнецца дымам,
Вочы праціраючы ад пылу
З тарфяных палёў, дзе конскім грывам
Аваднёў страсаць з гарачых жылаў.
І нічога неба не адкажа,
Разьвядуць рукамі дрэвы горна,
Як маўчаньне гаркатою ляжа,
Не заглушыць гул яго маторны.

Чалавек аднойчы выйшаў з дому...

* * *

Госпад,
Вось ён я, яшчэ жывы,
Ды па цяжкой дарозе ў нябёсы
Еду вершнікам перад тваёй дзідай боскай
Пад прыжмураным позіркам небакраю,
Перамогі й сьмерці песьню жудасную паўтараю.
Бацька мой блаславіў мяне,
Маці мая аплакала мяне гаротна,
Сёстры мае падвялі каня майго да варотаў,
Браты мае паехалі ў лес са мною.
Я дыханьне сваё аддаю на літасьць тваю
І малю цябе ацаліць яго ў грудзях маіх як мага далей,
Каб дзіда мая люцей цэлы наўздагон праціначь магла,
І сталь меча майго магла насыціцца ўдосыць.
Юшацца ворагі сурова, як мора,
Заліваючы хаўтуры нашыя сабе ж на гора.
Ведаем, што ніхто з нас ня ўбачыць, як Сонца
Ясны воблік з-за воблакаў даткнецца да вершалінаў дубоў.
Тысяча мужчынаў
Пратнуць варожае войска, як страла вогнекрылая,
Сабраўшы ўсе сілы,
І ўгору, наўпрост у нябёсы паскачуць з усіх падкоў
У суправаджэньні крыжацкіх душ да сьвятла,
Празрыстага сьвятла без акрас,
Дзе нашыя прашчуры чакаюць нас,
Дзе ты, магутны Пяркюнас — бог грымот і вайны,
Паглядзіш з радасьцю,





Як для сьціжмы палонных нябесная замалая аблога,
І пасьмяесься гулка зь іхняга нямоглага бога...
Хоць ня ведаю, дзе ж ты месца мне адвядзеш
За доўгім тваім сталом,
І ці буду варты
Баляваць з тваімі людзьмі харобрымі.
Ведаю, ты сваіх любіш вояў,
Якія рады быць пад уладай тваёю.
І, ўтаймаваўшы свой твар, ты прымеш
Наш гарачы й п’янлівы дар крыві.
Душы нашы белатварыя, прынесеныя табе ў ахвяру
Гэтай зямлёй, што спараджае на сьвет варажнечы й пяшчоты,
Людзей і жывыя істоты ў месцы,
Асьвечаным годна нашымі жыцьцямі й подзьвігамі...
Госпад,
Мы парвалі ніці жыцьця ў забыцьці і ў нябыце,
Расьсеклі повязі літасьці.
Ператвары нас у свае бліскавіцы, ў дух адплаты.
Дай нам віхурай сьвятарнай лютасьці ўзьвіцца.
І хай кожны ўздых, што будзіць нашыя грудзі,
Чорным парывам стомленай сьмерці будзе.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

* * *

Не сьпяшацца
бо ўсё прадугледзела памяць
не вагацца
на шалях уласных віроў
бо так лёгка
сьлязу пераважвае камень
і няхутка
сьвятлом напаўняецца збан

За маўчаньнем
дакладнымі ведамі стратаў
у злучэньні
няроўных часоў
нараджаецца зорная назва
з рыфмаванай выявы майстроў

Будзе споведзь
раскруціцца срэбнае кола
як ганчарны агмень
і адбудзецца
новая вобразнасьць формы
падарунак за сьмерць







* * *

Залатая мая, дарагая!
Тут зіма, як была і да нас,
Тчэ кудзелю сьнягоў і ня дбае,
Каб наладзіць наш хісткі альянс.

Ты далёка, а я — яшчэ далей,
На радзіме сваёй эмігрант.
Беларусы амэрык, аўстралій,
Вы бліжэй, чым амонавец-брат.

Тут у нас не жывуць, а ваююць —
Ўсе паўсталі насупраць усіх,
Не страляюць, а больш мітынгуюць
І цікуюць ударыць пад дых.

Час няпэўнасьці. Час вераломны,
Калі страх пасяліўся ў дамах,
Скарб дабротаў душы, найкаштоўны,
Увасобіў нам у камянях.

У вас рынак, дастатак, свабода —
Толькі рукі ў штанах не трымай.
У нас гандаль: ад мовы народу
Да кашулі апошняй прадай.

Калі гэтак працягнецца далей,
То, магчыма, наступнай зімой
Я, бязмоўны,
Зусім пралетарый,
Не змагу й ліставацца з табой...

Залатая мая, дарагая!
Выбачай, што пісаў не пра нас, —

Мяне гэта зямля не пускае,
Каб наладзіць наш хісткі альянс.







* * *

Паедзем далёка-далёка,
паедзем?..
возьмем з сабою аблокі,
неба і вецер,
пунсовыя сонцы ў шыпах
схаваюць галінкі шыпшыны...
паедзем на двух цягніках
у край галубіны,
туды, дзе блукаюць агні
у засені плошчаў...
нашыя крокі
напішуць кнігу
пра заўтрашні дождж...
а задуменныя цені
будуць за нас маліцца...
лісьце падаць баіцца
і пачынае трымцець...

* * *

Далакопы ў гэты дзень
Мове-Матухне жывой
дол капалі,
дол глыбокі,
дол халодны.
Запраданцы ў гэты дзень
Мове-Матухне жывой
будавалі хату,
цёмную,
бяз вокнаў,
безь дзьвярэй.
Чатырнаццатага траўня
здраднікі праводзілі ў апошнюю дарогу
Мову-Матухну,
цешыліся ў думках на праводзінах:
зь месца вечнага спачыну
не было вяртаньня і ня будзе.
Здрайцам чатырнаццатага траўня
смутку не навеялі хаўтуры.
На памінках прамаўлялі,
што чатыры дошкі адпусьцілі
і зямлі магільнай сажань,
што ў хвіліны разьвітаньня
не скацілася ні ў кога
дробная сьлязінка.

Душагуб, які задумаў гэтыя паховіны,
спаў пасьля паміну
дужа мала ўночы,
бо яму прысьніўся страшны сон.
На магіле Мовы-Матухны
расступіўся лес хваёвы,
расхінулася зямля,
раскалолася труна.





Мова-Матухна з сырой зямліцы ўстала,
падышла да злыдня анямелага,
глянула вачыма яснымі,
вымавіла свой кароткі вырак:
«Хто капае яму на мяне,
той у гэту ж яму сам уваліцца!» —
і ад вылюдка зьбялелага пайшла
не адна, а зь людам паспалітым,
што з пагардай адвярнуўся ад яго.

* * *

Свабода выбару паміж дабром і злом —
А ці ня гэта ёсьць сапраўдная свабода?
Той выбраў цемру зла, а той — дабра сьвятло.
Свабода выбару паміж дабром і злом...
Хоць мала здольны хто на слынны ўчынак Лота,
Ня дай нам Божа зноў Гамору і Садом...
Свабода выбару паміж дабром і злом —
А ці ня гэта ёсьць сапраўдная свабода?!







* * *

Не перайначым выпадковым словам
Ані на кроплю гэты белы сьвет,
Дзе кожны з нас ня вечна, а часова
Пад вечнымі сузор'ямі жыве.
А плынь жыцьця той конавай пячаткі
Не прызнае і б'ецца ў берагі,
І гэтак сама, як і мы, нашчадкі
Вяртацца будуць на свае кругі,
Каб зразумець, што лёс суровы межы
Жывому вызначае нездарма,
Бо і ад зор халодных мы залежым,
І ад зямлі, радней якой няма.
Ад той, адзінай, да якой вяртацца,
А ў ростані цягнуць задуманы пагляд,
Кахаючы яе бяз тлуму і абстракцый,
Як сто ці тысячу гадоў назад.

*Ражэ Шанэ*

* * *

Паколькі няма спадзяваньня
Што чалавек здольны
Адрозьніць добрае ад благога...
Плянэта наша шаноўная
Шчыра
Не выпрошвае ў яго анічога
Апроч спрыяньня
Найвялікшаму росквіту
Дрэва МІРУ.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





*Анжаліна Дабравольская*

* * *

Не назаву нічыё імя:
Хто — тое бачыць Бог —
Ён апякае мяне штодня
У кожнай з маіх дарог.

Шляхам пакутным іду за ім,
Узбоччу — крыжы, крыжы,
Вугаль і прысак, агонь і дым,
Прывіды, міражы;

Здані каханьня, надзеі міраж,
Вернасьць — падман. Але —
Мроіцца за даляглядам наш
Прыстанак у гэтым тле,

Дзе ў жыцьці — у апошні раз —
Існых, з плоці-крыві —
Фарбы і гукі абдымуць нас, —
Госпадзе, благаславі!

Што ж супынілася ты, душа,
Зьліцца зь вечнай красой?
На ручніку
па канцах крыжа —
Не падуладныя, час і іржа! —
Зоры сатканы
дзіцячай рукою.

* * *

Плывуць павучкі ў вырай
паўзь вёску Аркадзія,
над капліцай сьвятога Афанасія Берасьцейскага,
сядаюць перадыхнуць на газэту
«Народная Воля»,
на вялікія чорныя літары артыкула
«Пятая калёна»,
якія патроху хаваюцца пад скрыдлікамі
вугліцкай каўбасы.
І краязнавец Юрась згадвае Ілжэдзьмітрыя,
а фронтавец Вітаўт шукае аналёгіі
з Аляксандрам першым беларускім.
Дружна крэкча сябрына,
глынуўшы па чарцы «Пушчанскай казкі»,
настоенай на дваццаці сямі караткевіцкіх
травах.
Ляцяць і ляцяць павуцінкі на дол,
на яшчэ маладыя чубы,
ціха зьвініць гітара
у тонкіх Вользіных пальцах,
ірдзяцца жарынкі рабіны,
гарчаць на губах.
Гучыць у вышынях глас Філіповіча
пра вольны бунтарскі розум,
які не любілі спрадвеку
ў вялебных дварах.







* * *

Хтосьці кажа, што мінуўшчыны няма,
Старажытнасьці няма у Беларусі,
Што нічога не магла сама...
На такіх я ў роспачы дзіўлюся.
Зьдзек і кпіны іх жагнае род,
Ну ня хочуць з гэтым пагадзіцца,
Што ён быў і ёсьць, такі народ,
За яго патрэбна памаліцца.
Мы — нашчадкі продкаў, не натоўп,
Не Масковіі былой прыдатак.
Ды ня раз вас цар расейскі тоўк,
Бо сваёй не збудавалі хаты,
І такая сёньня доля ваша,
Дык навошта зноўку лыка драць...
Нам прышэлец усё гэта кажа,
Нават «беларус» можа сказаць,
А пра мову завядзеш гаворку,
Дык уздымуць лямант да нябёс,
Стане сумна, невыносна горка,
Па сьпіне аж прабяжыць мароз,
Што яна нязграбная, грубая,
І мужыцкай хрышчана здаўна.
Не свая патрэбна ім, чужая,
Быццам гэта нашая віна.
Шавіністаў і манкуртаў раці
Беларусь гатовы разарваць,
Здраджвае калі хто роднай маці —
Хіба гэта можна даравацъ,
А скажы такому унушальна:
Ты другую маці йдзі знайдзі.
Эўфрасіньня, дзе твой крыж астральны,
Памутнелы розум прабудзі,
Асудзі сьляпое рабалепства
Прайдзісьветаў і дзяляг-хапуг,

Што згубілі з самага маленства
Наш сьвяты, сумленны, чысты дух.
Ад навалы род паберажыце,
Каб ня страціць слых бацькоў і зрок,
Наша слова васільком у жыце,
Як крыніцы чысты ручаёк.
Мова маці — розум наш і рукі,
Ад яе — гісторыі выток,
Сьвецяць нам Скарыны першадрукі,
Шчырасьцю — купалаўскі радок.







* * *

У далечы стагодзьдзяў на Зямлі
Дзяржавы, гарады зьнікалі,
І небыцьцём сьляды іх зарасталі,
Нібы ніколі там і не былі.

Відаць, усё пад зоркамі часова,
І мае свой пазначаны прабег,
Магутныя імпэрыі, маны цяжкое слова —
Зьнікае ўсё, нібы пад сонцам сьнег.

І прарастаюць парасткі другія,
І да сьвятла ўзьнімаюцца і волі,
І не стрымаць пабегі маладыя,
Што камень і асфальт сабою пракалолі.

* * *

Мапа памяцi годнаю гронай
недзе дзе самы нiз
места Менесак
горад Гароднямм
вёсачка Ваўкавыск
да паловы палётнага лёсу
зялянейшай жывi зямля
лекi Хойнiкаў
Лепеля лёкi
выкапнi Капыля
бо сягоньня на ўсякiм месцы
што душой не занята яшчэ
мосьцяць Менесак
бэсьцяць Бярэсьце
Слуцак страсаюць з плячэй
вы каторыя без натоўпу
захавайма сыны
годнасьць Наваградку
Днепра вытокi
Вiльнi вольнай званы







* * *

Няпроста ўсё, няпроста —
Ад выпрабаваньняў, пакут, —
Сыдзi з вачэй, кароста,
Каб родным стаў родны кут!..

Высокiя аблокi,
Высокi кожны люд, —
Iм не патрэбны блёкi,
Патрэбны родны кут.

I хто каму даў права,
Сваволю каму хто даў
Прадаваць дзяржаву,
Як юда Хрыста прадаў?!.

I ўжо нi слова, нi мовы, —
Небасхiл аблуд,
Iлжы сьляпыя аковы,
Iнтэграцыйны зуд:

Сыцейшыя карыты
Для самых паскудных паскуд,
Базарныя карыды
Сьлепяць родны кут.

Ды сэрца, як жар, палымнее,
Рвучы сьляпот ласкут, —
Калi ж уваччу завiднее,
Вiднячы родны кут?!.

У неба гляджу я, пахiлы:
Страшны ты, Страшны суд!..
Тваёе ж прашу я сiлы
Вярнуць мне родны кут;

Ня мёртвых карай, — прасьвятленьне
Жывым сьляпым пашлі,
Падымі з каленяў
На сьвятой зямлі;

Раскрый усе небасхілы,
Яві, як звычайнае, цуд:
Відушчасьцю, а не магілай
Зроднены родны кут!..





* * *

Калі бягун ручай
Кідаецца ў распасьцертае мора
Ён ня думае ва ўчора вяртацца
І я ў журбе давяраю табе мой спадзеў
Не пакінуўшы для свайго жыцьця нічога ані
Таму калі ласка дзеля мяне зачыні
Вочы гэтага цела пакінутага
Зь верай нявіннаю
Калі агонь скрухі ня спыніць турзаць бяздомнае
Сэрца сьвядомасьці

Маё аблічча існае й шчырае
Ашчаджаецца для галубкі якую шаную
Мая душа блуканьніца
У сузор'і параненай раніцы растае
Дужая мая рука без адхланьня
Служыць апорай і дахам ганку Каханьня
Каб нямела цемра й ня мела
Сьмеласьці наблізіцца да дзіцяці
Да сонца якое нарадзілася з ласкі Бога
Да атожылка маладога
Мая кроў жывая
Уваскрашае вены зямлі
Каб рыс сагнуўся пад цяжарам калосься
Каб дрэву жыцьця давялося
Сагнуць сваю крону
Пад цяжарам плёну цярпімасьці
Муза мая травой зарунее
Калі запалымнее Свабода

*Нгуен Хоан Бао Віет*

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

*Іван Ляшук*

* * *

Ад родных прастораў, ад бацькаўскай хаты
За вершы, што я пра свабоду складаў,
Мяне у юнацтве чырвоныя каты
Забралі ў турму, каб у ёй я сканаў.
Але не памёр я, бо Богу маліўся,
Бо верыў, што выйду з жахлівай турмы,
І дзякую Богу — я не памыліўся,
І сёньня сябруем з свабодаю мы.
Свабода — гучыць гэта слова ўрачыста,
Свабодзен павінен быць кожны зь людзей,
Душылі свабоду фашыст з камуністам,
Стаяў за свабоду з унукамі дзед.
І сёньня пакутнікі ёсьць за свабоду,
І будуць, дыктатары правяць пакуль,
Бо сябра свабоды ёсьць сябра народу,
І ён не баіцца ні турмаў, ні куль.





*Мікола Казачонак*

* * *

Да вас, да ўсіх: багоў, зьвяроў і д'яблаў,
Да птаства усяго, да ўсіх паўзучых гадаў,
Да ўсіх казявак, мураўёў, чарвей і мошак —
Пачуйце тое, што ўсяго, як пошчак,
Гучыць прад вамі, ветры, буры, громы,
Маланак трапяткіх бліскучыя заломы...
Пачуйце боль і стогн слабой істоты,
Што сьлёз ня можа болей ліць употай,
Хавацца усячасна і ад ночы, і ад дня.
Ты адштурхні мяне, магутная зямля,
Ты падхапі мяне, бязоднiстае неба!
Гатовы вечнае прадоньне тваё зьведаць,
Заву цябе, Ўсясьвет, ўсёй існасьцю сваёю,
Усім, што маю я, душою і крывёю.
Ўздымі, ўзьнясі мяне на той прыстанак,
Дай мне знайсьці, чаго так апантана,
З такой надзеяй, страхам прагнуць людзі...
І згодзен я: няхай ніколі больш ня будзе
І упаміну аба мне ва ўсім Сусьвеце,
Ды толькі дай, Ўсясьвет, вялікае суквецьце
Таго, што здыме цяжар і з плячэй, і з сэрцаў.
Рассып, расьсей мяне на тысячы каберцаў
Па ўсіх палях, балотах і лясінах,
Ды толькі дай ты гэтаю часінай
Спакой і лад. Хай згода будзе, сьвет.
Ты не адрынь мяне, Ўсясьвет!

*Алесь Філіповіч*

* * *

А там, за даляглядам, — цішыня,
адно зрэдзьчас вятрыскі ды маланкі
нябеснымі званочкамі зьвіняць,
адно з адным гуляючы ў хаванкі.

Я чую іхны бестурботны сьмех,
і мне карціць пакінуць блаславёны
тужлівы сьвет, і атрымаць замест
цялеснага сіла зь іх рук званочак,

скакаць, куляцца, бегчы напраскі
па зорках, аблачынах і прадоньнях...
Ды толькі не вяртацца да зямлі,
назад, за далягляд. Я даў бы досыць,

каб толькі не вяртацца ў родны кут —
яго сіло стагодзьдзямі ня рвецца.
Заходзіцца ў жалобе сэрца тут,
і толькі там, за далягладам, — б'ецца.





*Мікола Папека*

* * *

Свабода, як агонь:
У руках Прамэтэя — мэта сьвятая,
У руках Герастрата — вялікая страта.

*Іна Снарская*

* * *

Як па белым — трава,
Як па чорным — няволя,
Галосіць удава
Савою ў чыстым полі.

Як па чорным — сьнягі
Пярыну сьцелюць душам,
Дзе волаты ляглі,
Там і сірот задушаць.

А пушчы хараство
Сьпяліць птушыны вырай,
Лятучае яство
Успомніць сны пра крылы.

Успомніць даўніх дзён
Свабоды таямніцу:
Хто ў вышыні — анёл,
Той на зямлі — крыніца.

А прашчур скажа нам:
«Не будзі яко черві...»
І херувім, як храм,
Асьвеціць шлях вячэрні.



# жнівень

*Анатоль Дэбіш*

* * *

Хам вярнуўся на родныя гоні
З апраметнай — і проста на трон,
Нібы статак, анёлаў ён гоніць
Прочкі ў ноч, у нявер'е, на скон.
Сьцеле кветкамі ў храмы дарогі,
Крыж цалуе ў хлусьлівай журбе,
Хоць даўно ён ня ведае Бога,
Бо прызначыў ён Богам сябе.
Колькі людцаў служакамі сталі?!.
Ім ачмурана столькі галоў!..
Ну а тых, хто яго не прызналі, —
На пакуты, у турмы, у роў.
Вось табе і карона, і скіпэтар,
А табе — хіба дуля, народ.
Усьміхаецца з трона Люцыпар:
«Я прыйшоў не на дзень, не на год,
да сьвятла я вас вывесьці мушу,
паказаць вам, дзе ваш агарод,
адбяру ваш і розум, і душы,
ды напоўню ваш прагны жывот.
Што вам воля і што вам свабода?
Лепш жыцьцё без турбот і трывог».
І мільённае чуецца: «Згода!»
І грыміць па-над сьветам: «Наш Бог!»





*Тадэвуш Ружэвіч*

* * *

Айчына — то край маленства,
Месца народзін,
То найбліжэйшая, малая Айчына.
Места, мястэчка, сяло.
Вуліца, хата, падворак,
Каханьне першае, магілы, лес на даляглядзе.
У маленстве пазнаюцца кветкі, зёлкі,
Жывёлы, палеткі, лугі, словы ды ўраджай садоў.
Айчына сьмяецца.
Напачатку Айчына блізкая,
Як працягнуць руку,
І толькі пазьней яна расьце, крываточыць, баліць.

*Пераклад Лявона Барычэўскага*

* * *

«Чытайце Купалу сябрынаю шчыльнай услых,
і мала-памалу ня стане паэтаў глухіх».
Так майстра прызнаны са скроньню сівою, як дым,
Казаў, узлаваны кульготай радкоў, маладым.
І пільнасьцю вока настаўніку важна плачу,
Чытаю прарока, агністыя строфы шапчу,
І музыку слова прыносіць дыханьне радка,
Магутна, вяснова гайдаецца духу рака.
Пасеўшы сябрынай, чытайце Купалу услых,
Ён мовы адзіны віры таямніцы спасьціг.
І слова сьвятлынна вядзе чараваньне ў цішы,
Займае Айчына шырокія гоні душы,
Праносяцца шквалы, узрушныя стынуць грамы,
Я чую ў Купалы адкуль і пашто выйшлі мы.
І ясьнячы вочы, мне кожны гаворыць радок:
«Ты дойдзеш аднойчы, калі ты сапраўдны хадок.
Разьветрыцца скрусе, як дыму ля родных прысад,
Тваёй Беларусі заняць свой пачэсны пасад».
Цьвярдзей ад мэталу яе сонцалікая раць,
Чытаю Купалу і кажа Купала: «Ня здрадзь!»
Саступяць слабыя, забыўшы і мову, і род,
Іх думкі рабыя абрынуцца сьмецьцем на звод,
Па вечнай пуціне, забыўшы на слоту і ноч,
Насустрач Айчыне нязломнаю дужасьцю кроч!







* * *

О, Беларусь,
Каханка нябёс, загадка, мадона!
За якія грахі асудзіў цябе Бог
На лёс выпрабавальнага палігона?
Хто не таптаў, не дратаваў
Палеткі твае ня вузкія?
Татары і прусы, немцы, французы,
Палякі і рускія.
Ніводная з войнаў — айчынных, сусьветных —
Не абышла цябе,
Пляжыла і мярэжыла.
Цела тваё каралі, цары, генсекі
Чацьвертавалі, палавінілі
Мовамі, верамі, дзяржаўнымі межамі.
Дзівіцца сьвет: што табе памагае —
Пацеры ці замовы?
Што за краіна, што за такая?
Зьнікалі дзяржавы, народы, мовы,
Яна — не зьнікае.
О, Беларусь,
Колькі вякоў палігоннасьць трывае!
Лязгае кратамі, хітрасьцю кратае.
Вось ізноў на табе
Выпрабоўваюць трываласьць:
Адны — дэмакратыі,
Другія — нацыі,
Чарнобыльскі чорт — чалавечай папуляцыі.

*Алесь Корнеў*

* * *

Высакародныя мужы...
Зямелькі беларускай дзеці...
О, Божачка, чаму, скажы,
Яны раскіданы па сьвеце?

Хто нашу еднасьць загубіў
І абыякавасьць пасеяў?
Міцкевіч Польшчу палюбіў,
А Дастаеўскі — дык Расею.

Змагар, вучоны і герой
Дамейка ў Чылі быў узьняты...
Сікорскі верталётны рой
Стварыў для большай моцы Штатаў.

Няма бэрлінскае сьцяны
На нашай мытні і сягоньня,
І беларускія сыны
З-пад Прыпяці і з Панямоньня

Знайсьці імкнуцца за мяжой
І шчасьця крышачку, і працы,
І нават на зямлі чужой
Згадзіліся б навек застацца.

Бацькоўскі край, радзімы кут!
Мае палі, мае бярозы!..
Ды хіба не патрэбен тут
Адважны дух і моцны розум?





*Лявон Неўдах*

* * *

Як пад небам беларускім дрэвы моляцца,
Ды ня могуць небаракі супакоіцца.
Пазіраю у іх бок я употай,
Аблятае прыгажосьць пазалотай.
Я прыйду да іх у храм з сваёй вераю —
Зь вельмі гойстраю пілой і сякераю,
Стане вусьцішна ім ўсім, стане страшна мне —
На адной зямлі жывем, гарапашныя.
дзі, Гасподзь, мяне ад злачыннага,
цяпла мне, дай сьвятла мне, нелучыннага.
ерцю лёс пасеклых дрэў не адмоліцца,
ае маёй душы супакоіцца.

*Натальля Капа*

* * *

Начная бездань.
Абрывы скал
Бялеюць, нібы
Зьвяроў выскал.

Навокал цемень.
Клубы аблок.
Абсеяў горы
Драпежны змрок.

Дыміцца прорва
У цемнаце,
А там, у небе,
Сьцяжына йдзе.





*Алесь Бадак*

* * *

На дарозе, дзе няма ні знаку,
Дзе не разьмінуцца і дваім,
Я сустрэну раптам ваўкалака
І спынюся моўчкі перад ім.

Вочы ў вочы глянем з насьцярогай,
І па стоме цяжкай і журбе,
Доўгаю народжаных дарогай,
Кожны з нас пазнае ў іх сябе.

— Азірніся, — ваўкалак мне скажа. —
Ты хіба ня бачыш,
За сьпіной
Лівень часу, велічны і страшны,
Размывае шлях зваротны твой!

Усьміхнуся горка:
— Я даволі
На зямлі пажыў сярод людзей
І шукаў ня золата, а волі,
Але там няма яе нідзе.

— Што ж, — ён мовіць, — гэтую дарогу
Выбраў недарэмна ты, відаць.
Воля — тут.
Ды толькі больш — нічога.
За яе патрэбна ўсё аддаць.

— Я ў былым і так усё пакінуў! —
Выдыхну, і вусны задрыжаць. —
Адшукаю волю тут ці згіну.
Што згублю?
Няма чаго губляць!

— Але нам з табой не разьмінуцца
На дарозе гэтай аніяк!
Нехта мусіць збочыць ці вярнуцца.
Нехта — разумееш? — а ня я!

Воля — гэта проста адзінота.
Адзінота — кара, а ня дар.
Шлях мой — да людзей.
Ня знаю, хто ты.
Лепей збоч па-добраму.
Ня дай

Стаць сабе дарэмнаю ахвярай.
— Хопіць страшыць! — крыкну. — Замаўчы!
І пад ногі
Упадуць нам хмары,
І маланкі блІснуць, як мячы.

Гэта неба і зямля сальюцца
Там, дзе нас чакае небыцьцё.
Гэта ў байцы поўнасьцю сатруцца
Межы паміж сьмерцю і жыцьцём.

...Год міне, і сто гадоў, і дзьвесьце.
Нехта іншы выйдзе на той шлях.
І прад ім, як пыл, падыме вецер
Двуадзіны нескароны прах.





*Аляксандар Ткачэнка*

* * *

Усіх, хто супроць вайны,
Аб'яўляюць чачэнцамі, вырачэнцамі.
Пан Прэзыдэнт,
Пашматуйце ўшчэнт,
Дэпартуйце ўсіх.
Мы замінаем вам жыць,
Мы замінаем вам спаць.
І вашым удаваў-машынаў картэжам
Мы замінаем,
Бо самі сабе належым.
Генэралы крывавых кар'ераў,
Генэралы крывавых пустэльняў,
Пасьля вас застаюцца сьмяртэльні.
Ні вада не цячэ,
Ні трава не расьце на загонах.
І адбіваецца сонца ў пагонах
Малюпасенькіх генэральчыкаў
Звантробленых Вамі з тлі...
Горы таму ў Чачні мячэці былі
І нават царква крыжамі
Небу чачэнскаму ксьцілася памяркоўна.
Генэралы службаў царкоўных,
Ня ксьціце салдатаў,
Што йдуць у бой ці на ўбой.
Яны ваююць супроць Расеі сваёй,
Супроць сваёй Айчыны
І саміх сябе забіваюць злачынна.
Пан Прэзыдэнт,
Дэпартуйце ўсіх і накіруйце
У Маскву груз дзьвесьце
І загадайце з малою хуткасьцю везьці,
І ля ўваходу Крамля пастаўце,
Каб помнілі ўсе да спатолі
І заснуць не маглі ніколі.
Пан Прэзыдэнт...

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

* * *

Засьвяціўся прыгожа вясновы дзянёк,
ды падуў раптам вецер з усходу:
неба хмарамі спрэс зацягнуў, прывалок
халадэчу на першыя ўсходы.
Дзень і ноч лупіць дождж,
па зямельцы б'е сьмерч,
разьвязло, не прайсьці, пуцявіны,
і усхліпы дажджу мне прынесьлі скрозь ноч
прычытаньне матулі-Радзімы:
«Гора, гора! Манкурты мяне прадалі.
Ці распраўлю калі свае крылы?
Прышлы люд з дапамогаю дзетак маіх
мне заўчасную рые магілу.
І ня дождж гэта. Не! Гэта сьлёзы мае,
крыўда, роспач зьнясіленай маці.
І ня воблакі, не! Спавівае мяне
чужароднае мулкае плацьце!»
Доўга слухаў я горкую прытчу дажджу,
грукат цемры у дзьверы і вокны,
дзікім болем у сэрцы сыноўнім адчуў —
адраджэньне пад мечам Дамокла.







* * *

Прамяністым раем чыстым
сьніўся нам наш Край айчысты,
а прачнуліся: над Краем
сьцяг Люцыпара лунае.
Чорт ятрысты, дух нячысты
на сьвяты наш Край айчысты,
на Хрыстовы сьцяг з Пагоняй
ланцугі наклаў сягоньня.
Хоць свабода зруйнавана
і над намі здань тырана,
але верма: час настане —
духу тут яго ня стане!
Хутка мы ізноў разгорнем
волі сьцяг — штандар з Пагоняй,
Край сьвяты, наш край айчысты
мы ад нечысьці ачысьцім!

* * *

Па белым, па сьнезе — палоска крыві,
а можа пялёсткі хто ружы раскідаў.
Прыгожы, як кветка, і вечна жывы
сьцяг крыўскі, Вітоўтаў, Давыдаў.
Ён — сьведка далёкіх і значных падзей
у водблісках вогненнай рыцарскай славы,
надзея для многіх мільёнаў людзей,
апора і сымбаль дзяржавы.
Булатам зьвінела, курэла зямля,
чужынцы ішлі, і баі не сьціхалі,
мэлёдыю бітвы ў руках каваля
ліцьвінам мячы засьпявалі.
«Са сьцягам сваім неўміручыя мы, —
казалі яны перад боем. —
Загіне хто з нас — шлях да раю прамы,
а вернецца — будзе героем».
Імклівай Пагоні ня сьцішыцца бег,
наш сьцяг у стагодзьдзях лунае,
прыродай штогод ачышчаецца сьнег,
а колеру кроў не мяняе.







* * *

...Змые пыл, жыватворным напоіць —
ажыве, расьцьвіце, усьміхнецца...
Неспадзеўкі раскажа пра тое,
што драмала і ў думках, і ў сэрцы.
Прынясе цёплым ветрам здалёку,
зьператканых праменьнямі даляў,
бусьлянятак няўрымсьлівых клёкат,
перазвоны крынічных крышталяў,
шапаценьне вярбы, плёскат хвалі,
шолах лоз, асакі і чароту.
І трывогі аціхлі, апалі,
разам з рэхам апошніх грымотаў...
Прасьпявае зусім нечаканым,
дзень будзённы, як сьвята, расквеціць.
І зашэрхнуць, загояцца раны,
і ня будзе ўжо болю на сьвеце,
страт, нападаў, гвалтаў і боек,
ганьбы нават нязначных падманаў.
Неўпрыкметку пасохне благое,
і ачнецца амаль беззаганны
ціхі вечар пасьля навальніцы
над табой, над дарогай, над Краем.
Недзе чуў пра такое... Як сьніцца...
Што ж, бывае.

* * *

Дожджык. Люд ідзе з работы.
Раптам бачу, быццам сон,
Пасярод вясновай слоты
Бел-чырвоны парасон.

У гуморы з той прычыны,
Нібы ведаю здавён,
Усьміхнуўся да дзяўчыны,
Што трымала парасон.

Ну якія, браце, гульні?
Проста сонейка ўзышло,
Сярод шэрасьці агульнай
Разьвіднела, расьсьвіло.

Хто мінае, але хтосьці
Паглядае ёй усьлед —
Не адменіць прыгажосьці
Ні пагроза, ні дэкрэт!

Бо яна прыйшла ня ў госьці —
Працаваць ёй тут і жыць,
І ня ў стане прыгажосьці
Цемрашал забараніць.

Дожджык скончыўся раптоўна,
Паглядзеў я наўздагон:
Не схаваўся над натоўпам
Незалежны парасон!

Не зьнявечаны зьнявагай,
Нібы сонейка ў руках,
Дзеўчына нясе з павагай
Бел-чырвоны-белы сьцяг.





Закахана і з надзеяй
Я гляджу дзяўчыне ўсьлед.
Спакваля я разумею —
Прыгажосьць ратуе сьвет!

* * *

Не,
я не памёр,
я проста ляжу
ў труне.
Я яе прымяраю
наяве і ў сьне.
У труне —
не ў турме,
пакуль яе века
не прыбіта цьвікамі,
пакуль не плюецца зямлі камякамі
рыдлёўка,
даданая нечымі спрытнымі рукамі.
Ляжу ў труне.
Не.
Я не памёр.
Я проста ляжу.
Я яе прымяраю.
Ды не,
яна ня надта ўтульная —
дамавіна мая.
Не раскінеш рукі,
лежачы ў ёй,
ушыркі вольна.
Не пачуеш гукі,
якімі пачынаецца дзень
зранку
павольна.
Дый
калі неўзабаве
захочаш прагнаць адзіноту,
ды адчуць дзявочага цела пяшчоту,
тое нязручна
будзе,





бо
не газападобныя мы —
людзі:
цесна
будзе
двум
целам
ляжаці,
кахаці.
Не,
труна —
гэта не для мяне,
гэта для Езуса маці.
Дый
навошта мне
дом —
дамавіна тая,
калі памру я.
Не.
Калі памру я,
спаліце мяне,
крэмуйце мяне,
бо не хачу я,
каб праз стагодзьдзе
па мне прайшлі бульдозэры —
таго ня будзе!
Таму —
спаліце
мяне,
крэмуйце
мяне.
Няхай
я ператваруся
ў дым
чорны

ды попел
шэры.
А потым
той прысак —
мой прысак —
няхай нясе Сож,
а там і Дняпро,
а далей я стану
морам Чорным.







* * *

Чалавек ідзе па сваім жыцьці,
Несучы асьцярожна шалі
Сэрца, і раптам у забыцьці
Падае. Яму немінуча балюча,
Баліць душа і не ад мілосьці,
Косьці баляць меней.
У задуменьні чалавек
Кладзецца, дзе давядзецца,
Пляшка віна, яна дапамагае.
Ён кладзецца на падушку
З саломы ці ў абдоймы
Паветра ды пакрыёма адплывае
Ад цела свайго зьняможанага
І сьпіць субожана, адпачывае,
Не зважаючы ні на што. Ды душу,
Сябры мае, паверыць прашу,
Не ашукаеш, яна ўсё такая ж,
Баліць і баліць. Чалавек
Скружняецца ў водах сну
І апускаецца ў прадаўніну,
Апынуўшыся ў найглыбейшых
Глыбінях матулі. Цёмна,
Усе паснулі — чалавек сусьветным
Досьведам дзеліцца з досьвіткам.
І гэта ўжо ня тое, што
Раней было, я не магу болей
Знайсьці спакою
Той ласкавае ночы — болей
Нічога няма. Дарма шукаю.
Камень паветра падае на мяне
Ці гэта я,
Уміласьціўлены, падаю на яго?
Балюча, сябры мае, падаць вучыцца,
Балюча й гэтай вучыцы,

Што душою завецца нявінна,
Балюча —
Бесьперапынна. Я сьпяваю. Ці гэта
Плач? І ўсё ж наўзнач буду сьпяваць
Галасьней і галасьней
У несуцешнае скрусе
Песьню болю
Чалавека, які дадому вярнуўся,
Калі дома няма ўжо болей.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





*Анатоль Майсеенка*

* * *

Я не бываў ні ў Рыме, ні ў Парыжы,
І хто б пра веліч іх не гаварыў —
Мне мой узгорак,
Ад прыпёку рыжы,
З маленства вежай Эйфэлевай быў.

Гляджу на сьвет
Праз вокны роднай хаты,
І чутна мне,
Чым дыхае зямля.
У воку ўсё:
Агонь зары крылатай,
І плач старых,
І ўсьмешкі немаўлят.

Здаўна мне блізкі
Рык кароў на пашы,
Далёкі Месяц,
Што на ўсіх адзін.
Таксама бачу,
Што уладаў нашых
Рым не цярпеў бы
Болей трох гадзін.

Тут дабрадзеяў плойма зашаптала:
«Ня руш уладаў,
трынькай пра Парыж,
каб іх свая
кашуля не чапала,
іх не чапай,
бо без агню згарыш».

Сьцяг адмысловы
Вецер злосна хвошча...

Вы зразумейце
Сорам мой і гнеў —
Сягоньня сам
Спалю сябе на плошчы,
Каб заўтра
Мой зямляк паразумнеў.

Ня буду жыць
Сьляпым віхлястым кротам,
Узгорак свой
Нікому я ня здам,
Мне без Айчыны —
Як пчале бяз сотаў,
Ці аднакрылай птушцы —
Без гнязда!







* * *

Ці дажынкі тут, ці недарод,
ці парлямэнт гамоніць, ці соймы,
пхнецца ранкам на працу народ,
едзе сумна, нібыта на бойню.
А пад вечар народ будзе піць,
смак «чарніла» падасца салодкім,
хто зь іх марыць, каб яхту купіць...
Яхту?.. Можа гумовую лодку?..

* * *

Пакуль мы апошнія, нам загадана
не паміраць пад свабоды абломкамі,
вочы, дарогай сівой разьвязаныя,
неба асьлепіць ураньні аблокамі.
Новая лінія — шнар на далоні —
наканаваньне скасуе паснулае,
белыя рэкі вернуць з улоньня
нашае паза- ці проста мінулае.
Хай, зьведаўшы кошты,
яны не прачнуцца,
жыцьці падзеляць на кадры адзьнятыя,
спаліўшы паперу, радкі застануцца,
вечным гранітам нябёсаў прынятыя.







* * *

На мітынг трапіў я якраз
у той гарачы самы час,
калі разгон рабіў «спэцназ».
Вядома ж, як і іншым, мне
дубінкай лупцанулі па сьпіне.
Калі б ня даў адтуль я ходу,
пазнаў бы больш што пра свабоду.
А мітынгу таго арганізатары
свабоду пазнавалі ў ізалятары.

*Тацяна Цьвірка*

* * *

На золаку па лузе-дыване
зьбіраю водар зёлак самы першы,
як хораша, як лёгка зараз мне,
пачуцьці, бы расінкі, сыплю ў верш я.
У спадарожніцах — трывога дзень у дзень,
і крыўда — у сяброўках — не адбіцца,
каб не пакутаваць, блукаць, як цень,
я вершам паспрабую падлячыцца.
Аднабаковасьць, шэрасьць ад быцьця
і, як бальзам гаючы думкам, справам, —
мой верш, наіўны часам, як дзіця,
а то свабодны, ўпэўнены і сталы.





*Віктар Худавец*

* * *

Я шукаю цябе, я шукаю цябе...
Толькі рэшткі знаходжу на ўзбочцы дарог...
Адышла ты ў нябыт? Хто цябе не зьбярог?
Маё сэрца сьцінае і смутак, і жаль,
а наўкол каршуны правяць жудасны баль...
Дзе ж знайсьці мне твой сьлед, радзіма мая?
Туманамі чужымі пакрыта зямля,
тваім лёсам ілжывыя правяць сыны,
прыдрамала, магчыма, і сьніш цяпер сны
пра сыноў беларускіх, дачок сінявокіх,
пра чыстае неба над полем шырокім,
пра дзетак шчасьлівых, заможных дзядоў,
дзе на мове тваёй так шмат галасоў,
дзе праца і песьні твой гонар куюць,
дзе сьцяг беражліва адвечны нясуць,
дзе хлопец вясковы пад знакам Пагоні
твае сьцеражэ падасьпелыя гоні.
Ты адклікнісь, радзіма мая,
тваё сьветлае ў сэрцы нашу я імя,
голас рэхам ляціць па палях і лясах...
У якіх у выгнаньні блукаеш краях?..
Адшукаю цябе. Адшукаю цябе!

* * *

ты прапануеш занадта мізэрныя меры
супроць забруджанага фону апраменьваньня
каб дакладна сьцерці ўражаньне
на доўгі час ад хваробы
але яны як слабыя лекі
раструшчаныя жыцьцёвыя спробы

нягледзячы на вогненны гарачы клубок
халодны ў голада суп надзённы
ты кажаш даступліва што сэрца
саступлівае
ды страх электронны разыходзіцца хутка
як чутка аб інфляцыі

пярэчлівасьць сябе ахоўвае сама
гэтым часам выйсьця сьвятлу няма

супроць

зноў і зноў не пакінуўшы ценю
белае мігценьне рассыпана нікому
ня бачнае

ты кажаш што сёньня прыборамі
вымяраецца чорнае гора
і толькі ў вымярэньні пачуцьцяў
адбываюцца малашкальныя адхіленьні

затое і тут і там намеры

супакоіць зьнявер'е

ня толькі страх працу пасылаў сюды
каб выдаляць цяжкія сьляды няшчасьця





апраменьваньня не паменела
яно засталося

як гэтага можна было б чакаць ад сусьвету
плоскага

((чаго табе не стае?))

((альбо)) толькі ў некалькі квадратных мэтраў
сьцяны
хай цябе не заслоніць яна
ад чалавечае ўсёбезаглядлівасьці не ў
прымусе

за свабоду людзей у Беларусі

Пераклад Рыгора Барадуліна

*Ліля Мялешка*

* * *

Няма каляін, утравела дарога,
вятрыска ліхі зло на вёскі пагнаў,
на весьніц абдымкі, на ходнікі траў,
на шчырыя ўсьмешкі шчарбатых парогаў.
Цямнеюць падстрэшшы каморак і сенцаў,
слабеюць правіслыя паскі платоў,
і локці варотаў, і вочы акенцаў,
і плечы гарышчаў, і жылы дратоў.
Сьціскае жытло запусьценьне, як краты,
ні дзеці, ні ўнукі ня едуць сюды,
буяюць наўкола кусты лебяды,
чарнеюць ад гора асеўшыя хаты.
Пакорна маўчаць, дапамогі ня просяць,
я ведаю, горкі іх лёс не міне:
спачатку бяз радыё абезгалосяць,
а потым асьлепнуць бязь лямпы ў акне.





*Іван Чыгрын*

* * *

Ня проста верыць нам ва ўсеагульнасьць мужнай справы,
то бок у непадлегласьць нашае з табой дзяржавы,
стварылася такая ажно сытуацыя,
што на малекулы растрэсваецца нацыя.

Калі не перамрэм паадзіночку — створым рай,
ў якім, калі ня хочаш вольным жыць, то памірай.
Надзея ёсьць, што аб’яднаемся ў агульнай справе,
што будзем жыць калісьці ў вольнай, у сваёй дзяржаве.

*Альдона Наўчанкова*

* * *

Гадоў можа дзесяць таму, ці то болей,
ня спалася ноччу ад суму, ад болю,
гартала я зборнік бяссоннай душы, —
як раптам далёкі ваш голас ажыў.
Было ў ім усё: спадзяваньне, каханьне,
і шчырая споведзь, і радасьць жыцьця.
Пазнала сваё ад чужбіны вяртаньне,
бо быў у тых вершах радок адкрыцьця.
І мне ўжо убачыўся лес у сумётах,
і вашай лямпады сьвятло угары,
да раніцы сьветлай — работа, работа,
як быццам на вогнішчы сэрца гарыць.
Гарэла душа і плыла за аблокі,
а потым зьнясілена падала ніц,
і чуўся ваш голас такі адзінокі,
праўдзівы і моцны ад родных крыніц.
Шчасьлівых паэтаў сустрэнеш нячаста,
я знаю, няпраўдай ня трэба грашыць,
няхай тое полымя ваша ня згасьне,
што Бог запаліў у бяссоннай душы.





*Багдан Арлоў*

* * *

Выбег ты із шэрых туманаў,
спыніўся,
фыркаючы ды азіраючы навакольле,
нібы шукаючы дзікім паглядам
таго, хто павінен сядзець на табе ды
ў бокі балюча прышпорваць.

Са спалоханай радасьцю ўцягваеш
ты ноздрамі водар крыві...
Няўжо вольны я? — думаеш. —
Сяброўская куля з варожае стрэльбы нарэшце
дала мне свабоду. Так проста!

Заіржаў ды шалёным галёпам
ты зьнік у тумане лесу начнога.
Конь бязь вершніка.
Сымбаль падманнай свабоды.

* * *

Тонкім лісточкам з праслойкаю сала
лустачку хлеба, як сьцяг, накрывала,
тут жа газэта каля бутэрброда:
мо «Наша Слова» ці «Наша Свабода»?
Побач з паліцай, дзе пляшка, кілішкі,
здымак вісіць — Багушэвіч Францішак.
Чырвань узьнікла на белай шпалеры —
сонца адбітак... Тут рыпнулі дзьверы...
Мокры ад поту і з гучным дыханьнем,
бачна па твары, што зьдзейсьніў жаданьне,
хлопец пацiху здымае кашулю,
крывападцёк плечы раптам адчулі...
Горад начную скідае дрымоту,
брук выдае міліцэйскія боты.
Хто ж іх ураньні пазбавіў спачыну?
Комін вышэзны таму ёсьць прычынай,
бельлю палотнішча ўверсе лунае,
быццам бы кроў там на ім выступае...
Дзень пачынаўся сьвяточным настроем,
воля пакуль была толькі у мроях.







* * *

І ўзыдзе прыгажосьць
над горадам і сьветам,
над попелам і жарсьцю,
над верай і сумненьнем.
І ўсе раптоўныя «няўжо»
зьнямеюць перад гэтай ласкай
і аддадуць яе вяршыням
кароткі момант разуменьня.

І спраўдзіцца твой знак
наконт лагодных рухаў,
наконт ашчадных словаў
над сіняю прасторай.
І гэта будзе так,
як вольных сэрцаў грукат,
упэўнены, як сьмех
і як палёт кандора.

Эрык Чаэт

* * *

Калі б вольнымі мы былі,
мы любілі б сябе, плянэту нашую ды адно
аднаго —

калі б мы не былі пад’ярэмлены
тым, што думаюць іншыя й чаму нас іншыя
вучаць верыць,
калі б не баяліся мы свае недахопы ведаць
і змагацца за тое, каб іх пазбыцца,
калі б не былі такімі няўпэўненымі, каб верыць
хлусьні патуральнай тых, хто корчыць зь сябе
нашых лідэраў,
калі б ня трапілі ў пастку памкненьняў таму,
чым валодаць ня можам
і не згубілі б здольнасьці шанаваць тое,
што маем,

калі б мы толькі не рэагавалі на ўсё адрознае
ад таго,
што ўмушчыла нас чакаць, як нейкае войска
захопцаў,
і нашыя прыгнятальнікі быццам бы насамрэч
тыя самыя абаронцы, якімі прыкідваюцца —

і калі б мы толькі пераконвалі сябе
ад страху перад тым, што нам давялося б зрабіць,
каб дазволіць сабе даведацца праўду —
што нас не падуладзіла й не паярэміла тое,
што валадарыць над намі й нас паярэмлівае.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





Сяржук Сокалаў-Воюш

* * *

Было напачатку слова,
І слова было ў Бога,
І словам тым адмысловым
Бог надзяліў нямога.

Нямы, атрымаўшы слова,
Пачаў прамаўляць да сьвету
Няўклюдна і дэбілова,
А горай за ўсё — бяз мэты.

Доўга Ўсявышні слухаў,
Песьціў надзею й веру,
І ў спадзяваньні руху
Даў траскуну паперы.

Траскун, ухапіўшы пёрка,
Прамовы лупіў у стосы.
Але, што найболей горка:
Паклёпы стругаў і даносы.

Доўга ў шляхох імглістых
Чакаў Усявышні згоды,
І вымысьліў палеміста
Ды даў яму сьвет свабоды.

А той пайшоў па галовах,
Лашчыў і сек з парогу...
У Бога было тое слова?
Дык вернем жа слова Богу...

Ніна Мацяш

* * *

Заручаная даўніною
з тутэйшым кутам, як і мы,
шчыруе ластаўка вясною,
адпрэчваючы ўціск зімы.
Шчыруе ластаўка ўсё й лета,
ці градабой ці сухавей,
дзеля гнязьдзечка,
дзеля дзетак,
як мы — дзеля сваіх дзяцей.
Каб перад зольлю непазьбежнай,
перад глухой навалай хмар
загартаваліся належна
моц крылаў,
дух,
любові дар.
І птушачцы малой вядома,
што нам сьвядома трэба знаць:
любоўю толькі можна стому,
жыцьцё і скон свой апраўдаць,
лучвом нязрадліва сьвятлістым
з абжытай родам стараной,
дзе восень сьпелым вольным лістам
кружляе ўжо і нада мной.
Ах, ластавачка…





Аўдзей Дабрадзей

* * *

Парушыў — не парушыў:
«Мянты» дубінкай б’юць.
«Мянтам» кусаюць вушы.
«Мянтам» у твар плююць.

«Мянтам» няблага плацяць.
«Мянты» хабар бяруць.
«Мянтоў», як цюцькаў, гладзяць.
«Мянтоў» ва ўсё суюць.

«Мянты», як і аўчары,
З напысьнікаў глядзяць…
Звыродзьдзі янычараў
На карку ў нас сядзяць.

Народзе мой драмае,
Як у пячоры леў.
«Мянтоў» кляне і лае
За іх «мянтоўскі» гнеў —

Крывападцёкі, тромбы,
Паломы рук і ног…
«Мянты» ня людзі — зомбі:
Іх пакарае Бог.

*Вольга Андрыеўская*

* * *

На шляху туманоў бэнзынавых
Заблукалі, ціха згубіліся
Душы іхныя, кроў бязьвінная,
Што пралілася ды забылася.

На шляху туманоў бэнзынавых
Нам ніколі больш не спаткаецца
Тое штосьці, што змусіць каяцца
Ды хавацца пад першым інеем...

На шляху туманоў бэнзынавых
Нас вітае цемра халодная,
Нас пільнуюць цені за сьпінамі,
Бо даўно ўжо яны свабодныя.





*Галіна Нупрэйчык*

* * *

Прачынаецца ціхае возера,
зьзяе срэбрам раса на траве,
галава захмялела ад водару,
што над роднай сялібай плыве.

Водар бэзу зь дзяцінства далёкага,
ён плыве па жыцьці скрозь гады,
штосьці сьветлае, штосьці высокае
засталося там жыць назаўжды.

Льецца ў парку птушыная музыка,
і таполі шапочуць ліствой,
вершаліны ўзьняліся да воблакаў,
а у кронах адвечны спакой.

Час імкліва бяжыць і мяняецца,
што ні дзень, то ўсё іншыя мы,
толькі з выраю птушкі вяртаюцца
кожны год пасьля доўгай зімы.

Толькі сонца, з-за лесу ўзыходзячы,
рассыпаючы промні ў траве,
шчодра дорыць цяплом, сьпелым коласам
нашу вёску ды ў ёй і жыве.

Толькі сэрца ў чаканьні хвалюецца,
падганяе, сьпяшае дамоў,
ціхі голас сумленьня мне чуецца:
«Не цурайся сваіх каранёў!»

*Карла Раньї*

* * *

Сьпяваў лятункі ды зь іх
ён рабіў матылькоў шматкутных
праз позірк набліжаны беспакутны
рухамі дыханьня й забыцьця
імгненьнямі нявыдуманага жыцьця

У панараме якую сьвятло натхніла
на свабодзе танцуюць крылы
крылы балярынаў у скоках іскрыстых
крылы быццам плямы пажараў
падпаленых паглядамі фараў

Вецер разносіць пахі лёткія
нюх ловіць пяшчотна-салодкія ягоныя
павевы дзе кожны рух стварэньня
поўняць сьпевы каменьня крохкія:

Два крокі да возера

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





*Надзея Царыкевіч*

* * *

«Усё пройдзе», — гаворыць мне маці,
«Усё пройдзе», — трымаюць сябры.
Усё проста, ды што ні казаці,
Мы самі жыцьця ўладары.

І робіцца брыдка і сумна,
Калі мне гавораць, як жыць.
Для вольнай натуры няможна
Заўсёды аднолькавай быць!

У марах — я белая птушка,
Шукаю краіну сьвятла...
Усе пройдзе, палётаеш крышку
І вернесься да ўладара.

*Юрась Пацюпа*

* * *

— Пудзіла, пудзіла, што ты вартуеш?
— Тайну дзяржавы, ня бачыш — замок!
— Зрэбнае пудзіла, хлеў твой пустуе,
а гаспадар задушыўся знарок.

Люду анучамі служаць штандары,
золата трону паела іржа,
цьвільлю па сьценах поўзаюць мары,
рэчы, як войска, упокат ляжаць.

Толькі і скарбаў тваіх — тыя дзьверы,
стрэльма з ручніцы ў іржавы замок!
Пудзіла ў неба глядзіць зь недаверам,
Бог рытарычнай фігурай замоўк.





*Аляксей Марачкін*

* * *

У хаце пад лавай — сякера,
ў чалесьніку — качарга,
на покуці — цмок вусаты
і цмакалятаў чарга.

Бяззубыя, шэрыя здані
паўзуць да яго, вусача,
праз шчыліны тэлескрыні
даверлівага гледача.

На печы — кажух заспаны,
пад печчу — сваяк дамавік,
цмок з багны — у хаце за пана.
Да гэтага звыкся, прывык.

Штодня ён прарочыць, вяшчуе.
Рагатае пекла — ня рай.
Хто чуе яго, хто ня чуе.
Даводзіць: «Мяне выбірай.

Мяне. Маю чэлядзь... навечна.
Хоць з багны, ды ваш я кумір.
Я сьціплы... Я шчыры, сардэчны.
Са мной будзе згода і мір».

Я ведаю, зноў ашукае.
Трымаюся, як мага.
Ад роспачы і адчаю
пад лавай сякеру шукаю.

Як стрэльба, стаіць качарга.

Віслава Шымборска

* * *

Гляньце, якая заўжды яна спраўная,
як добра трымаецца
у нашым стагодзьдзі нянавісьць.
Як лёгка бярэ высокія перагароды.
Як гэта няцяжка ёй — скочыць, дагнаць.

Не такая, як іншыя пачуцьці.
Старэйшая і малодшая ад іх адначасна.
Сама нараджае прычыны,
якія клічуць яе да жыцьця.
Калі засынае, дык ніколі сном вечным.
Бяссоньніца ёй не адымае сілы, а дадае.

Рэлігія не рэлігія —
абы ўкленчыць на старце.
Айчына не айчына —
абы сарвацца да бегу.
Нязлая, і справядлівасьць па першасьці.
Потым ужо сьцігае сама.
Нянавісьць. Нянавісьць.
Твар ейны скажае грымаса
экстазы мілоснай.

Ах, тыя іншыя пачуцьці —
хірлявыя, вялыя.
Зь якога гэта ж бо часу братэрства
можа разьлічваць на тлумы?
Спачуваньне ці хоць калі-колечы
першым дайшло да мэты?
Роспач колькі ахвотных парывае ўсьлед за сабой?
Парывае толькі яна, якая ведае сваю справу.

Здольная, кемная, вельмі працавітая.
Ці трэба казаць, колькі склала песень.





Колькі старонак гісторыі пранумаравала.
Колькі каберцаў зь людзей параспасьцірала
на колькіх пляцах, стадыёнах.

Не хлусема сабе:
патрапляе ствараць прыгажосьць.
Цудоўныя ейныя полыні чорнай ноччу.
Выдатныя клубкі выбухаў на ружовым сьвітанку.
Цяжка адмовіць у патасе руінам
ды ў грубаватым гумары
дзёрзка тырчмячай над імі калюмне.

Пераклад Ніны Мацяш

*Анатоль Вярцінскі*

* * *

Вялікія думкі —
як сонца з-за хмар.
Цаню я іх яснасьць і напорнасьць:
«Сон розуму нараджае пачвар»,
«Дрымота душы спараджае подласьць»...
Душа ня можа ў спакоі гібець.
Ёй трэба рухацца, плакаць і пець,
палаць агнём, струменіць ракой,
ноччу стагнаць, сьмяяцца ранкам,
птушкай ляцець, біцца падранкам...
Закон існаваньня душы — неспакой.
Трэба яшчэ ёй, душы людзкой,
любіць і верыць, быць дасканалай,
поўніцца музыкай ідэалу...
Закон існаваньня душы — неспакой.
Трэба яшчэ ёй, душы людзкой,
жыць па сумленьні, праўдзе і волі,
балець краіны роднай болем...
Закон існаваньня душы — неспакой.
І ў гэтым яшчэ адна з зарук,
што адбудзецца нашае адраджэньне,
што ў справы нашай няма сканчэньня, —
ёсьць толькі рух, ёсьць толькі рух.
І — мы выходзім. І — мы ідзём.
Сталы і юны, белы і русы,
бацька з сынам, маці зь дзіцём,
адзін з адным... Ідуць беларусы!





*Кастусь Жмінько*

* * *

Мы — мінулыя, мы — былыя,
мы — гісторыя, часу знак,
выпадаем з эпохі так,
нібы сосны з бароў сівыя.
Разарвалі наш лёс вятрамі
не па-людзку шугай-гады,
і ў пякельных пластах нуды
не рубцуюцца крыўды раны.
Скрозь нягоду ледзь-ледзь зіхне
і хаваецца коньнік белы.
Дзе вандруеш, мой прашчур сьмелы,
з воляй, што даравана мне?
Паланялі ня раз вякі
то падманам, а то астрогам.
Зноў пакліканы Краем, Богам
выбіраемся напраскі.

*Давід Эрнандэс*

* * *

Калі дарога завершыцца стомлена
і вочы твае прымружыць захоча змора
недзе на ростанях вызваленай тваёй радзімы
прыгадаеш гроты Эгейскага й Сарагасава мора
пляжы Чырвонага ці выспаў Азорскіх
і мілосьць высокую
падзеленую з караблямі й аблокамі
пад небам Арктыкі й туманамі Поўначы
ў пустэльнях Поўдня дзе брыз
да сьвітаньня расчульвае поўня

Там як кудмень ішоў з табою ўспамін
пра тваю радзіму рабыню
таму ніколі
не забывайся на мэлянхалічны водар магноліяў
на вільгаць жарсьці ў прасторы ночы
пакліч мяне ціхім голасам
патушы сьвятло кволае апошняе зоркі
на нябёсах якія прытулак знайшлі ўва мне
і ня плач і адчай не будзі глухі
не шкадуй што натрапіліся такія шляхі

Калі вернесься з абсурднай вандроўкі па сьвеце
галаву пакладзі на сьцёгны радзімы
і прыме радзіма нерастрачанага сына
што на золку вяртаецца зь небыцьця
са свайго плыцьця супраць плыні

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





*Натальля Хрушч*

* * *

Учора — цемра, жах, пустэча,
сындром бясконцага чаканьня.
Сягоньня — жах, пустэча, боль,
сындром цяжкога прадчуваньня.
Заўтра — пустэча, боль, цяжар,
сындром нязьдзейсьненых жаданьняў.
А потым — сьвятло, адлюстраванае ў вадзе,
салёны вецер з вострым пахам ёду,
цяжар, ля ног упаўшы на зямлю,
свабода, свабода, свабода…

*Мірон Вольны*

* * *

Мы ідзем, беларусы, зь сівой даўніны
на заручыны зь яснаю доляю,
на шляху да свае пераможнай вясны
мы любыя нягоды адолеем.
Беларусь, свабоду здабывай,
Божым шляхам кроч наперад сьмела,
дух гартуй народны і яднай
нас пад сьцягам бел-чырвона-белым.
Каб шчасьліва зажыў беларус-гаспадар,
каб зь бядою мы болей ня зналіся,
ахвяруем сябе на народны алтар,
за свабоду і праўду змагаемся.
Гэй, за лёс, гэй, за край, паўставайма гарой,
хай развогніцца сэрца няўцешнае,
хай абудзіцца ў кожным сьвяты і герой,
хай жыве Беларусь незалежная!





*Вера Бурлак*

* * *

Прывітаньне табе, РА.
У нашым горадзе,
Добрым месцы,
Не сказаць, каб чорным, але
Дзе штодзень па радыё кажуць,
Нехта робіць чорныя справы
І ня робіць чырвоных спраў,
Што наогул ужо займальна,
Дзе штогод бывае зіма
(І па радыё кажуць, робіць
Свае белыя справы), нехта
Выклікае мяне да дошкі.
Мне патрэбна ісьці па кветках,
Што рыпяць пад нагамі, бо
Яны падаюць зь неба, калі
Нехта робіць белыя справы.
— Не падкажаце, як прайсьці
Да бліжэйшае дошкі?
— Блэкборда?
— Я ня ведаю, блэк ці ўайт.
Гэта вельмі істотна?
— Наўрад ці.
Скрэташ лефт, потым скрэташ райт,
Потым проста, проста, проста,
Па сонцы тварам на ўсход.
Па чырвоных плямах на сьнезе
Прасачыце мой шлях. Па ружах
Непрытульны сабака Блэк.
Блэк ня ведае месца і часу,
Толькі пах і сьлед. Па сьлядах
Ён, напэўна, нарэшце знойдзе
На чырвоным сьнезе
                    чорную дошку
Зь белым надпісам РА...

Я заўважыла ў нашым горадзе,
Добрым месцы, між іншым, хоць кажуць,
Што бывае і лепш, паўсюль:
ГастРАном, рэстаРАн, гаРАж,
КРАма, РАдыё, пРАмтавары,
РАзьліковы РАхунак, РАда
ВэтэРАнаў, аэРАпорт,
ДРАматычны тэатар, кантоРА
Па баРАцьбе з таРАканамі
Пры дапамозе хлёРА.
Ahora, vamos!* Хто скажа,
Што ў нас ня сонечны гоРАд?
Гэта будзе памылка пяра.
Прывітаньне табе, РА.

* Ну, паехалі! (ісп.)







* * *

Даль ізноў зьвініць, зьвініць.
Пакідаю — не пакіну
ўсе чароўныя ўзгоркі,
усе забытыя падзеньні
зь мяккай прагай летуценьня,
усе забытыя ўзьлёты
зь лёгкім сумам па трызьненьні
забываю — не забуду
разьвярэджаную даль.

Даль зьвініць — я буду жыць.

* * *

Мы эмігранты
каралеўства, дзе смутак наўкол,
сэрцы адзінокія служаць Богу,
спыніліся радасьці куранты,
сьлязою струменіць жвіровы дол.

Мы эмігранты
царства пакутаў, песьню
абуджаем сярод застылых скал,
воля-гарэза чакае дзесьці,
думкі свабодныя ня церпяць зман.

Мы эмігранты
княства слаўнага ваяроў,
дзе продкі пад малінавы бой званоў
скінулі хамут крыжакоў
вастрынёй палашоў.

Мы эмігранты,
шчырасьці верым зноў
і гамонім, пазіраючы на час:
з чужыны вяртаемся, браты,
будаваць шчасьця палац.







* * *

Мы бачылі ймглу каменную
крышталь вады тут жа пад вясёлкай
вечнасьць казалі мы — удых і выдых
гарачае неба поўдня
і сьнягі ледавікоў
а паміж імі Твая крыніца Пане
і лясы
лясы поўныя воч што са сховішча зіркаюць
зь ямаў правалаў альбо з-па-над дрэваў
якім спрыяла шчасьце

Ніхто дрэваў ня сек некаторыя нават
сягалі карэньнем да сьвятых людзкіх мошчаў
і значыць былі сьвятыя

Ноч як пляма глею на шыбіне
невядомая
ня сьцёртая Боскім рукавам
поўная воклічаў сьмеху шэлесту
траваў сплеценых у памост над багнаю
і ценяў што тупаюць зграбнымі ножкамі
ці тых што паўзуць сьлядамі кольцаў
да рэчкі

Аж да народзінаў новае песьні
новай малітвы што сьцелецца берагам
ад дрэваў чорных
да сполаху полымя
да чоўна ўрэшце на якім плыў чалавек
зярнятка ў шкарлупіне арэху
зь вяслом — адзіным правадніком — у руцэ
і голасам паланёным у горле —
зноўку ўдых і выдых

Шляхам паўночным
яшчэ бязвольна й безь ніякага шолаху
вядзе толькі рэчка хваляй між дрэваў
няможна сьпяваць голас у лёгкіх прападае
і мружацца вочы вандроўцы:
каб толькі дня дачакацца

Збой жывёлаў сунецца берагам у цішы
да сьлядоў чалавечых і рэшткаў вогнішча
надзьмутыя ноздры хапаюць паветра
яшчэ ўдых
яшчэ выдых
што нясе з сабою нясьмелы той пах —
прадказаньне пажару новага альбо сьпеў
ці сьмерць гэта ці новы хаўрус
ах каб тое быў канец сэзону ловаў

— Халодны вецер я шлю табе Адальбэрце
хоць і ня гэткі халодны як твой удых і выдых
у гэтай краіне цябе ўжо ніякая вера не сагрэе
і твая нават памацнее й зробіцца цьвёрдай
як дубу камель
я не адпраўлю сонца ў высылку
плыві сабе моўчкі на поўнач

Мы чулі
о сапраўды
усё далей і далей гукі песьні той самай
ад якой мякчэлі жалезныя вастрыі
і трушчыліся паверхні начыньня глінянага
то была наша песьня гэтая самая
што ўзьнікла ў горле вандроўцы запозна
мо было яе трэба пачаць раней
калі ты Пане даў нам удых і выдых
перш чым сьліна са сьлядамі крыві
здолела выйсьці з-пад вуснаў

*Пераклад Лявона Барычэўскага*





*Марыля Васючэнка*

* * *

Бел-чырвоныя хвалі
песьцілі зямлю,
на якой Яна ўзрасла.
Вершнік
аберагаў
Яе магутнае сьцябло.
Араты
абмінаў тое месца,
каб не зачапіць Яе.
Пясьняр
апяваў
Яе аксамітныя пялёсткі.
Мастак
натхняўся
Яе пахам.
Вернік
маліўся
на Яе лістоту.
А Яна
дарыла кожнаму
веру...

Але прыйшоў хам
і затаптаў Яе.
І хвалі пазелянелі,
бо Яе не было.
І вершнік
зьнік,
бо Яе не было.
І араты
кінуў барану,
бо Яе не было.

І пясьняр
кінуўся з выспы,
бо Яе не было.
І мастак асьлеп,
бо Яе не было.
І вернік
зьнішчыў храм,
бо Яе не было.
А хам
рагатаў,
бо Яе не было.

Аднак Яна,
неўміручая,
уваскрэсла.
І ўсё вярнулася
на свой адвечны шлях.
Кола замкнулася.
Толькі ў паэта —
абсмаленыя крылы.







* * *

Свабода ад чагосьці, свабода для чагосьці і свабода ў імя чагосьці — вось тры ступені разуменьня свабоды, паднімаючыся па якіх мы робімся ўсё больш свабоднымі... На трэцяй прыступцы больш за ўсё працы — ці не таму так мала па-сапраўднаму свабодных людзей?

Яны шчыруюць, быццам мурашкі, але не інстынкт, а Ідэя вядзе іх да Мэты.

Жыцьцё — доўгая пячора, але яна ўсё звужаецца, звужаецца... Яна ўжо драпае нам плечы, але ты свабаднейшы тым больш, чым далей прайшоў.

Алеся Дземідовіч

* * *

Зь неба ліецца дождж,
Кроплі сьцякаюць уздоўж
Цела, уздоўж сьцяны...
Волю нясуць яны!

«Свабода!» — у сэрцы стук.
«Свабода!» — гадзіньніка рух.
«Свабода!» — устань і кроч
За шкло, у вільготную ноч.





Васіль Бартлаў

* * *

Шэрым брудам зацягнула неба,
чыстае неба і сьветлыя зоркі,
у кожнай песьні чуваць рэха,
але добрых слоў там няма.
Стаў зялёным чырвоны сьвітанак,
сталі чырвонымі белыя аблокі,
зямля залілася крывёю ад ранаў,
а людзі сьвяткуюць над ёй перамогу.

Выратуй нас, белы анёл,
ахіні Беларусь,
запалі неба сьвятлом,
пакажы нам дарогу.

Бруд і кроў зьмяшаліся разам,
такога нідзе не знайсьці,
чуецца пах і колер заразы,
і яна пачынае расьці.
Яна паўзе па нашай зямельцы,
раскідваючы грахі,
зрабіліся жудаснымі нашыя песьні,
галоўныя тут халуі.

Выратуй нас, белы анёл,
ахіні Беларусь,
запалі неба сьвятлом,
пакажы нам дарогу.

*Аляксей Ганчук*

* * *

Мяне вучаць пляткаркі і тыя,
хто радзіму прадаў, абакраў,
у каго ўжо кішэні пустыя,
і ў каго на сьняданак ікра.
Пракуроры і судзьдзі зацята
кожны крок кантралюючы мой,
вучаць жыць безь віны вінаватым
і душу хочуць бачыць нямой.
Павучаньні зьлятаюць на вецер,
не трымаюцца злосьцю ў грудзях,
Усявышні адзіны на сьвеце
для мяне — пракурор і судзьдзя.





*Марыя Лук'яненка*

* * *

Рабінавыя гронкі позьніх слоў
Падфарбавалі выцьвілае раньне.
Але якая ў верасьні любоў?
Але якое восеньню каханьне?

Вандруе ў небе сонечны павук,
Цыруе легкаважныя цянёты.
А зь безыменных пальцаў нашых рук
Пярсьцёнкі ў вырай
                    паляцелі ўпотай.

І залаты прымроены спакой
Плыве, віруе
                    ды ня помніць броду.
Стаіць за Гераклітавай ракой
Рабінавая ноч маёй свабоды.

* * *

Рэзыдэнцыя прэзыдэнта —
недасяжная і важная.
Прысутнасьць ягоная
спавяшчаецца разьветраным сьцягам.
Ды дзесьці ў незьлічоных турмах
пад цапамі катаваньняў
зьняволеныя пісьменьнікі ня падаюць духам.
Як перапёлкі ў плеценых клетках,
перажываюць яны сваю лютаснасьць
у прысудах, якія гадамі доўжацца,
і мажліва гартаюць старонкі
пайкавай кнігі.
Галодныя пайкі скрозь,
павязкі на іхных вачох,
каб яны не маглі глядзець.
Гукі допытаў і катаваньняў,
праклёны, абразы брудныя
ламаюць іхныя косьці...
Целы звальваюць зноў у камэру перапоўненую.
Аніхто ня ведае, што ім сказаць давялося,
ім, заціснутым у ціскі лядовыя.
Бачылі вочы мае сьлёзы празь сьлёзы,
а язык вымаўляў словы, якія абпальваюць.
Калі справа ясная,
давайце скажам проста:
гэта не дыялёг каханьня й нянавісьці,
гэта ў чыстым выглядзе дзяржаўная тыранія
на сыстэмным узроўні.
Пашкоджаньне на пашкоджаньні,
удараў — легіён.
Ня падайце духам.
Тут можаце вы адказваць на пытаньні,
але там яны растлумачылі небясьпеку —
калі дэпрэсія — гэта затоены гнеў,





дык давайце выцягнем яго,
як хворы зуб мудрасьці
рукі дасьведчанага дантыста.
Калі быў бы я кнігай цытатаў
ці магнітафонам,
я перадаў бы вам іхныя сьмелыя словы,
болей чымся паэзію, чымся прозу,
але зараз, сканчаючы гэты верш,
я паціскаю руку вам, слухачу,
а яна не ў крыві.

* * *

Праходзяць дні, ўжо ткуцца-ткуцца годы,
а твар ня сохне — льюцца-льюцца сьлёзы...
Ах, чорны дні! Ах, дні нягоды!
Скажэце, белыя бярозы:
        «Дзе тата наш?
        Дзе любы мой?
        Дзе сыне мой?
Хто за краты забраў наш спакой?
Хто палоніў наш радужны сон?
Хто на рану насыпаў нам соль?
І пакінуў нясьцерпны наш боль?..»
        Дзейсьніцца, шырыцца, поўніцца ён,
        горкі плач Беларусі і стогн.
        Горкі плач наш і стогн. Плач і стогн.

Ратуйцеся, браточкі, ад навалы!
Яна пагрозна ходзіць — зухавата,
яна-яна раней нас напаткала,
шукала і знайшла — не мінавала,
а вашая чарга ня сёньня — заўтра,
у смак ўвайшла крывавая навала.

Плывуць-плывуць хвіліны жалю-смутку,
і не суцешыць горкі-горкі сьлёзы...
Ах, дні нягоды, дні пакуты!
Скажэце, белыя бярозы:
        «Дзе дзеткам тата,
        жонцы — любы,
        маці — сыне?»
А навокал халодная стынь
і жуда беспрасьветных праяў:
гэта так сабе — зьнік чыйсьці сын,
бо кагосьці чагось турбаваў...
        Хто? Хто? Хто?





Хто руку падымаў, эшафот уздымаў
на тату, на мужа, на сына?
Няхай Боская кара таго не міне,
ды зграя злачынцаў загіне!
        Хто? Хто? Хто?
        Бог ведае, хто!

* * *

Ты любіш паглядзець кіно,
Калі твая дзяўчына зла?
А мо сыграйма ў даміно,
Дзе можна забіваць казла?

Забі казла, забі казла,
Які табе зусім ня father.
Забі казла, забі казла —
Ён толькі бэсьціць вашу mother.

Радзіма-маці сьпіць даўно
З чырвоным сьцягам на балоце,
А ты усё глядзіш кіно
Ды пішаш брэх чужы на плоце?

Забі казла, забі казла,
Забі ў сабе раба істоту,
Усю забі прычыну зла,
Што дом твой робіць бы балота.

На той зямлі, нам Богам данай,
Расьце і хлеб, цячэ вада...
Дык чаму ж быць такой засранай
Чужая змушвае брыда?

Забі казла, забі казла,
Забі, хоць сын ты акупанта,
Забі, хоць здраду прынясла
Табе хлусьня чужых мутантаў.







* * *

Малю Цябе, Магутны Божа,
Бо як ня Ты, дык хто паможа,
Спашле ратунак на краіну?
Ратуй Айчыну, ратуй Айчыну.

Ратуй народ мой, Моцны Божа,
Ад раўнадушша, ад бязбожжа,
Каб прад тыранам ня гнуў сьпіну.
Ратуй Айчыну, ратуй Айчыну.

Хвала Табе і Твайму Сыну,
Што адзыскалі мы Айчыну,
Дык бабані нас ад злачыну.
Ратуй Айчыну, ратуй Айчыну.

Адзіны Бог, Сьвятая Тройца,
Дай паратунак ад забойцы,
Што руку ўзьняў для здрады чыну.
Ратуй Айчыну, ратуй Айчыну.

Магутны Божа, прабач як сыну,
Бо покуль жыў, пакуль ня згіну,
Маліць Цябе я не пакіну —
Ратуй Айчыну, ратуй Айчыну.

* * *

І доўгі час,
і вокамгненны час
нам дадзены ад раніцы да ночы,
і кожны з нас
здабудзе волю двойчы,
і двойчы згубіць волю кожны з нас.
Рака крыві за волю празь вякі,
калі і хто той волі меў даволі,
зацятыя рабы зацятай волі
такія ж, як яе рабаўнікі.
Усім на волю Бог дае іспыт,
і не займець збаўленьня ад іспыту,
адзін раз воля,
калі мы — зь нябыту,
другі раз воля,
калі мы ў нябыт.







* * *

Вы прыналежыце моцы, і перашкода для вас
апора.
Цьвёрды ваш крок, пераможныя вашы ўчынкі,
і постаці вашы згодна ўрастаюць у сталь.
У рулі і ў жэрлы ўкладаецца перавага.
Ловяць люстэркі адлюстраваньні таго, што мае
настаць.
На сьценах дымныя цені.
На бруку разьбітая чарапіца.
У неба сьпявае гром.

* * *

Хто мы такія — нікому невядома:
і агонь, і вада, і зямля, і паветра — магутнейшыя,
чым чалавечая плоць.
У чалавека — лёс кветкі альбо матылька.
Мабыць, таму ён супрацьпаставіў сябе стыхіям,
каб знайсьці сэнс свайму існаваньню:
душа — маленькае дзіцятка, бесьсьмяротная
істота, непадуладная нікому, акрамя Творцы.
Птушка Фэнікс, якая згарае (а потым у агні-
полымі-каханьні нараджаецца яе адзінае
птушаня), — гэткі ж лёс і ў чалавека:
разьвітвацца з сабой штодня, штоночы.
Я магу толькі здагадвацца:
хто я, што я такое;
больш за ўсё вабіць невядомае, нязьведанае.
І калі мы, людзі, зьлепленыя з гліны, чаму нас
разбурае агонь, які звычайна абпальвае гліну?
Чаму нас не ўтрымлівае вада, якая — жыцьцё?
Чаму мы дыхаем, як рыбы, як птушкі, калі нам
дадзена ад пачатку бесьсьмяротная душа — і ў
гэтым, зямным жыцьці?
Мы самі сабе — перашкода... Што азначае —
быць створаным па падабенстве Яго?

Для рыбы — вада, для птушак — нябёсы,
для чалавека — ўвесь Сьвет, напоўнены белым
сьвятлом.
Чалавечая душа з пачатку свайго існаваньня так
і не атрымала адказу на запытаньне: белае
сьвятло — што гэта такое?

Белае сьвятло — гэта нашае жыцьцё, — адказала
Жанчына, калі мы йшлі па дарозе разам.





Яна вярталася ў выселеную вёску, дзе нельга
жыць пасьля Чарнобылю. Я несла скрыню
з пчоламі на плячах...

* * *

Забытыя прывіды мрояў,
аскепкі жаданьняў, імкненьняў
зь мінулага зьявяцца раптам,
у памяці зноў усплывуць...
І цені забытых відзежаў,
пяшчотныя, любыя цені
ізноў зь небыцьця у сьвядомасьць
вярнуліся, танчаць, жывуць.

Я слухаю даўнія словы,
і прагне стамлёнае сэрца
вярнуць, зноў паверыць у тое,
што зьнікла, растала, сышло...
Але да мінулых забаваў,
я ведаю, ўжо не вярнуцца,
ўжо нельга, ніяк не магчыма.
Чаму? Хто адкажа? За што?..

За што? А ў адказ: «Ты павінен!»
Гучыць, нібы выбух: «Так трэба!»
Каму? Што? За што вінаваты?
Успомніць ніяк не магу...
І робіцца ўсё без жаданьня,
ня так, як хачу, а «як трэба»,
як трэба ня мне, а камусьці,
назад, не наперад бягу...

Бывае, так хочацца босым
прайсьціся па кветнаму лугу
ці легчы на росным узьлеску,
на хвоі, аблокі глядзець...
Абмыцца расою, а потым
стамлёным ад хуткага бегу





нырнуць у празрыстую рэчку,
да хмараў высока ўзьляцець...

Нацешуся мрояй, а потым
раблю усё тое, «што трэба»,
на сэрцы ад той несвабоды
агіда і боль за сябе...

*Міхась Федарук*

* * *

О дзіва дзіўнае было б, о быў бы сьмех,
каб на якімсьці там Мадагаскары
за ноч наўкола ўсё пакрыў бы сьнег,
сьнег са звычайнае мадагаскарскай хмары.
Мадагаскарац на імгненьне б стаў
сьляпым ад белізны той нечаканай,
ад цішыні глухім бы стаў і п'яным
бязь вінных доз і паху хмельных траваў.

А беларуса што б зьдзівіць магло?
Патоп? Ці землятрус дзе пад Драздамі?
Свабода ўспыхнула над Віскулямі,
ды гэта справа быццам не яго.

Для нас свабода — нібыта прыгода,
нібы вяжж з Турэччыны з бавулам,
таму і прадаем сваю свабоду
дасюль па частках.
Прадамо й агулам,
пакуль ня зможам цэньнік той зьмяніць,
што цэны на свабоду вызначае,
пакуль яе ня станем бараніць
бязбоязна, паўсюдна і адчайна.
Як бульбу мы баронім ад жукоў,
як агарод свой ад расы мучністай,
як сьвіран ад хвастатых пацукоў,
як храм ад праваслаўных атэістаў
пакуль яе ня станем бараніць.





*Андрэас Пастэлас*

* * *

Я праверыў наведваньне,
а вас не было й сьледу,
займаліся вы нялена
арфаграфіяй на сьценах.
Я праверыў наведваньне,
а вас не было й сьледу,
пайшлі вы на барыкады
супроць прыгнёту й здрады.
Я праверыў наведваньне,
а вас не было й сьледу,
і на сваіх маленькіх каленьках
у турме, цеснай ад лютасьці,
накрэсьлівалі гісторыю людзтва.
І на лісьце наведваньня
я напісаў прысудна:
усе прысутнічаюць!
І насупраць кожнага імя
выведзена акуратна адзнака:
выдатна!

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

* * *

Шукаю ў белых хмарах
выявы храмаў,
на цьвёрдай, трывалай глебе
заўжды ў патрэбе,
і не знаходжу ні ў чым спатолі.
Як ніколі
чалавечы голас зьлітны з маскітным піскам.
Да ўціску
любая спроба праявы вольнасьцяў
і здольнасьцяў
зьмяніць галечу на прыстойную людзкую долю.
Даволі
ненароджаных, забітых, забытых дзяцей.
Усё часьцей
чаргуецца жальба-малітва з паганствам,
якое ўбранствам
манерным няўцямна гуляе ў свабоду.
Пад зводам
усемагчымых бясконцых недарэчнасьцяў
у небясьпечнасьці
рэпэтыцыя хору дэманаў і танцу
з самазванцам...
А на захадзе неба мяняе колер бэзу на колер
ружаў —
чаму ты ня дужы
духам, і хто вінаваты ў нэндзы?
Бяры пэндзаль,
пойдзем летуценныя да зары
ў хмары
маляваць сьвятлоадчуваньне з натуры.
Застылі фігуры —
няма каму камень кінуць у апошнюю
грэшную —
усе сьмешныя.





Нельга розумам спазнаць вынік веры.
Не на паперы
спадзяваньне на новы сонечны дзень.
Мы падобны на цень,
што прызвычаіўся існаваць без гарантыяў.
Белая мантыя
на дзіўным целе ўваскрослага,
даўно парослага
паданьнямі найвялікшага цудадзейнага
дзеяньня.
Праз пакуты і мукі балесныя
у паднябесныя
пранікнёна ўглядаюся ў абшары —
пранясі, Божа, кару
ў час Твайго наведваньня.
Перасьледаваньне
бярэ верх злоўжываньнем.
Сябра, устаньма,
нам рамантычным ёсьць запрашэньне
на прадстаўленьне
сьвятлопраламленьня.

* * *

Я думаў, што Свабода — гэта жах,
Калі ўсе палезуць на машыны
І пазьбягаюць ў іншыя краіны,
Пакінуць нас на нашых жа вачах.

Я думаў, што Свабода — гэта цень
Вясны і сонца, цень былога шчасьця.
Я думаў, што Свабода — гэта дзень,
Ў які даўно мы марылі папасьці.

Я думаў, што Свабода — гэта Сьвет,
Ў якім няма забруджаных плянэт,
Ў якім няма забруджаных газэт,
Сьвет, дзе народ казаць умее “НЕТ!”

Я зразумеў:
СВАБОДА — ГЭТА МЫ,
Палоханыя кратамі турмы.
Павінна быць у нашай галаве,
Што ні на што ня гледзячы,
ЖЫВЕ!







* * *

Надакучыла ўжо чакаць,
увесь час аб адным маўчаць.
Надакучыў наш брыдкі лад.
Бачыць твары сяброў з-за крат
надакучыла. Годзе! Усё!
Пачынаць трэба нам жыцьцё!
Трэба верыць, і Родны Кут
мы схаваем ад усіх пакут.
Надакучыла кожны раз
атрымоўваць адзін адказ.
На пытаньне: «А шчасьце дзе?»
словы чуць: «Прэзыдэнт вядзе».
Надакучыла кожны дзень
пры «мянтах» адыходзіць у цень.
Надакучыла ў жаху жыць.
Не хачу я халопам быць!
Мы чакалі ужо — дарма.
Што ж, зьмяненьняў прыйшла пара.
Трэба ўзьняцца, і будзе рух.
У нас ня згасьне свабоды дух!

* * *

Нехта хоча свабоды,
Нехта хоча цяпла,
А калісьці свой гонар
Мы аддалі дарма.
Але людзі ня могуць
Глупства шчыра вітаць...
Нехта часам, здаецца,
Памяць хоча прадаць...
Бела-сіняе срэбра —
Гэта наш сьветлы край,
Кожны хоча свабоды —
Пэўны шлях выбірай!
Беларусы павінны
Гонар свой узгадаць,
Каб ізноў не зламацца,
Каб мацнейшымі стаць.
Мы пяем пра свабоду
Ў гонар твой, любы край,
Разам з намі за гэта
Змагацца давай!







* * *

Беларусь, сьветлы край,
Не сумуй, песьні грай!
Хутка прыйдзе да нас
добры час.

Не сумуй і сьпявай,
Думкі больш не хавай,
Бо залежыць ад нас
добры час.

Потым прыйдзе наш лёс,
Лёс таполяў, бяроз,
Што пачуе ад нас:
«У добры час!»

Помніць будзем тады
Пра свабоду заўжды.
Нехта крыкне да нас:
«У добры час!»

Мона Савіду-Тэадулу

* * *

А ці вас заклікалі да Нядрэмнасьці
да Чуваньня
кожнае раньне
прыходзіць запрашэньне заканвэртаванае
і мне чуваць у далечыні
закаханае буркаваньне галубінае двойкі
з гадзіны да трэцяй пасьля паўночы.

Чуваньне
дзеля палонных
дзеля ўцекачоў
дзеля перасьледваных
дзеля прапалых бязь вестак
дзеля параненых

і я чуваю
у гета чакаючы крокаў настаўніка
у турме з чалавекам
што галодны страйк аб'явіў
бяссоню вялебна ля слупа ганебнага
у лягеры ўцекачоў
на пляцы са студэнтам міру
у буфэрнай зоне
на дарозе што вяртаецца
у зямлю палоненую

гэтай начы прыходзь
бяссоніць са мною
мы сон пераможам
нядрэмнасьцю сваёю цярпліва
дзеля тых
з кім абыходзяцца несправядліва

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





Раман Дзенісюк

* * *

Ужо амаль сто год прайшло,
Як збожжа над ральлёй ўзышло.
Дзе Воля, адкажы!?
У гімнах славілі народ,
Шукалі шчасьця — мелі гнёт.
Дзе Воля, адкажы!?
Адзін саюз, другі саюз,
Ізноў — Расея-Беларусь.
Дзе Воля, адкажы!?
Відаць, не надышоў той час,
Калі з гаршка дастануць нас.
Ці прыйдзе, адкажы!?

* * *

Помню той страшэнны час,
калі яны тапталі нас,
як адбіралі у нас волю
і як тапталі нашу долю,
як сілай гналі у калхозы
і мы ішлі, глыталі сьлёзы.
Былі зямелькі ў нас загоны,
бальшавікі, нібы вароны,
як хмары тыя, наляцелі,
зямлю забралі, ўсё паелі.
Былі ў нас коні і кароўкі,
бальшавікі іх на вяроўкі
пад мат расейскі пачапілі
і як у бездань утапілі.
Дык потым тры-чатыры леты
з балота конскія шкілеты
цягалі шэрыя ваўкі,
ім харч далі бальшавікі.
А тых, хто лепш за ўсіх рабіў,
загналі нелюдзі ў Сыбір,
каб там астылі ад работы.
О, людажэрцы-жываглоты...
Цяпер ізноў нас бэсьцяць-крыўдзяць
і нашу мову ненавідзяць,
праз рэфэрэндум недарэчны
стапталі сымбаль наш спрадвечны
і нашу памяць здратавалі,
а нам у душы напляваалі.
Калі ж народ наш зразумее,
што калі путы ён парве,
то ён і сам зажыць сумее
так, як Эўропа ўся жыве.
Аб гэтым хочацца крычаць,
ды хто пачуе крык пакутны.





Хто зможа нас уратаваць?..
Мо толькі Бог усемагутны.

*Павал Сірацюк*

* * *

Колькі люду загінула за правыя справы цароў,
а крыві колькі пушчана, каб уратаваць гонар «сьветлых» князёў,
колькі «волаў бясстрашных» кар'ер нарабілі на людцах касьцёх —
ты спытай, ці схадзіў хтосьці з «праведных» тых у касьцёл.
Ці схадзіў, — не для віду, ня дзеля падтрымкі прэстыжу свайго, —
а каб Госпад, убачыўшы веры хоць кроплю, прабачыў яго,
каб сказаў мілы Божа: «Ты верны Мне быў, хаця й памылкі рабіў,
і таму за грахі твае сына адзінага любага сам на крыжы Я забіў».
Толькі рэдка, здаецца мне, чуе Гасподзь лямант іхны такі,
бо які ж уладар прызнаецца ў бясьсільлі сваім на зямлі —
толькі той, хто з сумленьнем, толькі той, хто з душой,
а ці быў хтосьці сьведкам справы ўскрослай такой?
Я ня быў, але буду, няхай і няскора, няхай і ня ў гэтым жыцьці,
а ўсё ж ведаю добра: будзе некалі край мой цьвісьці!!!





*Ганна Матусэвіч*

* * *

Літва надыдзе непрыкметна,
як настае вясна ці лета, ці зіма,
пра тое ўведаюць Паэты
і вестку прынясуць, як птушкі на скрыдлах.

Літва, Зямля і Сонца, і Сусьвет...
і вось мы ўжо ўзьлятаем у бязьмежжа
і, зьлітыя з Тварцом, ствараем сьвет,
празрысты, ясны, непадкупны, незалежны.

Мая Літва хай стане нашаю Літвой!
І нашай Воляй, нашай Явай,
заранкаю, што добраю парой
зьвястуе сьвету Новы дзень бяз хмараў.

* * *

Скіну стому і разьвею нуду,
нехрышчоны, да царквы забрыду,
разбазару грошай стос на хаду —
у працягнутыя рукі ўкладу.

У царкоўнай крамцы сьвечку куплю,
запальнічкай яе запалю,
напалам з грахом грахі замалю...
Не вяртайся, Божы сын, на Зямлю.

Акунуся, як сякера ў ваду,
у малітваў і крыжоў чараду,
і засьмяглую душу наталю...
Не вяртайся, Божы сын, на Зямлю!

Тут усё, як і прадбачыў прарок:
правіць баль тут чыстаган і курок,
тут наверсе той, хто больш украдзе,
той, хто здолеў падмануць больш людзей.

У пашане той, хто можа забіць,
і нічога з гэтым нельга зрабіць!
Немагчыма душы іх скалануць...
Не вяртайся, Божы сын, — зноў распнуць.







* * *

Краявід
адкрыты, як рука жабрака.

Постаць, ня ведаючы супыну,
перасякае краіну.
Хтосьці з-пад небакраю
пространь куляю працінае.
Куля зацятая
адшукае вінаватага.
Зьбіты з ног, на каленьках бядак
паварочвае галаву і
сьціскае кулак.

Краявід засланіўся
у вобміг рыўка,
як выцягнутая рука.

У сьне маім — зіма.
Я сама, заглушыўшы гнеў,
падпарадкуюся пяшчоце
голых дрэў.

Кажуць, што лісты,
да таго, як апалі,
на мовах шмат якіх
размаўлялі.

Чулі, як расчуліўшы гай,
шаптала кожнае па вясьне:
Я — дрэва, не размаўляй,
проста любі мяне.

Ты, каму бяссоньня стае,
разгадай сны мае:

не сьсячы мяне,
пакуль галінамі кратаю,
хоць я й выкрыўленае й сукаватае.

Не аддай зіме маю надзею,
пабач, як я квітнею.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





*Максім Мядзьведзеў*

* * *

Бяз выніку біцца ў празрыстыя сьцены
няма больш ні сілы, няма больш ні веры,
ня вытрываць болей «радныя» парадкі.
Аддаў ўсё, што браў, заплаціў ўсе падаткі,
пяць дзён — на журбу, разьвітаньне і зборы,
кусаюць за пяткі «радныя» прасторы.
Цягнік і таксі, і бягучыя фары,
«Менск-2», самалёты, савецкія твары,
надзеі, каханьне, сустрэчы, турботы,
халодныя, змрочныя, доўгія годы,
памылкі, сябры — усе тут застануцца.
Я крочу, маўчу і баюсь азірнуцца,
баюсь, што убачу: стаяць за сьпіною
вочы, як сподкі з жалобным напоем.
Вось рэхам глухім пракацілась па залі:
«Рэйс 3005 на другім тэрмінале».
Памежнік краіны калісьці вялізнай:
«На стол чамадан».
Блёк «LM»у, бялізна,
ласьён, парасон...
Да апошняй хвіліны
пакінуты сын сваёй Маці-Радзімы.
У пашпарце штамп паяўляецца шэры,
згарэлі масты, пажаўцелі паперы,
партфэль у руцэ і білет у кішэні,
ля сэрца сьцяжок, што набыў ў «Варвашэні»,
пяю папуры з «NRM»у і «FILL»у...
«Хіба застанесься?»
«Не, дзякуй, хапіла».

*Ірына Жукава*

* * *

Барвы восеньскіх красак
афарбавалі лісьце дрэў,
замест зазвычаеных казак —
толькі самоты сьпеў.
Шоргат барвянай лістоты,
узорных думак рой —
надзвычай сугучныя ноты
мэлёдыі лясной.
Хаджу-браджу па лесе,
яго не пазнаю,
у фарбах нудных п’есу
піша восень пра зямлю.
Сябе надзеяй цешу,
што так не назаўжды,
што знойдзем долі лепшай —
ня пройдуць і гады!





*Карлас Шэрман*

* * *

Маленства
на гарачым кані
па сьпярэшчаным сухарэччы,
па тунэлях
зялёнага небасхілу
дрэваў, што абдымаюцца ў вышыні
з прудкім ветрам на скронях,
які яшчэ і сёньня адчуваю,
як пошапт руху зямлі
нястомленай у паўторах.
як палёт жыцьця незабыты,
што нібыта ня ўмее лётаць
па боскіх прасторах.

Чаканьне падзеі,
якую робіш
за крокам крок,
пошук слова, зарок,
што шырыць зрэнкі,
калі твае асмакуе вусны
гэтага слова водар дзівосны,
ды яго льга мацаць,
льга адчуць
форму нябёсную,
абдойм зь няўстойлівымі абрысамі,
лініямі, лінамі,
якія зьмяняюць сэнс штохвілінна,
сутнасьць і вартасьць слова,
што расьце на даланях дзён,
даючы і квецень і плён,
і ціха жыве ў радках,
тоячы свой несутрым
у абсягу малым
жыцьця кароткага.

Сталасьць,
і скроні пад тым жа ветрам
на іншай дзялянцы сьвету,
дзе вецер паўстанец,
вястун бяссоньня
перамогу моладзі адчувае,
якая іншымі крокамі йдзе,
знаходзіць іншыя словы,
што шыраць зрэнкі мае,
словы дзівоснага водару,
іх льга памацаць,
сэрцам пачуць,
адчуць форму нябёсную
і няўстойлівы абдойм нязгоды,
вартасьць і сутнасьць
Свабоды.







* * *

Дзе палі і лясы,
там чуваць галасы
тых, хто прыйдзе пасьля,
і цябе і мяне
можа быць памяне
спакваля.
Пераселяцца нашы душы ў дубы
ці ў буслоў,
і забудуцца тыя,
хто здольны забыць,
пра дабро і зло,
і працягне зьмяняцца, як і датуль,
навакольны сьвет,
ні дабра ні зла,
толькі крык бусла —
запавет.

*Наста Кудасава*

* * *

Не! Ня будзе разьвітаньня!
Годзе плакацца ўжо! Годзе!
У зіхоткіх промнях раньня
мы адновім моц стагодзьдзяў.
Не задушаць нас, ня зьнішчаць
і скарыцца не прымусяць,
мы ўваскрэсьнем з папялішчаў
дзеля шчасьця Беларусі!
Мы запалім свае сэрцы
зыркім полымем імпэту,
наша песьня адзавецца
рэхам матчыных заветаў!
Хай гарыць сьвяты агеньчык
у зьнясіленым народзе!
Годзе апускаць нам плечы!
Годзе прыніжацца! Годзе!





*Альгімантас Балтакіс*

* * *

Я нарадзіўся ні надта рана, ні надта позна,
нарадзіўся я ў самы час —
калі зіма спалавініла свой запас.

Калі б нарадзіўся дзесяць вякоў таму,
што нарадзіўся зарана,
сказаць ня меў бы я права.
Тыя ж самыя дрэвы,
тыя ж самыя травы,
і прага свабоды сьвятая — усё тая ж.
Спасярод рабоў заўсягды так —
знойдзецца свой Спартак.

Калі б нарадзіўся я дзесяць вякоў пасьля,
што нарадзіўся запозна,
сказаць ня меў бы я права.
Тыя ж дрэвы,
тыя ж травы,
і прага свабоды сьвятая — усё тая ж.
Яно дапраўды, ніколі
не бывае замнога волі.

Таму й скардзіцца ня маем права,
я, маўляў, нарадзіўся занадта рана.
Права ня маем і шкадаваць,
я, маўляў, нарадзіўся занадта позна.
Мы заўсягды якраз
нараджаемся ў самы час.
Адно паміраем, часам трызьнячы раем,
ці тысячагодзьдзем раней,
ці тысячагодзьдзем пазьней,
а кожны раз
у свой паміраем час.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

Надзея Саланові

* * *

Беларусь мая, васількова,
і рамонкавая мая!
Беларускай ня стала «новаю»,
беларуска «старая» я.
Не шырокай хадою, а вузкай
я іду па тваіх палях,
несучасная я беларуска,
бо лаўлю я рамонкаў пах,
а ня мераю я палеткі,
каб сабе залацiць руку,
я у жыце зьбіраю кветкі,
і зайздрошчу я жаўруку,
што так вольна і шчыра льецца
яго песьня ў тых палях,
і я веру, і мне здаецца —
беларуска шчасьлівая я!





Сымон Глазштэйн

* * *

Напішу пра свабоду,
Што гэта — мне не вядома.
Напішу пра яе,
Што шукаю словы.
Напішу, што яе
Я не знаходжу.
Але
Калі бачу каня,
Які нерухомы стаіць на лузе ў тумане,
Калі чую птушку,
Чыё пяяньне схаванае ў недакранальнасьці
дрэваў,
Калі прыходжу да крыніцы,
Што самотна цячэ ціхім ручаём,
Калі крочу па сьцяжынцы,
Над якой пад сонца ўзносяцца траўныя пахі,
Калі я адчуваю, што я ёсьць,
І кожная хвілінка й кропелька
Кажуць мне:
Гэта ты!
Тады,
Я ведаю, што ёсьць СВАБОДА.

*Сьвятлана Карпучок*

* * *

Ёсьць слова сьветлае, прыгожае — Свабода,
Як паратунак дзеля ўсіх яно гучыць.
Бо за яе змагаюцца народы.
Дзеля яе адной на сьвеце варта жыць.

Як добра, калі можна зьдзейсьніць мары.
Як добра ў незалежным краі жыць.
А як цудоўна — самастойным быць.
Калі ніхто і слова нам ня скажа:
Што хочаш, то рабі,
ідзі,
кажы і еш...

Але ж свабодным цалкам, быццам птушка,
Бываем, на вялікі жаль, мы не заўжды.
І толькі, мусіць, калі ў сьне лунаем,
Альбо па лесе ў адзіноце мы блукаем.





*Марыя Станоўка*

* * *

Як разьбіты, захмараны ветах,
над цемрай ўзыходжу.
Што ў паўзмрочных хаваецца нетрах?..
За што гэта, Божа?
На сьвітаньні парогаў нямала
абіў ясным промнем.
Ды шкада, што гучаць перастала:
«Мы слухаем. Помнім».
Як зьнямелы, запылены вецер,
сягаю празь сьцены,
выдумляю трагедыі вецьцю
падзорнае сцэны.
Як Стажары, гарэў бы, магчыма...
Ня час. І ня роля.
Паляцеў бы. Ды крыл за плячыма
ня чую. Ад болю.

Алена Сярко

* * *

Пад нагамі шапаціць лісьце
адыходзячага лета.
Іду за зданямі — Мужчыны і Жанчыны.
Яны праходзяць праз браму Кальварыі,
але я не магу патрапіць на клады; зачынена.
Пры сьвятле месяца яны набліжаюцца
да касьцёла.
Рухаюцца, рухаюцца... і зьнікаюць.
Я ператвараюся ў птушку...





Карыякас Харалямбідэс

* * *

Дзіцятка з фатаграфіяй у руцэ,
з фатаграфіяй глыбока ў вачах,
перакуленай дагары нагамі,
што, як з-за небакраю, на мяне пазірае.

Наўкола яго безьліч людзей, а ў яго
ў вачах — маленькая фатаграфія,
большая — на ягоных плячах, і наадварот —
большая — у ягоных вачах,
трошкі меншая — на ягоных плячах,
яшчэ меншая — у руцэ ягонай.

Наўкола безьліч людзей і лёзунгаў,
а ён трымаў яе дагары нагамі;
мне зрабілася горка ад гэтага.
Падыходжу да яго паўз штандары
ці аркі й галасы закаханых,
замерлых, нерухомых і занядбаных.

Мне здалося, што гэта фатаграфія ягонага бацькі.
Я павярнуў яе для яго як трэба
і зноўку ўбачыў галаву
бязь вестак прапалага чалавека перакуленую.
Таксама, калі кароль, валет і дама
ляжаць дагары галавой,
чалавек гэты, калі бачыш яго дагары галавой,
пераварочваецца галавою ўніз
і, як з-за небакраю, на цябе пазірае.

Пераклад Рыгора Барадуліна

*Ірына Волах*

* * *

верш на свабоду
жыцьцё на свабоду
лёс на свабоду

я рыхтуюся мацую ў сабе
упэўненасьць
сёньня я буду свабоднай
я адпачну ад самотных думак

словы на свабоду
думкі на свабоду
мары на свабоду

я вырвуся і будзе ўсё надзвычайна
я буду моцнай і пасьлядоўнай

бо за свабоду патрэбная ахвяра
яна не жыве ў галечы
яна не жыве ў бяспраўі

за свабоду плацілі і жыцьці

у мяне зноў не хапіла моцы
які ўжо раз не хапіла моцы
яна зноў прамільгнула побач
гэтая няўлоўная птушка
я застаюся тут

каб зноў гаварыць зь сябрамі
як невыносна жыць у няволі
што вартыя рэчы каштуюць

няўлоўная дзіўная птушка





*Уладзімер Лобач*

* * *

Воля мая ты, волечка,
каханка і злая зьмяя,
дарога і роснае полечка,
ды пахаваны ваяр.
Воля мая ты, волечка,
любові тваёй не стае,
магчыма, такая долечка,
а гвалтам ня возьмеш яе.
Воля мая ты, волечка,
каменьнем у срэбры імя,
а можа, расстрэльным звоначкам
ці рэхам памёрлага я.
Воля мая ты, волечка,
нясканчаны наш раман
і месяцовы, і сонечны,
і праўда, і самападман.
Ды лепей з табою, волечка,
усьцешуся неспадзеўкаю,
чым вечным мінэтам-гаворкаю
з адной барыкаднай дзеўкаю.

* * *

Іскра ў саломе — жах.
Полымя ўспыхне кудлата.
Сотні па сьцежках, шляхах
з торбамі пойдуць па хатах.

Іскра ў сьнезе — вада,
кропля, што знаку ня кіне.
Дзьмухне вятроў валадар —
белай лядзяшкай застыне.

Іскра ў прысаку — тлен.
Нельга аглухлай сагрэцца.
Адпалымнеламу тлець,
двойчы агню не ўзгарэцца.

Іскра — пра свабоду ўспамін
робіць далёкае блізкім.
Ёй полымна цемру ня змыць,
ды ўсё-такі гэта — іскра...



# лістапад

* * *

Шукаю Цябе ў паднябесьсі далёкім,
ў скляпеньнях сінечы над галавой,
шукаю на вулках, змрочных і вузкіх,
шукаю ў сьвятынях, гатычных, высозных,
шукаю ў капліцах і ля крыжоў,
у тварах шукаю, блізкіх і родных,
прыветных усьмешках, далонях сяброў.
У сьнег і завею, слату і нягоду,
сонечным днём, у самотную ноч,
шукаю Цябе, бо ведаю добра —
Ты дзесьці ёсьць блізка, зрабіць толькі крок.
Шукаю, мой Божа, Цябе гэтак доўга,
забыўшы, што ўсё да крупінкі,
усё да апошняе кроплі —
пры мне, ува мне, па-за мною.
Усё гэта — Ты.







* * *

Цемра, пустыня,
ўваходзіны зла,
вусны асьмяглыя,
сьвята асла,
целы галодныя,
злосьці нагар,
душы халодныя,
чорнае «кар-р-р-»...

* * *

Ці маглі б мы сябе знайсьці ў бясконцасьці
бяз цэнтру, без улады,
без сакатуркі-куркі, бязь яйка?

Мы, якія зь зямлі сябе не паднялі,
мы, якія ненавідзячы праўду,
выганяем яе, як д'ябла, з агідаю
і калектыўна камянямі закідваем,
каб пазбавіцца яе?

Мы, якія дыктуюць зьверху
тым, хто да народу зьвернецца,
як апісаць «рэальнасьць»,
каб чуць маглі мы заўсёды
— няхай сабе покуль жывыя —
толькі тое, што да нашай дагоды?

Сонца мусіць сьвяціць нядрэмна,
неба зьнерухомець павінна,
мусіць парабкаваць Зямля паярэмленая.

Той, хто прапісвае Божыя запаведзі,
прыдумвае й чалавечыя
забароны абавязкова —
гэта неад'емная ўмова
ў Сэнаце, Касьцеле й Пасьцелі,
у Навуцы й Мастацтве
незалежна ад дакладнасьці.

«Залаты век» ці будучыня
па сутнасьці нас не цікавіць,
трэба будзе — усё прагрэсіўнае
да слупа прывяжам і спалім спрэс.





«Будзем дзейнічаць памяркоўна й без
крывіпраліцьця».

Чырвоная Плошча ўсё адно ад кветак пачырванее.
Рэнэсанс — адгаворка для ерэтыкоў,
ды ён не супярэчыць ані спазьніцца
унутраным правілам
Інквізыцыі,
нашаму афіцыйна дазволенаму сатанізму,
нашай разбэшчанасьці
і пачуцьцю анафэмаю абвешчанаму.

Мабыць, мы маленькія й сьмяротныя,
мабыць, мы бясконца абяртаемся
вакол саміх сябе й Сонца
і сьвет — гэта нібыта невядомае infinito,

але, прынамсі, у нас пекла сваё
і маем выбіраць, каго забіваць.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

* * *

Калі Айчыне асьляпілі вочы,
зьвязалі рукі ланцугом дарог,
яна ішла адна празь цемру ночы,
малілася, каб Бог народ зьбярог.
Вярні ёй, Божа літасьцівы, зрок,
яна нагамі босымі ступае
па камянях...
І так за крокам крок,
куды ідзе — сама таго ня знае.
Ніхто ня даў гаротніцы руку,
яна, сьляды крывавячы, ступае —
бы вышывае лёс на ручніку.
О, Беларусь, такою цябе бачыць
я не хацеў ніколі, далібог,
ня ведаю, чым мне табе аддзячыць,
як нам знайсьці адну з усіх дарог,
якая ўвесь народ мой шматпакутны
да веры у Айчыну павяла б.
Скажы мне, Божа, Ты ж усемагутны,
як нам дайсьці да Боскага сьвятла,
каб у хлусьні і здрадзе прайдзісьветаў
не асьляпіць народны дом — Плянэту.







* * *

Бярозы беларускія,
Роднай зямлі напеў,
Лясныя сьцежкі вузкія
Віхляюць паміж дрэў.

Хаджу па гэтых сьцежачках
І мару аб жыцьці,
Калі ж вы з навамерачак
Пасьпелі вырасьці?

Вясновым пацяпленьнем,
Як толькі рухне сок,
Бяру з сабой начыньне:
Сьвярдзёлак і лубок.

І раніцой да ўсходу
Іду ў свой лясок,
Сабраць узнагароду —
Крыштальна-чысты сок.

І з захапленьнем прагным
Глытаеш той нэктар
Цудоўным днём вясеньнім —
Салодкі Божы дар.

Ад гэтай асалоды
Ў душы стане сьвятло,
Адчуеш стан свабоды,
Бясьпеку і цяпло.

* * *

Свабода — гэта птушка
ў даль нясецца,
гэта — спрытная
рэчка бяжыць,
гэта — воўк па Палесьсі
блукае.

Свабода — гэта шанец,
дадзены нам,
але сьлепа глядзім
на яго.

А чаму?

Чаму мы сьляпыя на гэта?
Можа таму, што
жывем у натоўпе
ды жывем, як суцэльны натоўп.

А можа характару
нам не хапае.
Ня першае стагодзьдзе
жывем няведама дзе,
размаўляем на мове
якой?
Хто мне адкажа на гэта пытаньне?

Нясуцца дні за днямі,
гады за гадамі,
час на месцы не стаіць.
І пакуль не прачнемся,
мы будзем, як чэрці
ў балоце тануць.







* * *

Задыхаецца мой народ,
у вірах сьлёз ня бачыць брод.
Мове нашай замкнулі рот.
Мы драбнеем, бяднеем штораз.
Прачынацца час! — клічу вас.

Песьні нашых вясельляў дзе?
Мы свой сьмех прадалі нудзе,
толькі стогн нам усьлед ідзе.
Карагод нашых сэрцаў згас.
Прачынацца час! — клічу вас.

Мовай рускай, турэцкай ты
прамаўляеш, край залаты,
вызвалі сваю зь нематы.
Прачынацца час! — клічу вас.

Продкаў звычаі і спакой
мы пакінулі за ракой,
мы забыліся сорам свой,
наш дакор панік галавой.
Прачынацца час! — клічу вас.

Даўняй веры пусьцее храм.
Баіцца ўжо ня хочуць нам
казкі нашых бабуль і мам.
Калыханкі ня носяць з крам.
Прачынацца час! — клічу вас.

Ахінуў нас чужы туман.
Звады нас хочуць зьвесьці ў зман.
Толькі неба, што ные ад ран,
наш талыскі тэлеэкран.
Прачынацца час! — клічу вас.

Мы дрыжым, як лаза ў мароз,
цяжка цягнем з грахамі воз.
Звышні, ўбач зьнічкі нашых кроз,
выведзі на дарогу наш лёс.
Прачынацца час! — клічу вас.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





*Валянціна Коўтун*

* * *

Свабода! Ты ня знацьмеш кратаў,
хоць кроў твая плыве з нажа.
Быў Божы Сын на крыж узьняты,
нас расьпінаюць з-за крыжа.
Але пад небам хмарна-сінім
варожай зграі супраціў,
усе мы — з роду Эўфрасіньні
і ўсе да вечнасьці ўзьляцім.
Сябрыны гордае сумоўе,
у сэрцы — боль, у горле — крык,
упіваецца ў народ двухмоўе —
зьмяі раздвоены язык.
Але пад небам хмарна-сінім
варожай зграі супраціў,
на роднай мове з Эўфрасіньняй
у вечнае, сябры, узьляцім.
Свабода! Ты ня знацьмеш кратаў,
хоць кроў твая плыве з нажа.
Быў Божы Сын на крыж узьняты,
нас расьпінаюць з-за крыжа.
Свабода!

* * *

Мне бачыцца ў сёньняшняй здраднай імжы,
Якой мы ня згонім ніяк, —
У новага дня на далёкай мяжы
Ідзе нам насустрач юнак.

Вядзе за сабой ён натхнёны хаўрус
Такі ж, як і сам малады.
Яму я гукаю:
Ідзі, беларус!
Ня сьцішвай змагарнай хады!

На нівах,
Дзе ўсё здратавала брыда,
Рупліва зьбірай камяні
І тых,
Хто сьвятую Радзіму прадаў,
На векі вякоў пракляні!







* * *

Спрадвеку водзіцца ў народзе,
што пры любой жыцьця нягодзе
нясецца сьветлае выслоўе:
— Абы здароўе...

Такога прынцыпу і я сам.
Калі нясьцерпна стане часам,
тады сказаць, сябры, гатоў я:
— Абы здароўе...

Пасеяў грошы я ў трамваі.
Як да зарплаты датрываю?!
Але ж вяртаюся да слоў я:
— Абы здароўе...

У выцьвярэзьнік раз патрапіў,
заначаваў на спэцканапе.
Ператрываў сяк-так вымоўе:
— Абы здароўе...

Прыносіць двойкі сын са школы —
на сходах мне даюць уколы.
І што рабіцьмеш зь безгалоўем?!
— Абы здароўе...

Сваёй кватэры я ня маю —
каторы год усё наймаю,
ды паўтараю зноў і зноў я:
— Абы здароўе...

Я дысэртацыю намуляў,
пры абароне нарваў дуляў.
Хоць пасушыў, скажу, мазгоў я:
— Абы здароўе...

Пайшоў «па ўласнаму жаданьню».
(Не апраўдаў на службе званьня.)
На лямант жонкі аж зароў я:
— Абы здароўе!!.

Зьнячэўку жонка да другога
ўцякла, забраўшы і малога.
Адзін сяджу я ў аслупоўі:
— Няма здароўя...







* * *

прадажныя паэты 60-х мусілі б цешыцца
што ўсё скончылася так удала
бо столькі было небясьпек
а бач выжывалі вярталі крэдыты старанна
хіба што будзе смылець баявая рана
падчас цыклёнаў
нібы падчас месячніц

прадажныя паэты 60-х возяць з сабою
вялікія валізы з жоўтае штучнай скуры
спыняючыся ў гатэлях
яны прытрымліваюць слухаўку плячом нібы
скрыпку
а на іхных валізах стракацяць наклейкі рэклямы
віетконг дзяўчынка гэта й ёсьць наша
калектыўнае падсьвядомае
ты забудзеш мяне яшчэ да наступнага ранку
адною візай у пашпарце болей
адною меней

некалі на засьнежаным аэрадроме
некаму зь іх прыгадаюцца ўсе іх лекцыі
бэрлінскае радыё і масты цераз віслу
добра падумае ён добра
гэта былі неблагія часы — нашы прадажныя 60-я
дарма што пасьля ў галаве
суцэльная пэдэрастыя і сацыял-дэмакратыя
нас вяла за сабою любоў
любоў вырывала нам глянды
як вырываюць слухаўкі з вулічных тэлефонаў
паэзія пішацца горлам
ды гэтае горла безнадзейна застуджана

паводле ўсіх законаў літаратуры
паводле кожнай умовы ў падпісаных імі
кантрактах
яны напраўду змагаліся за свабоду
а свабода як ведама вымагае
каб за яе час ад часу змагаліся
ў акопах лясох
і на бачынах незалежнай прэсы

гаворачы тут пра паэзію
згадайма ўсіх тых хто застаўся
на бруку і пляжах старых-добрых 60-х
усіх хто ня здолеў прайсьці да канца курсу
рэабілітацыі
й над кім і цяпер праплываюць аблокі
сваёю структурай падобныя да амэрыканскіх
вэрлібраў
згадайма ўсіх іх бо тое што вы называеце часам
здаецца звычайнаю бойняй
дзе выпускаюць кішкі — проста таму
што гэта павінны рабіць менавіта тут
і выжываюць па гэтым
хіба што прадажныя паэты
зь лёгкімі — разарванымі
ад любові

*Пераклад Андрэя Хадановіча*





*Марына Паўлава*

* * *

Я вызвалюся, як памру,
ад мітусьні і ад жаданьняў,
ад спраў, пачуцьцяў, што ў міру
мне душу рвуць, і ад каханьня —
ад вас усіх, каго люблю...
Навошта мне свабода тая?!.
Ў абдымках лепей я растаю,
да сэрца сэрца прытулю.

Так, рук тваіх палон
мілей свабоды адзіноцтва.

*Ала Клемянок*

* * *

На родных лугах, на палетках
зьбіраю ў букет словы-кветкі.
Мо ёсьць прыгажэйшыя словы,
а я маёй роднаю мовай
валошкі, пралескі, рамонкі
і чырвань рабінавай гронкі
нібы у вянок, у верш уплятаю.
Мілейшых ня знаю
ні песьняў, ні мовы, ні кветак,
мне іх даглядаць, нібы дзетак,
і можа магутны Божа,
грахі даравашы, паможа
і ў сьвецкай, і ў простай размове
па-свойму квітнець маёй мове.





*Салі Морган*

* * *

Што ёсьць
Свабода Гэтая Гаварыць?
Голас мой маўчыць зацкаваны.
Смутак мой
пахаваны занадта глыбока.

Я зьбіраю мужнасьць маю суворую,
каб распавесьці гісторыю нераспавядальную.
Я стаю, каб не згінацца й гаварыць
пра ганебную славу нацыі.
Сьлёзы стрымай.
Май моц.
Май сьмеласьць.
Голас мой, як рэха з-пад заплаканых небасхілаў,
пачынае распавядаць
пра гора магілаў невядомых.
Пра крыкі дзяцей адрынутых,
пакінутых у самоце расьці.
Пра маю сям'ю, згубленую
і ў жыцьці, і ў сакрэтных архівах,
успамінах,
якімі пад сьлёзапад урад валодаў.

Ды хто з вас са скрухаю прыслухаецца
да самога самотнага чорнага голасу?
Хто, адпрэчыўшы страх, шлях доўжыцьме?
Хто гляне на мае адкрытыя раны
і стане побач са мной, каб мне
адной ня быць?

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

* * *

На Дзень Волі мянты
Мянташаць дубцамі беларусаў.
Вось жа і Буда некалі
Ўдарыў палкай свайго вучня за тое, што
Той запытаўся ў яго:
«А што азначае — быць прасьветленым?»







* * *

Запахне порахам і цьвільлю,
бо — на вайне, як на вайне.
Праз сотні год, праз сотні міляў
мой меч вярнуўся да мяне.

Запахне золатам і цьвільлю,
бо кожны год наш — чорны год.
Зь мільёнаў ўзгорачкаў магільных
узьняўся апантаны сход.

Запахне верасам і цьвільлю,
бо ўпотай зьнішчаны народ
ад соннага душы бяскрыльля
ратуе верасовы мёд.

Так порах, золата і верас
з зацьвілых курганоў ўстаюць.
І вось тады ў Зямлю паверац.
І Беларусьсю назавуць.

* * *

Свабода.
Спытайце філёзафаў мудрых,
хаваецца здаўна пад словам што тым,
па кнігах Хрыста, Магамэта і Буды
адказ вам дадуць у выслоўі сьвятым.
Свабода раба — пазбаўленьне кайданаў.
Свабода цара — права іх надзяваць.
Свабода аратага — ў полі ад раньня
да позьняга вечара хлеб здабываць.
Свабода матроса — шырокае мора.
Свабода паэта — натхненьня палёт.
Свабода геоляга — дзікія горы.
Свабода краіны — свабодны народ.
Чаго ж не хапае нам сёньня, васпане?
Чаму адчуваньне вязьніцы ў душы?
Чаму не праглядвае волі сьвітаньне
у нашай зусім, як магільнай, цішы?
Якое патрэбнае слова народу,
якое ідэі яму не стае,
чаму ён ня просіць ніякай свабоды,
чаму не выпроствае плечы свае?
Адказ мой пахіліць у чорную скруху
і змрокам ахіне радзімы абшар:
нам не хапае свабоды духу,
нам не хапае свабоды мар.
Мы не жадаем вялікіх зьдзяйсьненьняў,
мы не акрэсьлілі велічных мэт,
мы — дзеці палонных сямі пакаленьняў,
канец пугаўя нам адмервае сьвет.
Таму не пытайце вы нас пра свабоду,
не называйце народ наш дурным,
дарогу да волі шчэ доўгія годы
мы будзем выношваць у сэрцы сваім.





Мы сілы паложым свае і натхненьне,
каб волю пасеяць у душы дзяцей,
а вырасьце нашых сыноў пакаленьне
і нашую справу далей павядзе.
І панясе над сусьветнай разрухай
наш беларускі нясхільны штандар,
і верне народу свабоду духу,
і верне народу свабоду мар.

*Алесь Пальынскі*

* * *

Штучныя пчолы на штучным полі
Штучны зьбіраюць мёд.
Твар афрыканскі на шэрае столі
Жыве ўжо чацьверты год.

Лаецца брудна, плюе ў падлогу,
Спаць замінае нам...
Толькі вядома Ўсявышняму Богу,
Які ў галаве бэдлам.

Што пачынаю і што скканчаю —
Усё пераходзіць у мат.
Шмат беспрытульнасьці і адчаю,
Веры толькі няшмат.

Многа памылак, пытаньняў многа —
Тыя заўжды былі...
Можа, адкажа на іх дарога,
Адзіная на зямлі.

Можа, калі каманда «Па конях!»
Нас пакліча ў бой,
У ляскаце сталі, у віхры Пагоні
Я сустрэнусь з табой.

Ты — гэта толькі вецер і воля,
Што мне жадаць яшчэ?
...Можа, і зьнікне тады з-пад столі
Той афрыканскі кашчэй...

Кропелькі зорнага алькаголю
Ураз запалілі лёд...
Штучныя пчолы на штучным полі
Штучны зьбіраюць мёд.





*Марыя Чылікі*

* * *

Ты неяк сказаў,
што вольны, як птах

Так, Бог даў нам крылы,
аднак мы лётаць ня ўмеем

яны, як валуны, на
нашых крохкіх плячах

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

Яўгенія Казлова

* * *

Я карыстаюся роднай мовай
На працы, на вуліцы, ў краме.
Гэта свабоды маёй умова.
І чую: «Откуда вы сами?»

Я — беларуска, як вы, таксама.
А нарадзілася ў Вільні,
Бо там жылі мае тата і мама.
Жыву ў сваёй краіне.

Я — беларуска, продкі — ліцьвіны.
Вось гэтым і ганаруся.
Шлях мне асьвечвае наш Скарына,
Сын трапяткі Беларусі.

Сілы мае трымае дзяўчына,
Пяшчотная і валявая.
Гэта яна за Маці-Айчыну
Змагаркаю памірае.

Гэта яе, Эмілію Плятэр,
Памяць мая зьберагае,
Сэрца маё гучыць заўзята:
Ліцьвінка мая дарагая!

Буду шчасьліваю і свабоднай,
Калі загучыць шматлюдна
Слова пявучае мовы роднай
На вуліцах, у крамах, паўсюдна.





Валеры Стралко

* * *

Шчодра Бог надзяліў мяне доляй быліннай:
Украіну я сьню, ў Беларусі жыву.
І натхняюся й дыхаю я Украінай,
Пад Скарынаўскім небам хілю галаву.

Беларусь, ты вяльмуй сваю мову сьвятую!
Абудзілі Купала і Колас мяне.
Мову крыўдзяць тваю — родную засланю я,
Да крынічнай любоў у мяне не міне.

А жыцьцё выпрабоўвае нас і краіны.
Люд зьбянтэжыўся наш, і ў душы каламуць.
Толькі шчырыя песьні, як дзьве ручаіны,
Неразлучныя ў мора спрадвечча плывуць.

Гаспадыняю духу ўкраінская мова,
Родны дом яснавіта ўзіраецца ў сьвет.
Мова Богам пасланая — шчасьця аснова.
Дык сьмялей, беларускае крэўнае слова!
Маладзей, беларуская мова, вяснова,
Бо пазначаны зорамі кожны твой сьлед!..

Натальля Паўловіч

* * *

Разьвее вецер тлум зьнямогі,
абудзіць ясную вясну,
з усіх бакоў бягуць дарогі,
каб зьліцца потым у адну.
Абапал — зграбныя таполі
стаяць магутнаю сьцяной.
Дарога гэта — шлях да волі.
Дык пойдзем жа і мы па ёй!





Алесь Сасна

* * *

Жыве Беларусь, хачу вам сказаць.
Краіна, ў цябе закаханы,
і за Беларусь жыцьцё аддаць
змагу, бо табе я аддáны.

Краіна мая, дзе я нарадзіўся,
з лагоднаю мовай роднай,
каб кожны, хачу, табой ганарыўся,
хачу, каб была ты вольнай.

Такога матуля мяне нарадзіла,
зь людзей я ня дам збыткавацца
датуль, як жыву, і дакуль будзе сіла —
змагацца, змагацца, змагацца!!!

*Кэці Фуска*

* * *

Мора не штурхае ніколі
істоты нявінныя
насустрач берагу
заўчаснага болю,
гэта толькі вада варожа
падступнымі рыфамі
жахі трывожыць.
У цемрыве ночы
жаданьне і холад
сьціскаюцца навакола
смагі каханьня
невядомага. У вачох
гэтых маленькіх нявольнікаў колераў
ужо накрэсьлена гора
пацьверджаньне чарговае
здрады.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





*Сяржук Хацкевіч*

* * *

Адрывайце Свабоду
рукамі, нагамі
і нясіце Свабоду
на прастор пад сьцягамі.

Пасьвятлее, бы ўвесну,
на гэтым прасторы,
толькі зробіцца цесна
крыўдзе, скрусе і гору.

Паляцяць у нябыт
крыўда, скруха і гора,
і зазьзяе блакіт
серабрыстым узорам.

Годзе ліць рэкі сьлёз!
Годзе ў сьметніцы лезьці!
Дык — здабудзьма свой лёс!
Дык — наперад жа, зь песьняй!

* * *

На ёй слабыя галасы растуць, як кветкі,
Але вянок квяцісты ёй пасуе.
Чаму ж яна, вар'ятка, кліча ў сьведкі
Сяброў, хоць жаніха шчэ не існуе?

Сабраліся на пір вясельны госьці,
Ядуць і п'юць, і ім усё адзіна,
Кім будзе гэты невядомы хтосьці,
Хто сёньня абвянчаецца з Радзімай.

А ёй ня трэба сьвечак, кветак, сьпеваў,
Ня будзе жаніха, вянчаньня, шлюбу...
Радзіма застанецца вечнай дзевай,
З прызнаньнямі і песьнямі — нялюбай.







* * *

Вароны заходзяцца:
        «Кар-р... Кар-р...» —
горла дзяруць у прарэджаным сасьняку.
Мне чуецца:
        «Трэба краю кар
караць таго,
        хто каравы кат».
І падае каркат,
        як чорны град,
на расстраляны дол Курапат
за каўнер балючаму скразьняку.

А побач,
        разрываючы на шматкі
час, што ахлынае нас,
газуюць, гізуюць,
        як напаказ,
«варанкі»,
«варанкі»,
«варанкі».
І бэнзынавы перагар
душыць душы ў высьлепе фар...
Час!
        Хаду прыпыні.
Чуеш,
        у жудаснай цішыні,
як залп, як удар:
«Кар-р... Кар-р...»

* * *

Калі сонца крываваю фарбай
Расквеціць неба ў прадвесьні ночы,
Мы слухаем песьні мясцовых бардаў
І, ловячы мары, заплюшчваем вочы.

Нас нядоўга вучылі любіць свабоду,
Тых, хто нават яе і ня бачыў.
Калі кран выхарквае брудную воду,
Мы ціха — ня ўчуеш — на кухні плачам.

Забіўшы цьвікамі вокны і дзьверы,
Пад моцнай заслонай старое коўдры,
Ня можам збудзіць хоць кропельку веры...
Ізноўку стогнем: «О, край мой родны...»

Утаропіўшы ў сьценку позірк калючы,
Нікому ня верым, сабе — тым болей,
Бо нат унітаз можа мець вушы,
Язык жа ня вырвеш — сканаеш ад болю.

Выйдзеш на вуліцу — Бог адняў мову,
Сьвербіць чужое збалелы язык.
«Здрасьце» аднаму, «Вітаньне» другому.
Душыцца, рвецца... Сьцішыўся крык.

«Прыйдуць шчэ нашы на белых конях.
А ты?»
  «А што я змагу адзін?»

Ці не такіх Максіма Пагоня
Нішчыла, каб не згіналі мы сьпін?







* * *

Нашто мяне агітаваць?
Я ўжо даўно з'агітаваны.
Нашто чужое пераймаць?
Люблю сваё (і даматканы!),
Што захаваў, пранёс народ
Праз сівізну тысячагодзьдзяў.
Ня ўсё ў душы сышло на звод,
Шчэ многа цепліцца ў народзе!
Здаецца, попел стыў і чэз,
Але дзьмухні — і прысак зыркі
Душу балюча апячэ,
І іскры паляцяць ушыркі.
Успалымнеецца пажар,
Захопіць не адзін абшар,
«Рахманы» беларус-бунтар
Адкажа ўдарамі на ўдар!

Джэін Шаўэрыен

* * *

Попел, Адольф, з тваіх дымаходаў
узьняўся і разьнетрыўся ветрам.
Трапіла крышку й сюды, гер Гітлер,
на Папатуануку — Зямную Матулю.
Тут папялінкі балючыя прыгарнулі.
Тут дзеці Ізраіля ў сынагозе Дом Міру
гадуюцца габрэямі шчырымі,
старыя мэлёдыі галасамі сваімі малодзяць,
узносяць малітвы старажытныя Адзінаму.

Сьнег крывавы тваіх гулагаў, Джо,
даўно ўжо на сонцы растаў,
хмары прысталі, таварыш Сталін,
праліўшы тут дождж ад Бацькі Нябеснага —
ад Рангінуі, тваю перамогшы злосьць.
Тут, дзеці Ізраілю, у вас Дом Міру ёсьць,
і ў дзень паўнагодзьдзя свой ушануйце сувой,
які непакору гадуе,
сьпявайце Тору сьвятую Адзінаму.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*



# сьнежань

* * *

Туга па дрэвах, смутак па вадзе,
вада — штодзённа, дрэва — гэта сьвята.
Вада — штодзённа, дрэвам ёсьць пачатак
і ёсьць канца такіх дакладны дзень.
Рух плаўніка нагадвае узмах,
не паралельна рыбіна і птах,
не напалову рыбіна і птах,
не напалову, адначасова.
Адначасова — рыбіна і птушка,
Гасподзь нас тым аднойчы парадніў,
што не разьбіў падзелам нашы душы,
вада і дрэва вымяраюць дні.
Калі не сьвяткаваць адзін адное,
што іншае ім сьвяткаваць з табою.







* * *

Чачэнскае сонца глядзіць у мае менскія вочы —
І вокнам няма паратунку.
А я ўжо гадала: зьмяніўшы і твар, і гаворку,
Ты зьнікнеш у нашым любімым кірунку...

Ну што ж, добры дзень, калі ўжо пад адхонамі хмары,
Квіток да нябёс напрадвесьні.
Я Менску сказала: «О, як табе сонца да твару!»
А ён мне: «Нікуды, нікуды ня зьедзеш, хоць трэсьні!»

Шкада! А магло быць жыцьцё, ды ізноў недапіта —
Ільдзінкамі шкло пад нагамі.
Ня куляй маскоўскаю — сонца аскепкам прабіта
Ня Менску, а нам сэрца пад Атагамі.

А сьмерці ж няма, акрамя паўжыцьця ў гэтых сьценах,
Дзе засьцерагальнікам хмары...
Чачэнскае сонца фарбуецца ў менскія цені
І колерам шэрым кладзецца
на нашыя хмары...

*Вальдэмар Калінін*

* * *

Ля возера стаіць старая ліпа,
з усіх бакоў яна відаць здалёку,
і сьнег і дождж яе не абмінаюць.
Гадуюць ліпу высьвіст, шчэбет, клёкат.

Шуміць лісьцё, ласкава шэпчуць травы,
ўсіх сонца грэе промнямі сваімі.
Дарогаю жыцьця праходзяць людзі,
адно што ліпа не гаворыць зь імі.

А колькі адышло людзей, якія
пад ліпаю густой адпачывалі,
сяляне — беларусы з цыганамі —
і весяліліся, і гаравалі.

Каб на сваёй зямлі стаяць трывала,
пусьціла ліпа карані глыбока,
усіх яна ў завеі цьветам лечыць,
асьцерагаючы ад злога вока.

Ні скварў, ні ўрагану не баіцца,
нястомная на ўскоце, на закоце.
У ліпе пазнаю я лёс цыганскі
у скразьняках, у холадзе, у слоце.





*Алена Сьцяпурка*

* * *

Чыя гэта ножка?
Чыя гэта ручка?
Канечне, сыночка.
Канечне, Андрушкі.
А чый гэта носік?
А чый гэта роцік?
І хто там сапе,
як малы паравозік?
Маленькія вушкі,
вялікія вочкі
ды два кулачкі,
як бы тыя клубочкі.
А ці разумее мяне
мой сыночак?
Пытаю у вушак.
Пытаю у вочак.
А вочкі глядзяць на мяне
і сьмяюцца.
Нічога ня кажуць мне
родныя вусны.
Вось пройдуць гады,
і так хочацца маме,
каб гэтыя вусны
мне так адказалі:
«Усё разумею цяпер я, матуля.
Даўно я ня плачу,
і сам ўжо хаджу я.
Бываў многа дзе
і скажу: ганаруся,
што ты нарадзіла мяне
ў Беларусі».

* * *

Ад нас хавалі доўга гэту дату —
Яе над ямай крывяніў сьвінец,
Яе тапталі ў бруд, ламалі кратай,
Душылі дротам, мерзлатою клятай.
Сьмех супастатаў цешыўся: «Канец!»

Імпэрцы так сьпяшаліся з канчынай,
Каб распладзіць бяспамяцтва рабоў.
Ды за плячыма ў даты той — Айчына,
У курганах сівых, у збройных чынах,
Дзе — паласой па белым — наша кроў.







* * *

Захочаш сьлёз, а сьлёз ня будзе,
зноў анямее белы сьвет,
у сад твой прыйдуць злыя людзі
і стопчуць яблыневы квет.
Пад зрэб'ем, бы пад павуціньнем,
заб'ецца грэшная душа,
анёл у цемры сьлепкай згіне,
свайго шукаючы крыжа.
Тлум дзён сплыве, і недзе ўпотай
прарок народзіцца другі,
зямля пачуе часу дотык
ад цеплыні яго нагі.
У цішыні сярод гаркоты
спакой настане на зямлі,
але ўсё гэта будзе потым,
ніхто ня ведае, калі.

* * *

Са скрыжаляў спрадвечча й душы
Пачынаецца наш радавод.
Ты, гісторыя, так і пішы:
Талышы — значыць горды народ.

Пэрсы, туркі, як хмары, ішлі,
Мы ня змоўклі, як рэха ў быльлі,
Не пакінулі роднай зямлі.
Талышы — значыць вольны народ.

Мова наша — дачка вышыні.
На талыскія горы зірні —
Крэўных песьняў ня згаснуць агні.
Талышы — значыць вечны народ.

Мы азёры, азёры грымот,
Дзеліць нас і калючыцца дрот.
Нас нічый не расьціснуў прыгнёт.
Талышы — значыць дужы народ.

У нашчадках ня спыніцца час,
Розных нас ён рассудзіць якраз.
Мудрым думкам ня трэба акрас.
Талышы — значыць мудры народ.

Кветак шмат, быццам зор уначы.
Цяжка мяккаму ліха змагчы.
Скажуць мяккаму: ты памаўчы.
Талышы — значыць цьвёрды народ.

Птушак вольнымі робіць палёт.
Талышы — мройнакрылы народ.

*Джамал Лалазаа*

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





* * *

Мы ранкам зь цяжкасьцю ўставалі,
бо радасьць ранку не для нас.
Яму насустрач пазяхалі
і праглі, каб ён дзесь захрас
ў слаце дарожнай. Ды нязьменна
ён нас прыходзіў мучыць зноў.
І, дзень пракляўшы, мы ганебна
заміж гарачай кавы кроў
глыналі, ўпотай зачыніўшы
душу ад позірку свайго,
наліўшы ў шкло сваіх кілішкаў
жыцьцё сяброў. Ніхто ня мог
спыніці круг саромнай звычкі,
і толькі сонна пазяхаць
адно быў здольны род няцьвічны...
Наш род. Аб чым яго пытаць?
І мы зяхалі. Зьеўшы сонца,
дашчэнту вызяхаўшы дзень,
мы мелі ноч за абаронцу,
ды мы ня зналі і яе.
І ночы зорнае скрыжалі
нам зноў выносілі вырок:
«Яны свабоду ўшчэнт зьзяхалі,
і хто спыніць іх мог, хто мог?»

*Алесь Сьпіцын*

*Дзяніс Рыбакоў*

* * *

Жураўлі адлятаюць, стаю я самотны,
Ды да болю ў вачах я гляджу ім усьлед.
Жураўлі адлятаюць далёка, за сьвет,
Чую крык разьвітальны, тужліва пяшчотны...
Крык аціх... нешта зьмеркла ў душы, адышло;
Зноў баляць мне старыя нязьлечныя раны.
Жураўлі адляцелі, пагасла сьвятло.
Зноў і сонца пячэ, зноў вясна на зямлі,
Адно з сэрца ужо не сыходзіць адчай...
Дзе ж ты сьветлы, вясёлы дзяцінства мой Гай?
І чаму ж вы з чароўных мясьцін, жураўлі,
Зноў кіруеце ў гэты чарнобыльскі рай,
У стаптаны, забіты, прададзены край?





*Міхаліс Пашыардзіс*

* * *

Яго я сустрэў на вуліцы
спалатнелага, немараснага блуканца.
«Ёргас, — сказаў я,
каб пачула мяне й цішыня, —
ты вярнуўся, ды дзе ж
ты пакінуў каня свайго!»
Тут я заўважыў, што ён чапляецца
за нізрынутае царства.
І птушкі, не заціхаючы,
шчабяталі бяссонна,
паглыбляючы час і
бессэнсоўнасьць.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

*Міхал Ладысеў*

* * *

Заплюшчу вочы я — ураз перада мною
Паўстане капішча — паганскі храм.
Я крочу да яго дарогаю сваёю,
Зямлі маёй душу сваю аддам.
Год тысячу таму жылі тут нашы продкі
Дрыгавічы, радзімічы ды крывічы.
Іх побыт быў будзённа нетаропкі,
Яны жылі, сваім багам паклоны даючы.
Былі іх рукі чыстыя, ды чыстыя іх душы,
У вырай-рай траплялі ўсе яны,
Пакуль ня зьведалі трукацтва, крывадушша
Ды сорам золата ня зьелі кайданы.
І хціўцы-злодзеі у чорныя апраткі
Спавіць жадалі нашу Белую зямлю,
Яны свае — чужынскія — уводзілі парадкі,
Ды кінулі чужое зерне ў нашую ральлю.
Радзіма! Ты апоена чужынцам,
Дурман ці адхісьнеш з сваіх вачэй,
Ці зможаш ты пайсьці сваім гасьцінцам,
Павыгнаць за парог нязваных тых гасьцей.




*Алесь Калесьнікаў*

* * *

Я не разумею, чаму
сьвет ператварыўся ў турму?
У абдымкі вечнай зімы
трапілі, няшчасныя, мы.
Кружаць над сялом груганы
ў прадчуваньні новай вайны.
На руках у нас — кайданы.
У вачах вісяць туманы.
Недзе нема выюць ваўкі.
Як баімся мы іх, бедакі!
Сьвет ператварыўся ў турму.
Каму гэта патрэбна? Каму?

*Зарына Жамойціна*

* * *

За дальнім борам сонейка начуе.
Уладу ноч-князёўна прыняла.
На сьвечкі полымя глядзець хачу я.
Як не хапае мне яго сьвятла!..

Сьвятло і цемра... Скрозь гады, стагодзьдзі
заўсёды побач — рознымі былі.
Дабро і зло ў вар'яцкім карагодзе
кружылі ў часе, лёсы нам плялі.

Дабра ўсё менш... Яго зьнікае сіла —
бяскрылы не ўзмывае птах у высь.
Магнатка часу знак сьвятла насіла,
ды ўжо забыла, што ён быў калісь...

Сьвяці, агеньчык, ярка і пяшчотна!
Праменьчык-водбліск, па сьцяне скачы!
Сьвяці, Дабро, па ўсёй Зямлі самотнай,
як сьвеціць сьвечкі полымя ўначы!





*Андрэй Вазьнясенскі*

* * *

Гняздо — каронай над бярозаю.
Над хутарам счарнелым стылі
з бусьліхай бусел, нібы ў роздуме,
бяздумна-сумна й артыстычна.

Гняздо над заглушшу прышпілена,
як указаньне Бэтлеему,
дзьве шыі слодычччу зьнясілены,
так дзьве зьмяі
    над чашай зьзьвілены
у мэдыцынскую эмблему.

Забіла забыцьцё ўладарна
гняздоўе ўнізе гаспадарскае.
Зруб згніў.
    Бяз працы бусел госьціць.
Як адарыць мілосьцю здарыцца,
дык трэба адарыць — кагосьці.

Яшчэ ўсё Беларусь замроена:
не адрадзіла сем'і згіблыя.
Бязь іх і птушкі абяззброены.
А раптам і яны бяз цыбліка?

...Аднойчы неяк спадарожніца
з дарогі ў дождж глухі саб'ецца,
ад ласкі неба, асьцярожнае,
пад сэрцам дзіва ў ёй заб'ецца.

Сваё абмацваючы цела —
нібы запалкі ўсё шукае —
сьвітальна скажа: «Заляцела.
Вам прынясу, буслы, сынка я».

*Пераклад Рыгора Барадуліна*

* * *

Пад небам тваім
з году ў год каласіцца
густой збажыне,
і ўвосень чакаць ураджаю,
у небе тваім
вольным птушкам аб шчасьці маліцца,
і ў час навальнічны, трывожны
змагацца з адчаем.
Да болю знаёмыя,
блізкія мне далягляды —
руку працягні
і адчуеш, запомніш трывала
пагоркаў, узвышшаў, парослых травой,
вадаспады і плёсы лугоў,
і бяскрайніх лясоў пераваЛы.
Тут побач з сучаснасьцю
даўнасьць ўзыходзіць жывая,
гаючымі сокамі зь нетраў,
з карэньняў бруіцца,
паходняў адбіткі —
рабінаў агні дагараюць,
і стомлены вершнік
над замчышчам грозным імчыцца.
А вецер губляе старонкі забытых трактатаў,
далёка да ісьціны,
нібыта да сьветлага раю.
Тут Будны Сымоне
вялікасьцю слова узьняты
праз тоўшчы стагодзьдзяў
нашчадкаў сваіх азірае.
І ў час ачышчэньня да сьветлага белага храма
сьцячэцца людзкой гаманы





мнагаслоўе жывое,
абудзіцца сноў паўзабытых маіх дыярама,
пральецца званоў тваіх слодыч,
прычасьце сьвятое.

*Павал Зьмітрук*

* * *

Ён выжыў, дзе ня ўмерці немагчыма,
І не сатлеў, дзе нельга не згарэць,
Адна ў яго, нібы душа, — Айчына,
Такая ж неўміручая, як сьмерць.

Такая ж непазьбежная, як Слова,
Што каб параніць, выбера свой час...
І мой народ не выракаўся мовы —
Яна часамі пакідае нас.

Пакіне ды ўсё роўна, быццам косьць,
Праз год, праз сто, а горла не міне,
Яна — як Бог, які ўсё роўна ёсьць,
Ўсё роўна, верыш ты ў Яго ці не...

Бог... Ён адзін над змогай і зьнямогай,
Хай сабе розных любім мы багоў,
І нават той, хто ненавідзіць Бога, —
Ён гэтым самым верыць у Яго.

А нам баліць прызнацца і прызнаць,
Што не заўжды народам мусім звацца...
А як няма нам сілаў бунтаваць,
Адкуль жа столькі сілаў — пакарацца!?





*Ганад Чарказян*

* * *

Хто страціў спадзеў, той асірацеў,
аддаўшы змроку дні свае і мроі.
Рахманым ветрыкам зрабіўся гнеў,
што колісь мог падужацца з гарою.

Там, дзе ня кленчаць волі і красе,
дзе над усім
пануе страх адзіны,
высока сьмерць касу сваю нясе,
руінам спавядаюцца ўспаміны.

І здраднік,
толькі б цень свой зьберагчы,
крываваму тырану прысягае.
Нікчэмнасьць ціснецца ў паслугачы,
ды позірк помсты аж да зор сягае.

Забойцы ходзяць сьцежкаю крывой,
што ж іх наўпрост вядзе на край прадоньня.
Свабода здабываецца крывёй.
Дню заўтрашняму
трэба верыць сёньня!

Альфансас Малдоніс

* * *

У пяску, як гільзы страляныя,
спачываюць сябры мае закапаныя,
пад дзёрнам цяжару не адчуваюць,
на касьцях сваіх адпачываюць,
як на дошках цьвярдых труны —
на касьцях сваіх белых яны.

Ляжаць на лаянках і на лёзунгах,
на асколках, на мінах пагрозьлівых,
на пажарышчах чорных самых,
у чатырохкутных рамах-ямах
ляжаць маёй маладосьці партрэты —
небыцьця белыя сылюэты.

А ўва мне словы іхнай гаркоты,
нібы ў доме дзіцячым сіроты,
прытуліліся, цьвелячы рызыку,
як лясы зялёныя ў прысаку.
Крона лісцяў дрыжыць высока
на галінах, якія ўсохнуць.
У халодным попеле мне вы
бачыцеся, жывыя дрэвы —
ля шляху, што зьбег назаўсёды,
ля ракі, што спыніла воды,
дзе знойдзе куля сосьлепу сэрца,
а з чалавекам чалавек разьмінецца.

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





Вольга Бярозка

* * *

Блакітам неба
і зьзяньнем зор,
усьмешкай сонца
і пахам ветру,
як быццам шляхам
мінулых дзён,
праходзіць рэха,
сузор’яў рэха…
Сьвятло сузор’яў,
магутны бор
і сьпеў празрысты
папараць-кветкі,
як быццам вежаў
старых палон —
ўсё гэта рэха,
каханьня рэха.
Вось так імгненна
і на гады,
так выпадкова
і назаўсёды
аднойчы ўгледзець
сьляды, сьляды
сваёй няволі,
сваёй свабоды.

*Марына Шода*

* * *

Шлях да зор шукала дарма я.
Вечны лёс Бабілёнскае вежы.
Нехта верш на свабоду мае.
Я ня маю свабоды на вершы.

Не свабоду пяю, турботы.
Адлятаюць у вырай сны.
Месяц сьнежань, драныя боты.
І чаканьне новай вясны.





*Яраслаў Квасавец*

* * *

Алё! Гэта Свабода?
Не, гэта Лукашэнка.
А вы ўсе нячэсныя.
Я куплю вам зонцік.

Алё! А гэта Свабода?
Не, гэта МакДональдз.
Сёньня ў нас Гэпі Міл,
замест цацкі — трошкі свабоды.

Алё! Ці гэта Свабода?
Не, гэта Навінкі.
Прыяжджайце да нас —
у нас тут шмат свабоды.

Алё! Гэта ж Свабода?
Не, гэта кватэра чукчы.
А свабода — на маёй радзіме:
направа тундра, налева — алень.

Алё! Гэта ўжо Свабода?
Не, гэта яшчэ пастарунак.
А свабода для ўсіх будзе,
калі дазволіць Бацька.

Алё! Ну гэта, нарэшце, Свабода?
Не, гэта Расейская амбасада!
Нас тут і так падрываюць,
а вы пра сваю свабоду...

Алё!!! Ці пачую ж я Свабоду!?
Не, але можаце пабачыць.
Вунь яна ля мэтро
раздае народу ўлёткі...

І я схапіў улётак пачак,
і зь імі выйшаў я на двор,
свабоду я хачу пабачыць
ў люстэрку тысячы азёр.







* * *

Нас згубіцелі ў белі ня здоляць спаганіць,
Змрок спрадвечны завее вачніц белізну,
І тады распачнуць пераможаных ганіць,
Храм адчыняць і ўбачаць там бездань адну.

Век гучэлі надрыўныя цёмныя сьпеньні,
І псаломы цяжкія гнялі алтары.
За ўрачыстасьць пакут і сьвятыя памкненьні
Нас у ямную цьвіль акунулі псары.

Невымоўнай нямотай спатоліць магілы,
Сёньня вольныя мы ад сабачых патраў,
Навальнічных садоў палыскуюць пахілы,
І бруіцца праменьне вірных пераправў.

Набрылі чужыны ў князеў хорам нязморна
І сьмяюцца, мы ў латах сьмяротных, як ёсьць,
Ледзянымі сьлязьмі і аддзячым штозорна
Ўсіх палеглых на ратных палёх, ягамосьць.

Толькі нашая сьмерць не аддзельна ад славы,
Сьвята гэтае тленьне, а ў тле прамянёў
Не прапекчы й гартованай стальлю дзяржавы
Воч, налітых пантоннай крывёю агнёў.

*Юсуф Джумаеў*

* * *

Дакуль краінай будзе ёлуп кіраваць,
дакуль мы будзем самадурніка трываць?
Да ўстаньня зь мёртвых, да ісьлямскага суда!
Дакуль мудрэйшых будуць невукі вучыць,
дакуль за кожным будуць выжлякі сачыць?
Да ўстаньня зь мёртвых, да ісьлямскага суда!
Дакуль да праўды шлях, няспынены ў вяках,
наш шлях трымацца будзе ў д'ябалавых руках?
Да ўстаньня зь мёртвых, да ісьлямскага суда!
Дакуль краіны, ўзяўшы здраду на пастой,
у тыраніі лютай будуць пад пятой?
Да ўстаньня зь мёртвых, да ісьлямскага суда!
А як забруіць сьвятло, хай кат дрыжыць.
Сканае здрада, вера мусіць жыць.
Бо прыйдзе хутка ён,
як збаўца ад пакут,
устаньня зь мёртвых дзень, ісьлямскі суд!

*Пераклад Рыгора Барадуліна*





*Сьвятлана Раманава*

* * *

Выйду на ўзгорак, уздыму рукі ў неба
і буду маліцца за ўсіх нас, збалелых.

Мілы мой Божа, даруй нам заганы!
Ці можа быць шчасьце бяз жудасных ранаў?
Караеш пакутай нядбалыя душы,
а можа цікуе нас нехта відушчы?
Рагоча, блюзьнерыць і ставіць падножкі,
пабліскваюць ў цемры агідныя рожкі,
цікуе якраз за імгненьне да шчасьця.

Прачыстая дзева, ня трэба напасьцяў!
Даруй малым дзеткам, даруй і дарослым.
Дай моцныя крылы для думак узьнёслых.

Хай будзе імя Тваё песьняй маёю!
А вольная воля ня стане пятлёю!

* * *

На зямлі чужынскі ўрад
і чужыя словы,
і нідзе ня ўчуеш нат
гукаў роднай мовы.
Скуль жа звар'яцелая
гэткая навала:
Беларусь, зямля мая,
мне чужою стала?
Што рабіць мне? І куды
мне цяпер падацца?
Ці з Радзімай назаўжды
варта разьвітацца?
Як ня мілы родны кут,
дык нішто ня трэба.
Як ня маю месца тут,
то пайду на неба.
Перад Богам упаду
на калені з плачам,
і пра ўсе распавяду
беды і няўдачы.
Віны вызнаю свае
і Хрыста ўзгадаю.
Ён даруе ўсім нам грэх,
сэрцы суцяшае.
Як ня маю на зямлі
месца, дзе падзецца,
дык нябесных скарбаў тых
стану спадкаемцам.







* * *

Не абяцаю не любіць цябе,
мой край,
вясеньнім ранкам ці зімовай ноччу,
мой велічавы аксамітны рай,
з табою нам заўсёды разам крочыць.
З табою буду ўсё жыцьцё дзяліць,
ляцець у полі шчэбетам птушыным,
з тваіх крыніц вадзіцу буду піць,
чакаючы апошняе хвіліны.
Тваіх вачэй рамонкавых цяпло
насіць у сэрцы буду, як прысягу,
яно мяне з калыскі ўжо знайшло,
каб даравáць па родным краі смагу.

* * *

Хіліць вецер дрэвы долу,
Гнуся сам, як дрэва, я.
Да цябе іду я, Воля,
І душа ідзе мая.

Зноў і зноў пытаю:
«Дзе я?»
За бядой ганю бяду.
Крокам прадзеда і дзеда
Безнадзейна я іду.

Коўзкі шлях перада мною,
Зь лёду голага той шлях,
Густа высьлізган маною,
Злосна-сіні па краях.

Хоць душа і не сьляпая,
А зблудзіла зноў чаго?
Сьледам прадзеда ступаю,
Не намацваю яго.

Я ня ведаю прытомы,
Не кляну сваю хаду.
Да цябе, нібы дадому,
Памяць цэлую іду.

Ты сустрэчу прадракаеш,
Зачакалася сама.
Ты адна ў мяне такая.
Ты, якой са мной няма.







* * *

Чуеш гэты цяжар і боль у сэрцы?
Гэта не хвароба, не.
Гэта сэрца нагадвае табе,
за што змагацца павінен,
каб апомніўся і ня траціў жыцьцё дарэмна,
каб не саромеўся сказаць, дзе жывеш,
каб упэўнена йшоў ты наперад,
каб не пабаяўся заклікаць да барацьбы
народ свой нясьмелы
ды ашалелы ад жаху.
Яны стаміліся, як і ты,
жыць вось так,
ня бачаць ужо сьвятла ў цемры.
А трэба з каленяў падняцца, устаць
ды паказаць сваю сілу і моц
сабе і цэламу сьвету.

* * *

супакоены вечарам сьвет
цені доўгія — доўгія быццам
як з абзораным небам ня зьліцца
не пачуць той далёкі прывет

тут ля мора
што высахла ўчора
тут ля хваль-успамінаў, тугі
ты спаткаў мяне, мой дарагі
залацісты, як сон, адвячорак

толькі соснам усё ні па чым
ці іх боль мне ужо не дасяжны
ці ж ня я узьбіраўся адважна
з каранёў да вяршынь ўдалячынь

зоры вечны свой ткуць запавет
ён калісьці павінен адбыцца

супакоены вечарам сьвет
з маім словам ня можа ня зьліцца







* * *

У калосьсі зярняты-блізьняты,
а бяз коласу зерне — адно.
Крок за крокам — зь цемры ў сьвятло
асьцярожна ўзрастала яно.

Год за годам між нетраў і неба
адкрываецца думка-Сусьвет.
Мох і дрэва, вужакі і птах —
адзінокага зерня шлях.

Узрастае ў няволі калосься
моцны, горды і вольны Дух.

**Песьня на свабоду***

Ты пяеш — і з табой маё сэрца пяе
Ты заплачаш — і ў сэрцы непагода
Ты бядуеш — малюся, каб мукі твае
Нам прынесьлі збавеньне, Свабода

Кайданы страху й маны з душаў мы зьнімем
Сілай жарсьці, любові, дабра й тваім імем

Ты пяеш — і з табой маё сэрца пяе
Я шукаю цябе, як цябе мне не стае

Можа, ты толькі сном доўгія нам сьнісься гады?
Хто ты? Цуд? Бог? Летуценьне?
Веру я, што ты зыркім сьвятлом прыйдзеш сюды
Й асьвятляць наш сьвет будзеш заўжды

Разумею героя, што гіне
За адзіную ў сьвеце багіню

Ты пяеш — і з табой маё сэрца пяе
Ў горы й шчасьці багомлю цябе, о Свабода

Ты нам шлях азарай, нашу песьню ствярай
Каб кіпеў хваласьпеў, пеючы вольны край

Вольны край! Вольны край!

* З ангельскамоўнага лібрэта опэры Дж. Вэрдзі «Набука» Дж. Джоўнза.

*Пераклад Андрэя Хадановіча*

## Паказьнік аўтараў

### А



### Б



### В



### Г

## Д



## Е





## Ж



## З



## І



## К

## Л



## М

## Н



## П



## Р



## С

## Т



## У



## Ф



## Х



## Ц



## Ч

## Ш



## Э



## Ю



## Я





## Пераклады